Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 12 (4812) 27 сакавіка 2015 г.



## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку РСФСР Надзею Бабкіну з днём нараджэння. «Вы атрымалі ўсенароднае прызнанне як спявачка, якая мае рэдкі па прыгажосці і гучанні голас. Вы зрабілі неацэнны ўнёсак у захаванне і папулярызацыю народнай песні, узнялі яе на новую творчую вышыню і заваявалі сэрцы мільёнаў людзей», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі будзе адзначаны 2 красавіка ў Маскве ўрачыстым вечарам у Дзяржаўным тэатры эстрады. Лейтматывам стане тэма 70-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

✔ Беларуская частка камісіі па культурным супрацоўніцтве беларуска-кітайскага міжурадавага камітэта вызначыла прыярытэтныя напрамкі двухбаковага супрацоўніцтва ў сферы культуры паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай.

✔ Беларуска-турэцкі інфармацыйна-адукацыйны цэнтр створаны ў г. Адана (Турцыя). Дзейнасць гэтай структуры будзе скіравана на развіццё адукацыйных і культурных сувязей паміж установамі вышэйшай адукацыі Беларусі і Турцыі, а таксама на падрыхтоўку турэцкіх грамадзян да паступлення ў БДУ ды іншыя ВНУ нашай краіны.

✔ Нацыянальны гістарычны музей Беларусі першым з музеяў краіны далучыўся да міжнароднай твітар-акцыі *#MuseumWeek-2015*, якая праходзіць з 23 па 29 сакавіка. Летась у праекце ўдзельнічала 630 музеяў з 20 краін свету, было апублікавана больш як 260 тыс. твітаў, прысвечаных культурным тэмам і арт-падзеям. Сёлета арганізатары імкнуцца ахапіць максімальна шырокую публіку дзякуючы забаўляльнаму ды інтэрактыўнаму фармату.

✔ Заўтра ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь у межах выстаўкі «Mater Dei. Іканаграфія аднаго кахання» адбудзецца канцэрт «Страсці Хрыстовы ў «Добра тэмпераваным клавіры» Іагана Себасцьяна Баха» лаўрэата міжнародных конкурсаў Аляксея Пшанічнага.

✔ Вясеннія дні адчыненых дзвярэй праходзяць у Белдзяржуніверсітэце. Філалагічны факультэт, Дзяржаўны інстытут кіравання і сацыяльных тэхналогій, Інстытут тэалогіі імя святых Мяфодзія і Кірыла чакаюць будучых студэнтаў сёння. А заўтра ў Ліцэі БДУ адбудзецца Фестываль факультэтаў.

✔ У штаб-кватэры ААН адбыўся паказ мастацкага фільма «Брэсцкая крэпасць». Першая дэманстрацыя ў Нью-Ёрку сумеснай беларуска-расійскай кінастужкі — адно з мерапрыемстваў, што праводзяцца ў сувязі з 70-годдзем заканчэння Другой сусветнай вайны, яка прадвызначыла неабходнасць стварэння ААН.

✔ Культурныя мерапрыемствы ў гонар 70-годдзя Перамогі пройдуць на працягу года ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. На 5 — 6 мая запланавана ўрачыстае адкрыццё рэспубліканскага фестывалю народнай творчасці ветэранскіх калектываў «Не старэюць душой ветэраны».

# «Чайка»


Фота БелТА

**Сусветны дзень тэатра адзначаюць сёння, 27 сакавіка, работнікі ўсіх «храмаў культуры» планеты. Да гэтага дня прымеркаваны ўрачыстыя мерапрыемствы, фестывалі, прэм'ерныя спектаклі. Напярэдадні свята галоўныя тэатральныя пляцоўкі Беларусі прэзентавалі новыя пастаноўкі: Купалаўскі тэатр — знакамітую «Чайку» Антона Чэхава, Вялікі тэатр — шэдэўр рускай оперы «Царскую нявесту» Мікалая Рымскага-Корсакава.**

Над сцэнай Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Чайка» праляцела 20 сакавіка. Пастаноўка п'есы, напісанай А. Чэхавым у 1896 годзе, — трэцяя ў гістарычнай скарбонцы купалаўцаў. На вялікай і малой сцэнах тэатра «Чайка» ішла ў 1954 і 1996 гадах. Сёння ў Мінску можна ўбачыць мінімум тры версіі знакамітага спектакля: некалькі месяцаў таму на сцэне Маладзёжнага тэатра з'явілася пастаноўка «Чэхаў. Камедыя. Чайка», Тэатр лялек аднаўляе свой вопыт прачытання гэтага спектакля, на Міжнародным форуме тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ» восенню паказалі гучную «Чайку» літоўца Оскара Каршуноваса, таму сталічныя тэатралы жартуюць, што занадта шмат «чаек» зляцелася ў Мінск у гэтым сезоне.

— Чэхава ставяць паўсюль. Ён заўсёды сучасны, таму што пісаў пра тое, што не змяняецца, — адзначыў рэжысёр-пастаноўшчык Купалаўскага тэатра Мікалай Пінігін. — «Чайка» — п'еса па-за сацыумам і палітыкай, таму яна і вечная. Чалавечая сутнасць нязменная ў стагоддзях. Людзі ўсё гэтак жа, забываючы пра самае важнае, лаюцца, мітусяцца, крыўдзяць і знішчаюць адзін аднаго, паводзяць сябе так, нібыта будуць жыць вечна.

Чытайце на стар. 16 ▶

# ...ці «Царская нявеста»?

**Ні да, ні пасля «Царскай нявесты» Мікалай Рымскі-Корсакаў не ствараў опер настолькі цэласных, дынамічных, удалых у раскладцы галасоў. Пасля опер-казак, опер-былін і опер-паданняў кампазітар звярнуўся да традыцый «Руслана і Людмілы» М. Глінкі.**

Створаная на мяжы стагоддзяў (прэм'ера адбылася ў 1898), яна адрозніваецца глыбінёй тэм, яркімі характарамі, мноствам сольных і ансамблевых шлягераў. «Царская нявеста» мае асаблівае значэнне для Вялікага тэатра Беларусі, яна ўвайшла ў яго «залаты» рэпертуар. Папярэдняя пастаноўка «Царскай нявесты», 1950 года В. Пірадавай, В. Шахрай і С. Мікалаева, стала амаль такім жа «доўгажыхаром», як і «Аіда». І вось сёння, праз 60 гадоў, легендарная опера ізноў на сцэне Вялікага.


Фота Анжалікі Грэковіч

Чытайце на стар. 16 ▶

# Новы мост

Журы II Міжнароднага конкурсу «Мост дружбы» вызначылася з пераможцамі. Гэтым разам з больш як сотні празаічных твораў маладых аўтараў з Беларусі і Расіі члены Экспертнага савета, у які ўвайшлі прадстаўнікі абедзвюх краін, выбралі для фінальнага абмеркавання 16 работ. У выніку пераможцамі конкурсу сталі пяць беларусаў і пяцёра расіян.

Як адзначыў Аляксандр Ушакоў, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры, «пераважная большасць прадстаўленых твораў — вельмі сур'ёзныя рэчы. У параўнанні з тым, што публікуецца сёння, гэта не можа не радаваць. Тое, як арганічна нашыя аўтары валодаюць мовай, — таксама прыкмета таленту». Спадар Аляксандр выказаў пажаданне, каб конкурс і яго пераможцы як мага шырэй прадстаўляліся ў друку, бо, на яго думку, «Мост дружбы» аб'ядноўвае не толькі дзяржавы, але і людзей. Дарэчы, гэтае меркаванне падтрымала і памочнік Дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Алена Аўчарэнка, якая выступіла з прапановай апублікаваць творы ўсіх фіналістаў у расійскіх і беларускіх выданнях, а таксама на сайце Саюзнай дзяржавы, у той час як работы-пераможцы пабачаць свет у спецыяльным альманаху, грант на выданне якога выйграла РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"». Сюды ўвойдуць творы Яўгена Капусціна, Ільі Луданава, Сяргея Непшы, Георгія Фаміна ды Ірыны Іваннікавай з Расіі і Кацярыны Фядотавай, Вікторыі Сінюк, Алены Папко, Андрэя Дзічэнкі ды Аляксея Старухіна з Беларусі.

Падчас пасяджэння Экспертнага савета была ўхваленая прапанова аб правядзенні семінара для пераможцаў і сёлетняга, і першага конкурсаў, што, безумоўна, падтрымае ўдзельнікаў і натхніць іх на новыя творы.

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

# Абай у байнэце

Пушкін і Абай, Фет і Абай, рэцэпцыя творчасці Абая Кунанбаева ў далёкім замежжы, Вялікі Абай на беларускай зямлі, вобраз казахскага паэта, асветніка, мысляра ў выяўленчым мастацтве, паралелі ў творчасці Абая і Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа — пра ўсё гэта можна прачытаць на старонцы «Абай крочыць па планеце», якая пераствараецца ў сапраўды бязмежную прастору.

Беларускі характар інтэрнэт-старонкі, прысвечанай казахскаму асветніку Абаю, з'яўляецца нацыянальным хіба што па месцы нараджэння электроннага праекта «Абай крочыць па планеце». Функцыянуе ён на сайце *Zviazda.by*, што належыць Выдавецкаму дому «Звязда», у межах тэматычных абсягаў «Сугучча. Созвучие», дзе прадстаўлены літаратура і публіцыстыка краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Сёння на старонцы «Абай крочыць па планеце» выступаюць кандыдат мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. Аўэзава Дзіяра Шарыпава, кандыдат філалагічных навук Серыказы Карабай, які загадвае сектарам абаязнаўства і літаратуры новай эпохі ў гэтым жа інстытуце, доктар філалагічных навук Шэрыяздан Елеўкенаў, доктар мастацтвазнаўства Райхан Ергаліева, дацэнт Цэнтральна-Азіяцкага ўніверсітэта Алма Тусупава, загадчык кафедры казахскай літаратуры Еўразійскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Л. Гумілёва, акадэмік Нацыянальнай Акадэміі навук Казахстана Сеіт Каскабасаў, беларускі паэт Мікола Мятліцкі, малады перакладчык Рагнед Малахоўскі і многія іншыя.

— Нам вельмі дапамагае казахскі літаратуразнаўца Святлана Ананьева, — кажа мадэратар праекта Валяр'ян Шкленнік. — Пастаянныя стасункі з ёю дапамагаюць пазнаёміцца з абаязнаўцамі літаральна з усяго свету. Сёння на сайце тры мовы — беларуская, руская і казахская. Спадзяюся, што ў бліжэйшы час Абай загаворыць з Мінска па-азербайджанску і па-туркменску, па-ўкраінску і па-англійску. Мне падаецца, што праекты кшталту інтэрнэт-старонкі «Абай крочыць па планеце» яднаюць магчымасці электронных тэхналогій і ўплываў мастацкага слова на свядомасць чалавека і грамадства.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Вайскоўцы чытаюць

Група прадстаўнікоў Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі завітала да вайскоўцаў у адну з часцей паблізу вёскі Мачулішчы, што ў прысталічным раёне.

Нагод для высадкі творчага дэсанту некалькі: Сусветны дзень паэзіі, Дзень войскаў супрацьпаветранай абароны, Дзень Перамогі.

Трыццаць пяць гадоў аддаў Узброеным Сілам краіны пісьменнік, краязнаўца, гісторык, аўтар многіх кніг пра радавых абаронцаў Айчыны, афіцэраў і генералаў Барыс Даўгатовіч. Уважліва слухалі воіны расказ Барыса Дзмітрыевіча пра жыццё беларусаў у гады Вялікай Айчыннай, пра пошукі землякоў, якія зрабілі найбольшы ўклад у вызваленне Беларусі ад захопнікаў.

Шчыра і пранікнёна гучалі вершы журналіста з Узды Віктара Сабалеўскага і намесніка старшыні абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў, кіраўніка абласнога клуба самадзейных кампазітараў і паэтаў «Жывіца» Ірыны Карнаухавай. Для гледачоў гэтыя паўтары гадзіны сталі магчымасцю далучыцца да мастацкага слова, згадаць даармейскае жыццё, родныя мясціны, блізкіх, каханых.

Педагогі Віктар Кажура і Уладзімір Цанунін нядаўна папоўнілі шэрагі СПБ. Па лёсах іх родзічаў, аднавяскоўцаў у свой час таксама прайшлася вайна, таму і праз дзесяцігоддзі гэтая тэма актуальная ў іх творчасці.

Падобныя сустрэчы пісьменнікаў з працоўнымі, вучнёўскімі, студэнцкімі, вайсковымі калектывамі ў год 70-годдзя Вялікай Перамогі, Год моладзі спрыяюць папулярызацыі лепшых твораў беларускіх літаратараў і падказваюць тэмы для новых вершаў, апавяданняў, песень.

**Сяргей ВАСІЛЬЧУК**

*Конкурсы*

# Талентам братніх краін

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь запрашае да ўдзелу ў конкурсе «Неизвестный Петербург»-2015, што праводзіцца Камітэтам па друку і ўзаемадзеянні са сродкамі масавай інфармацыі Санкт-Пецярбурга.

Мэты конкурсу — папулярызацыя чытання; выяўленне новых літаратурных талентаў; садзеянне яднанню народаў Расіі і Беларусі. Задачы — далучэнне гараджан, перш за ўсё моладзі, да літаратурнай творчасці; прапаганда ідэй адзінства славянскіх народаў; спрыянне ўмацаванню сяброўскіх сувязей народаў Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі.

Тэмы конкурсу — «70 гадоў Вялікай Перамогі», «Разам мы мацнейшыя!», «Мой любімы пецярбургскі (беларускі) пісьменнік», «Што я ведаю пра Пецярбург (Мінск)?» Жанры конкурсных твораў — апавяданні, нарысы, літаратурныя замалёўкі, вершы.

Конкурсныя матэрыялы прымаюцца да 15 красавіка гэтага года на электронны адрас Дома пісьменніка (г. Санкт-Пецярбург): *dp.konkurs_2015@mail.ru*. Заяўка афармляецца асобным файлам і павінна ўтрымліваць прозвішча, імя і імя па бацьку аўтара, кантактны тэлефон, e-mail, род заняткаў (па жаданні), тэкст (не менш як 7000 знакаў, шрыфт Times New Roman, 12, Microsoft Office Word). У назве файла ўказваюцца прозвішча і ініцыялы аўтара, намінацыя (напрыклад: Іваноў А. І., проза).

Журы конкурсу (старшыня — віцэ-губернатар Санкт-Пецярбурга — кіраўнік Адміністрацыі губернатара Санкт-Пецярбурга Аляксандр Гаваруноў) перадаецца 50 адабраных рабочай групай матэрыялаў, з ліку аўтараў якіх будуць выяўленыя два пераможцы. Урачыстае падвядзенне вынікаў творчага спаборніцтва адбудзецца ў межах X Санкт-Пецярбургскага міжнароднага кніжнага салона. У Доме пісьменніка пройдзе ўручэнне дыпломаў лаўрэатам конкурсу. Будзе выдадзены і зборнік, які складуць творы пераможцаў.

**Арына КРАЙКО**

# Адкрыццё года

Падведзены вынікі творчага конкурсу на прысуджэнне штогадовай літаратурнай прэміі Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі «Адкрыццё года». На саісканне прэміі былі вылучаны творы паэзіі, прозы, публіцыстыкі і літаратурнай крытыкі 12 аўтараў ва ўзросце ад 18 да 29 гадоў, апублікаваныя на працягу 2014 года.

Аднагалосным рашэннем экспертнай камісіі пад кіраўніцтвам старшыні МГА СПБ лаўрэатам літаратурнай прэміі сталічнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі «Адкрыццё года» стала пісьменніца Дар'я Лёсава — за апавяданні, надрукаваныя ў часопісе «Маладосць». Лаўрэату ўручаны адпаведны дыплом і грашовая ўзнагарода.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# Мелодыі да вершаў

Чарговыя, 18-я, Мінскія паэтычныя читанні, якія ладзіць Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, былі прымеркаваныя да Сусветнага дня паэзіі. Чытанні традыцыйна праводзіліся ў Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы, але гэтым разам — пад знакам 70-годдзя Вялікай Перамогі.

Свае творы публіцы прадставілі Валянціна Паліканіна, Віктар Шніп, Анатоль Аўруцін, Навум Гальпяровіч, Ала Чорная, Мікола Шабовіч, Глеб Артханаў, Ганна Міклашэвіч, маладыя паэтэсы Таццяна Купрыянец і Ганна Мартынчык, а таксама галоўны спецыяліст МГА СПБ Іна Фралова і старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў.

Узяў удзел у імпрэзе і трэцякурснік музычнага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі баяніст Андрэй Канаплёў.

**Яна ЯВІЧ**

# Прынятыя ў СПБ



**Наталля Аляксандраўна МІХАЛЬЧУК**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 12 сакавіка 1979 года ў г. Магілёве. Скончыла факультэт славянскай філалогіі МГУ імя А. А. Куляшова. Саіскальнік навуковай ступені кандыдата філалагічных навук у аспірантуры БДУ. Аўтар амаль 20 навуковых публікацый, вучэбнага дапаможніка «Современный русский язык. Морфемика. Словообразование» (Магілёў, 2011) ды кнігі вершаў, паэм і эсэ «Коралловый ветер» (2014).



**Уладзімір Мацвеевіч МАКАРАЎ**

*Секцыя публіцыстыкі*

Нарадзіўся 14 сакавіка 1955 года ў г. Чалябінску (Расія). Скончыў Свярдлоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае танкава-артылерыйскае вучылішча і Гуманітарную акадэмію ўзброеных сіл Расійскай Федэрацыі. Кандыдат педагагічных навук. Начальнік упраўлення інфармацыі — прэс-сакратар галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Аўтар кнігі «Выбор белорусского народа — прорыв в будущее» (2014).



**Святлана Мікалаеўна ТАРАСАВА**

*Секцыя крытыкі і літаратуразнаўства*

Нарадзілася 18 лістапада 1966 года ў в. Васілёўка Хоцімскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і аспірантуру пры інстытуце літаратуры НАН Беларусі. Старшы выкладчык кафедры беларускай літаратуры ГрДУ імя Янкі Купалы. Аўтар некалькіх дзясяткаў навуковых публікацый і метадычных рэкамендацый, у тым ліку дапаможніка «Гісторыя беларускай літаратуры. Сучасны перыяд» (ГрДУ, 2001).

# Дарогамі вайны

Днямі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася імпрэза «Але жывуць яшчэ ўспаміны аб гэтай жудаснай вайне…». У творчасці паэта тэма Першай сусветнай займала важнае месца. Колас прайшоў дарогамі вайны, удзельнічаў у баях на Румынскім фронце. Перажытае і ўбачанае адлюстраваў у паэме «На шляхах волі», асобнае выданне якой («Мастацкая літаратура», 2014) прэзентавалася на вечарыне.

Абмяркоўвалі твор паэт Віктар Шніп, малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, літаратуразнаўца Міхаіл Мушынскі. Урыўкі прагучалі ў выкананні заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Валянціна Салаўёва, а музычнае аздабленне вечарыны забяспечыў паэт і бард Дзмітрый Пятровіч.

Прысутныя азнаёміліся з выстаўкай, якую падрыхтавалі супрацоўнікі ўстановы. У экспазіцыі прадстаўлены рукапісы паэмы 1950-х гадоў, а таксама фотаздымкі з асабістага архіва Івана Каменскага, сваяка Коласа, які быў удзельнікам ваенных дзеянняў.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Літвандроўка

# Да Кляшторнага ў госці

Ужо некалькі гадоў Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі ажыццяўляе праект «Літаратурнае падарожжа».

Гэтым разам творчая вандроўка прывяла на Лепельшчыну — цудоўны край азёр і талентаў, якія заявілі пра сябе ў розных галінах мастацтва. Сярод іх асаблівае месца належыць паэту Тодару Кляшторнаму (1903 — 1937), памяць пра якога ў Лепельскім раёне, найперш у аграгарадку Камень (непадалёку адсюль, у вёсцы Парэччы, і нарадзіўся паэт) ушаноўваюць штогод. У 2003-м рашэннем Лепельскага гарадскога выканаўчага камітэта Каменская сельская бібліятэка ператвораная ў бібліятэку-музей Тодара Кляшторнага.

Гэтая ўстанова культуры і стала першым пунктам творчага маршруту. Загадчык кніжніцы Ірына Знарок падрабязна распавяла пра экспазіцыю, мерапрыемствы, якія ладзяцца тут. У Каменскім доме культуры са школьнікамі сустрэліся загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, паэты Аліна Легастаева і Казімір Камейша, літаратурны крытык і публіцыст Алесь Марціновіч. Да арганізацыі падарожжа актыўна спрычыніліся намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Лепельскага райвыканкама Тамара Бароха і дырэктар Лепельскай цэнтральнай бібліятэкі Ірына Тарасава.

Яшчэ адна сустрэча з юнымі чытачамі адбылася ў Лепельскай цэнтральнай бібліятэцы. Гэтым разам гаворка ішла пра набыткі беларускай літаратуры, пра імпрэзы, якія ладзіць рэспубліканская пісьменніцкая арганізацыя. Свае кнігі з аўтографамі сюды перадалі старэйшына айчыннай літаратуры Алесь Савіцкі і старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.

Слаўныя літаратурныя традыцыі на Лепельшчыне працягваюцца. Пацвярджэнне таму — нядаўні выхад кнігі казак «Ша-Ша з левага чаравіка» маладой пісьменніцы, ураджэнкі Лепеля Алены Мальчэўскай.

**Арцём КРУГЛІК**

# Паэзія як непазбежнасць

Даведацца пра людзей, якіх не пакідае літаратурны талент, нягледзячы на іх зусім не пісьменніцкія прафесіі, можна было на вечарыне ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Мерапрыемства прайшло 20 сакавіка — напярэдадні Сусветнага дня паэзіі.

«Такое сумяшчэнне тлумачыцца даволі проста: у мяне вельмі цяжкая спадчыннасць. Бацька піша вершы ўсё жыццё, але адмаўляецца іх публікаваць. У яго ёсць сястра, якая выдала ўжо шэсць паэтычных кніг», — распавёў Георгій Барташ. Гісторык па адукацыі, ён упершыню стаў вядомы як арганізатар «Фэсту аднаго верша». Зараз празаік, паэт і перакладчык, які, тым не менш, працуе настаўнікам.

«Справа яшчэ і ў тым, што я належу да пакалення дзяцей і падлеткаў, якія вельмі актыўна чыталі кнігі, бо не было інтэрнэту. Мяне заўсёды цікавіла, дзе ж знаходзіцца тонкая рыса паміж гістарычнай праўдай і прыдумкай. Таму гісторыя і літаратура для мяне заўсёды пераплятаюцца», — дадаў пісьменнік.

Падчас імпрэзы журналіст і паэт Андрэй Адамовіч шчыра падзяліўся са слухачамі прафесійнымі жартамі. Музыкант і праграміст Сяргей Башлыкевіч, у сваю чаргу, выканаў некалькі песень пад акустычную гітару. Павел Касцюкевіч, псіхолаг па адукацыі, прадставіў свой новы раман «Бабнік» пра хлопца, які жыве разам з бацькамі, бабулямі і дзядулямі.

Музычна-літаратурная вечарына невыпадкова прайшла менавіта ў музеі знакамітага беларускага паэта: Максім Багдановіч, які жадаў вучыцца на філолага ў Санкт-Пецярбургу, вымушаны быў па рашэнні бацькі атрымліваць адукацыю юрыста ў ліцэі горада Яраслаўля. Але гэта не перашкодзіла яму дасягнуць вялікіх вяршынь у літаратуры!

**Марыя ВОЙЦІК**

# Багушэвіч. Лепшае

Публічная бібліятэка № 14 горада Мінска ўжо пятнаццаць гадоў носіць імя Францішка Багушэвіча. Да 175-годдзя з дня нараджэння славутага творцы ў бібліятэцы адбылася прэзентацыя кнігі серыі «Беларускі кнігазбор» «Францішак Багушэвіч. Выбраныя творы». Літаратурную вандроўку па шляхах паэта падрыхтавалі супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.

Кніга выбраных твораў Ф. Багушэвіча пабачыла свет у Выдавецкім доме «Беларуская навука».

— Серыя «Беларускі кнігазбор» задумвалася і напачатку выходзіла як акадэмічная, — расказаў галоўны рэдактар выдавецтва Георгій Кісялёў. — Прыкладна пяць гадоў таму да нас завітаў Кастусь Цвірка, мы знайшлі паразуменне і пагадзіліся, што можам рыхтаваць частку кніг у нашым акадэмічным выдавецтве. Такім чынам, «Беларускі кнігазбор», які нарадзіўся ў акадэміі навук, зноў вярнуўся ў акадэмічнае рэчышча. У мінулым годзе мы выдалі сумесна пяць кніг.

Кастусь Цвірка падкрэсліў, што падрыхтаванае да юбілею выданне ўпершыню прадстаўляе творчасць паэта ў такім поўным аб'ёме. Па традыцыі «Кнігазбора» кніга ўключае матэрыялы, якія адлюстроўваюць жыццё і шматбаковую дзейнасць творцы. К. Цвірка параўнаў Францішка Багушэвіча з Тарасам Шаўчэнкам: як і вялікі ўкраінскі паэт, Багушэвіч згуртаваў Беларусь і быў адным з першых нашых класікаў.

Працу над новай кнігай акрэсліў пісьменнік, тэкстолаг, архівіст Язэп Янушкевіч, якому яшчэ ў дакамп'ютарную эру давялося быць укладальнікам аднатомніка «Францішак Багушэвіч», прымеркаванага да 150-годдзя паэта.

На прэзентацыі таксама былі прадстаўлены фотаальбом «Партрэты паўстання 1863 — 1865», у якім ёсць і тры фотаздымкі з родавага альбома Багушэвічаў. Укладальнікі альбома — Язэп і Каміла Янушкевічы.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# З легендаў і міфаў



«Флора».

Зала мастацкай галерэі «Беларт» выстаўляе жывапісныя творы члена беларускага Саюза мастакоў Анатоля Концуба. Экспазіцыю склалі каля 20 карцін.

Анатоль Аляксандравіч вучыўся на аддзяленні керамікі ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Жывапіс з хобі ператварыўся ў асноўны занятак. Дарэчы, Анатоль Концуб яшчэ і кераміст, што заўважаецца ў яго работах: іх вылучае аб'ёмнасць і выразнасць, дбайная вымалёўка дэталяў.

Персанальныя выстаўкі творцы адбыліся ў Бабруйску, Магілёве, Гомелі, Санкт-Пецярбургу, Лінцэ ды іншых гарадах. Мастак штогод удзельнічае ў пленэрах па жывапісе і кераміцы, а летась па выніках міжнароднай выстаўкі «Гармонія — Азія» ў Шанхаі быў узнагароджаны залатым медалём.

У работах аўтара — удумлівасць і адначасова паэтычны погляд на свет. Разнастайныя па тэматыцы нацюрморты, пейзажы і сюжэтныя фігуратыўныя кампазіцыі вызначаюцца выразнасцю, тонкім гумарам. На палотнах дзіўным чынам суіснуюць і ўзаемадзейнічаюць міфалагічныя і гістарычныя персанажы з розных культурных традыцый, якія разам утвараюць непаўторны свет жывапісу.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Чытаюць хлопцы!

Наўздагон «Літаратурнаму дзявочніку» ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі адбыўся музычна-паэтычны «Хлапечнік», арганізаваны сумесна з парталам *textura.by*. Вядучай вечарыны была рэдактар літаратурнага партала Ірына Карэніна — але чытаць творы на свяце мужчынскай паэзіі дзяўчатам не дазвалялася!

Андрэй Касцюкевіч пазнаёміў наведвальнікаў з вершамі Фрыдрыха Ніцшэ ў перакладзе на беларускую мову (цыкл «Песні прынца Фогельфрая»). Парадаксальны Віктар Лупасін прадэманстраваў жанравую разнастайнасць сучаснай беларускай паэзіі. Аўтар прачытаў трыялеты, балады, хайку і зробленыя па ўласным рэцэпце «піражкі», а потым паабяцаў, што гэты выступ стаўся апошнім перад доўгім творчым перапынкам. Выдатна сустрэла публіка вершы Аляксея Саламахі, яго праніклівую паэму «Касцюшкава прысяга».

У якасці маладога і перспектыўнага паэта быў прадстаўлены Антон Рудак. Песні на яго вершы выканаў антыкавербэнд «Гарадскі Вал». Ірына Карэніна адзначыла камернасць і асаблівую цеплыню літаратурных сустрэч у музеі, а таксама гарантавала, што ў партала *textura.by* ёсць яшчэ нямала цікавых задум і эксперыментальных праектаў.

«Хлапечнік» атрымаўся «культурным» і зусім не брутальным!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Творцы — падлеткам

Творчая канферэнцыя пісьменніцы Людмілы Кебіч, дзве кнігі якой — «Дамінанты лёсу» і «Гродна — горад каралёў» — пабачылі свет летась, прайшла ў сярэдняй школе № 12 г. Гродна. У межах сустрэчы з чытачамі адбылося абмеркаванне новых выданняў.

Да вучняў і настаўнікаў далучыліся выкладчыкі кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і члены Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Падчас сустрэчы Людміла Кебіч распавяла прысутным пра свае кнігі. Абедзве адрасаваныя падлеткам. Першая — аўтабіяграфічная аповесць, другая — гісторыка-краязнаўчы нарыс.

У абмеркаванні актыўны ўдзел узялі падлеткі: яны нават напісалі водгукі. Падчас імпрэзы пісьменніца адказвала на шматлікія пытанні. Школьнікі папрасілі Людмілу Антонаўну стварыць працяг кнігі «Дамінанты лёсу», дзе распавядаецца, як чалавек, з дзяцінства закаханы ў музыку, пачынае адрозніваць новыя і новыя адценні жыцця, аддаючы перавагу галоўнаму — чысціні душы.

Рэдактар кнігі, кандыдат філалагічных навук Руслан Казлоўскі, звярнуў увагу на адметнасці аўтарскага стылю, мовы.

Другая кніга, «Гродна — горад каралёў», знаёміць чытача з гістарычнай спадчынай горада, дзе жывуць прадстаўнікі дзясяткаў нацыянальных суполак.

**Дзмітрый РАДЗІВОНЧЫК**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**30 сакавіка** — *у абласной бібліятэцы імя Пушкіна (Гікала, 4) адбудзецца прэзентацыя кніг Алега Ждана. Пачатак а 18 гадзіне.*

**30 сакавіка** — *у літаратурную гасцёўню «Сябрына» пры гімназіі № 20 (вул. Адзінцова, 80) на творчую сустрэчу з маладымі пісьменнікамі. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**31 сакавіка** — *у Школу юнага літаратара пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5, каб. 309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**1 красавіка** — *на свята гумару — прэзентацыю кніжнай серыі выдавецтва «Чатыры чвэрці» — «Несур'ёзна пра сур'ёзнае». Імпрэза адбудзецца ў галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь (пр. Незалежнасці, 116). Пачатак у 14:30.*

**2 красавіка** — *на пасяджэнне студыі мастацкага чытання «Вобраз» пры СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56), прысвечанае 70-годдзю Вялікай Перамогі. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**2 красавіка** — *на літаратурнае свята — падзвядзенне вынікаў літаратурнага конкурсу сярод студэнтаў Белдзяржуніверсітэта «Славянскі калейдаскоп», прысвечаны Дню яднання народаў Беларусі і Расіі і 70-годдзю Вялікай Перамогі. Імпрэза адбудзецца ў Доме Масквы (вул. Камуністычная, 86). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**2 красавіка** — *на літаратурна-музычнае свята, прысвечанае Тыдню дзіцячай кнігі. Мерапрыемства пройдзе ў дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак у 15:30.*

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні члену Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаю Сяргеевічу БАРЫСЕНКУ з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці ЖОНКІ.



Шарж Аляксандра Каршакевіча

## Анатоль ЗЭКАЎ

### Пражэктары ног

Б'юць і рэжуць па зрэнках,
Каб аслеп ты, як ноч,
З фары светлай сукенкі
Два пражэктары ног.

**Казімір Камейша**

*Як за руль машыны сяду,*
*Дык у час тае язды*
*Павысвечваю ў дзяўчат я*
*Ногі фарамі заўжды.*

*Без машыны йду, няйначай, —*
*Зноўку тое ж, далібог:*
*У сукенках-фарах бачу*
*Два пражэктары іх ног.*

*Разануць святлом*
*па зрэнках,*
*Хоць залезь па вушы*
*ў мох,*
*Тымі фарамі сукенкі,*
*І ў пражэктарах іх ног*

*Заскачу, нібыта заяц*
*Перад фарамі ўначы,*
*Хоць ад іх я не ўцякаю,*
*Ды й не хочацца ўцячы.*

*І стаю, аслупянелы,*
*Ля дарогі, быццам ёг...*
*Ад сукенак —*
*бела-бела,*
*А яшчэ бялей —*
*ад ног.*

*У святле тых ножак*
*гонкіх*
*Стану й сам*
*я маладзей...*

*Добра, што не бачыць*
*жонка.*
*З ёй бы так*
*не паглядзеў...*

### Параўнанні

Раскрыю яблыка сакрэт
У глыбіні сусвету:
Адзін маленечкі ранет —
Як цэлая планета.

**Навум Гальпяровіч**

*З усіх паэтаў я — паэт,*
*Вядома ж, разумнейшы.*
*Раскрыўшы яблыка сакрэт,*
*Пішу пра тое вершы.*

*Узяць ранет. Сярод галля*
*Глядзіцца яблык гожа.*
*А што ён круглы, як зямля,*
*Дадумацца не кожны.*

*А я дадумаўся. Адзін*
*З усіх — каго ні згадвай.*
*То ж недарэмна ў сад хадзіў*
*І той ранет выглядваў.*

*У агарод скірую зрок:*
*А мо і там што ўбачу.*
*Я б апісаў і агурок,*
*Ды параўнаць няма з чым.*

## Анатоль ЦЫРКУНОЎ

### Дзяльба

*Рознай масці махляры*
*дзеляць Божыя дары:*
*калі нехта звышбагаты,*
*шмат другіх не маюць хаты,*
*у адных жыллём камора,*
*у другіх палац ля мора,*
*нават замак на прыкмеце...*
*Як то будзе на тым свеце?*

### Персідскі кот

*У спальным раёне ёсць дом,*
*і ёсць у тым доме каморка,*
*жыве ў ёй старая акторка*
*на пару з персідскім катом.*
*Кот добры, такога і ў Персіі*
*не знойдзеш, адна ў іх бяда:*
*палова бабулінай пенсіі*
*ідзе на ўтрыманне ката...*

### Ода гарбаце

*Калі не застанецца «зелля»,*
*каб ранкам здзейсніць*
*апахмелле,*
*не трэба піць адэкалон,*
*яго ж не п'е Алан Дэлон...*
*Гарбата — лепшае лячэнне,*
*глынеш — і будзе*
*аблягчэнне.*

### Эпітафія сатырыку

*Нарэшце супакоіўся навек*
*Для падхалімаў шкодны*
*чалавек,*
*шмат іх цяпер з палёгкай*
*уздыхне,*
*нікога эпіграмай не кране.*

### Нуварыш

*Калісьці голым быў і босым,*
*затое лоўкім па натуры,*
*ён з іншых голых дзёр*
*тры скуры,*
*і стаў багатым важным*
*босам...*

### Драма жыцця

*Хоць драматург пасрэдны*
*літаратар,*
*Не Гоголь і не Шэкспір,*
*Але затое лоўкі плагіятар,*
*Літаратурны вампір.*

### Самаедства дазволена

*Не стане суд караць нікога,*
*як людаеда,*
*хто есці стаў сябе самога,*
*а не суседа.*

## Барыс КАВАЛЕРЧЫК

### Пра нашых каханых

☺ Мужчыне цяжка стаяць на сваім, калі жонка села яму на шыю.

☻ Жанчыны — гэта як вытрыманае віно: чым больш у іх вытрымкі, тым болей яны падабаюцца.

☺ Разумная жанчына тая, якая ўмее не дапускаць глупства мужа.

☻ Жанчына можа зрабіць мужчыну шчаслівым. І нават калі яна адмовілася выйсці за яго замуж.

☺ Жанчына хоча быць першым каханнем мужчыны і калі яна ў другі раз выходзіць замуж.

☻ Калі жонка не зусім добра корміць мужа, дык гэта яшчэ не значыць, што яна яго не любіць. Гэта яна вельмі клапоціцца пра яго фігуру.

☺ У невялікай жаночай галаве добра ўкладваюцца яе вялікія запатрабаванні.

☻ Вага жанчыны не робіць яе аўтарытэт больш важкім.

☺ Узрост жанчыны нельга вызначыць па колькасці пярсцёнкаў на яе пальцах.

## Пётр СЯМІНСКІ

### Шчукар

Хвасцішчам заехаў шчупак
Сусвету па мордзе.

**Юрка Голуб**

*Па Нёмну плылі шчупакі*
*І шпарка, і горда.*
*І восць у цячэнне ракі*
*Ўпісалася морда!*
*І раптам яна шчупакоў,*
*Ні многа, ні мала,*
*Таемна, без думак і слоў,*
*На мігах спытала:*
*— Ці часта вас тут рыбакі,*
*Зямлі генералы,*
*Лапаюць, схаваўшы кручкі,*
*Ў чарвячнае сала?*
*Я вас запрашаю ў сваю*
*Святую запруду,*
*Ваду там праз шлюзы сальяю,*
*Спяваць песні буду.*
*Я марай такой і жыву,*
*А мроіць умею,*
*Па хвалях надзеі плыву*
*І так цверазею...*
*Страсаў гучны рогат раку*
*Ў дзівосным акордзе,*
*Калі біў шчупак дзіваку*
*Хвасцішчам па мордзе...*
*Сто свечак спаліў без дзяцей*
*Дзівак на абедні,*
*Што ледзь не сустрэў юбілей*
*У свеце суседнім.*




Малюнак Паўла Гарадцова




Малюнак Руслана Богуша

## Іван Карэнда

### Бярозавік

I

*— Іван, бярозавік пайшоў!*
*Вясна і ў гаспадарстве!*
*Прыходзь пад вечар*
*з гладышом,*
*Налью лякарства! —*
*вітае раніцай сусед.*

*— Зямля, відаць, адтала.*
*Бог на вачах мяняе свет:*
*Цяплынь настала!..*

*Праз дзень-другі*
*буслоў чакай,*
*І поўны вырай — следам...*

*Зноў працы будзе*
*шмат рукам, —*
*кажу суседу...*

*Той наш кароткі дыялог*
*Не варты быў бы ўвагі,*
*Даўно, як сон, забыцца мог,*
*Ды меў працяг ён.*

II

*Вясновы дзень, як ручаёк,*
*Між дрэў рудым папасам,*
*Мільгнуў і знік —*
*бы матылёк*
*Знікае часам.*

*Над вёскай плыў,*
*згушчаўся змрок,*
*Агні гарэлі ў хатах.*
*...Я не пайшоў тады*
*па сок —*
*Свайго багата.*

*Свая бяроза пад акном,*
*Што пасадзіў калісьці.*
*Спускаў і я сок гэтым днём —*
*Навошта лішні?..*

*Адно ўключыў ТВ-экран —*
*Пачуў ля хаты крокі.*
*Гляджу: ідзе сусед Сцяпан,*
*З лякарствам-сокам.*

III

*Я не пайшоў — ён сам прынёс,*
*У слоіку пад пахай,*
*І суне мне пад самы нос:*
*Скажы, чым пахне?*

*Зямлёй, а чым яшчэ?!*
*На смак —*
*Салодкая вадзіца...*

*Каб цукрам стаў, —*
*хто лічыць так...*
*Шкада тупіцу... —*

*Ён на паўслове абарваў*
*Маю развагу-думку.*

*Калі пустая галава,*
*Маўчы, не трумкай...*
*Глытні, разумнік гарадскі, —*
*Разы са тры — не болей, —*
*Здаровы будзеш на вякі,*
*Не знаўшы болю...*

IV

*Я пазіраю на яго:*
*Жартуе? Нецвярозы?*
*Знайшоў, аднак, здзівіць каго*
*Слязой бярозы.*

*І тут пачуў я маналог,*
*Працяглы, шчыры роздум:*

*Не, нездарма прыдумаў Бог*
*Для нас бярозу.*
*Мы на зямлі з табой жывём,*
*З вялікай ласкі боскай*
*Штодзень з яе вадзіцу п'ём,*
*Як быццам з соскі.*
*А сок-бярозавік — лічы,*
*Як напамін пра тое,*
*Што трэба людзям берагчы*
*Усё святое...*

V

*— З маёй бярозы —*
*лепшы сок,*
*Мая — стаіць на ўзгорку,*
*Пад ёю жоўценькі пясок...*
*Твой, пэўна, горшы... —*

*сусед свой гонар меў і тут.*

*— Сваю навошта, дружа,*
*Ты пасадзіў у мокры кут,*
*Ля самай лужы?*
*Маёй, відаць, за сто гадоў.*
*У сіле, хоць старая, —*
*Штовесну больш за сем пудоў*
*З яе збіраю.*
*Падкісне, кубак зачарпнеш —*
*Адчуеш раўнавагу.*
*А ў спёку летам ён найлепш*
*Натоліць смагу...*

VI

*— ...Расказваў прадзед*
*мой яшчэ...*
*Здаўна для чалавека*
*Сок, што з бяроз вясной*
*цячэ, —*
*Найпершы з лекаў... —*

*Сусед працягваў маналог,*
*Вячэрнюю прамову,*
*А я баяўся, далібог,*
*Уставіць слова.*
*— ...Сок боль здымае,*
*як рукой,*
*Ачысціць кроў старанна,*
*Дасць сэрцу лёгкасць і спакой,*
*Загоіць раны.*
*Умее печань бараніць,*
*За дзень прагоніць кашаль,*
*Раструшчыць можа камяні*
*У нырках нашых...*

VII

*...Чытаў мне лекцыю сусед,*
*Нібы прафесар чынны.*
*Каб я засвоіць мог як след,*
*Належным чынам:*

*— У рэшце рэшт,*
*скажу я так:*
*Бярозавік — выгода:*
*І непаўторны, рэдкі смак,*
*І асалода.*
*Бальзам для сэрца і душы!..*
*...Прашу цябе, без жартаў:*
*Пра гэта вершык напішы —*
*Сок верша варты.*
*І не забудзь, што лепшы —*
*мой!*
*З маёй бярозы — лепшы!..*

*З тым і пайшоў сусед дамоў...*

*...Так склаўся вершык.*

## Таццяна Будовіч-Барадуля

# Падарунак

Ці даводзілася вам бачыць калі хоць якую-небудзь самую задрыпаную здань, самы маленькі, жалю варты прывід? А, можа, НЛА, снежнага чалавека альбо нэсіпадобную пачварыну? Мне пакуль яшчэ не пашчасціла. І таму не было чым пахваліцца ў свой чарговы дзень нарадзінаў.

Я нагатавала ўсялякай смакаты, запрасіла сяброўак, мы загрузілі ўсё гэта ў аўто і ў выключна дзявочай кампаніі пакацілі святкаваць на дачу. Дзень ужо хіліўся да вечара. Распалілі камін, спехам сабралі на стол. Калі галоўныя пажаданні былі выказаны, бутэлька шампанскага апусцела, а ад марозіва і іншых кулінарных асалодаў нічога не засталося, на двары была ўжо цёмная, густая ноч. І атмасфера, і час спрыялі распавяданню страшных гісторый. Да гэтага дзяўчаты і прыступілі.

— Варажыла я аднойчы на Святкі. Запаліла свечку, паставіла яе паміж люстэрак. Утварыўся бясконцы калідор. Сяджу, углядаюся ў тую люстраную каламуць, чакаю. І тут фігура ў «калідоры» з’яўляецца. Спачатку маленькая, а потым, па меры набліжэння, усё болей і болей. Мне б сказаць, што ў такіх выпадках належыць, але я твару пакуль не разглядзела, надта ж ён дробны. І так соладка-жудасна мне стала… Як раптам проста з люстэрка рука вылазіць… цягнецца да мяне… Як зараз памятаю: хударлявая такая кісць, з доўгімі вузлаватымі пальцамі. Я ад жаху так закрычала, што, мусіць, усе суседзі з навакольных дамоў чулі, ускочыла, свечка ўпала і згасла…

— А я раз з сяброўкай на моры адпачывала. Жылі мы ў атэлі ў адным пакойчыку. Прачынаюся неяк зусім рана, гляджу на яе — а яна, Сонька, стаіць каля свайго ложка ў начной кашулі, з заплюшчанымі вачыма. Хацела спытаць я, чаго яна ўзадралася на світанні, як глянула на яе ложак, а там мірна гэтак сабе спіць… яшчэ адна Соня. Я ад жаху пад коўдру з галавой! А калі насмелілася адтуль вылезці, то Соня засталася адна — тая, што ў ложку. Як спала, так спіць.

Мне ж, імянінніцы, зусім не было чаго згадаць. Хаця… магла б, канечне, распавесці пра свае пошукі прыгодаў: як начавала раз у кляштары, дзе шмат разоў бачылі прывід Белай дамы, як паўночы бадзялася па палацавым парку, дзе рэгулярна з’яўляецца прывід Чорнай панны, як у прыцемках гуляла па могілках… Але, мусіць, усе гэтыя звышнатуральныя істоты не лічаць мяне аб’ектам, вартым іх яснавяльможнай увагі. Ні Белай дамы, ні Чорнай панны, ні іншага колеру істоты так ні разу пабачыць і не давялося. Аднойчы толькі на могілках перад самым носам з кустоў нейкі хлопец вышмыгнуў і сам мяне спужаўся, адразу на пяту! Але ён быў самы што ні ёсць рэальны, худы і кудлаты.

— А я неяк уночы прачнулася, быццам адчула, што на мяне глядзіць нехта. І раптам бачу: у акне — чырвоныя вочы! Гараць пякельным агнём, па той бок шыбы… Якая мяне жудасць апанавала! Ляжу, не магу варухнуцца, нават закрычаць няма сіл…

Мне карцела выказаць версію, што тое было сном, але я не наважылася разбурыць створаную атмасферу таямнічасці: цішыня, патрэскваюць дровы ў каміне, чорны квадрат акна…

Выйшлі на вуліцу. Нас абнялі хвалі халоднага, пругкага зімовага паветра.

— Глядзіце, якое неба зорнае, у горадзе такога не знойдзеце! — усе мройна глядзелі на неба.

— Ташка, лаві знічку ў свой дзень нарадзінаў, жаданне загадвай!

— Загадай, Ташка, каб і з табой адбылося нешта незвычайнае!

— Добра! Загадаю, каб да нас у госці самы сапраўдны вампір завітаў!

— Ён да цябе за кіламетр не наблізіцца! Ты ж не зможаш дзеля яго ахвяраваць сваімі ўлюбёнымі часночнымі салацікамі! — Ірка ніколі не прапусціць магчымасці пакпіць з чужой слабасці.

— То хай здалёк павіншуе!

— Ой, дзяўчаты, а куды ж гэта месяц падзеўся? — ужо сур’ёзна, пацепваючы плячыма, запыталася Наста.

— Перыяд у яго такі зараз, калі ён нябачны. Паміж чацвёртай і першай квадрай яго сапраўды нельга разгледзець каля пяці дзён.

Мы вярнуліся ў хату, зачынілі дзверы і пайшлі спаць. На наступны дзень каталіся на каньках па замерзлым возеры, любаваліся зімовымі краявідамі, проста дурэлі, абсыпаючы адна адну снегам. Бліжэй да вечара прыбралі ў хаце і пачалі збірацца. З’язджаць не хацелася, мы быццам знарок адцягвалі час ад’езду.

Упакаваўшы ў багажнік свае валізкі, не згаворваючыся, зірнулі на неба, усыпанае зоркамі. Месяца не было.

Мы забраліся ў аўто і паехалі. Ва ўтульным цёплым салоне дзяўчаты разамлелі, размаўляць не хацелася — усе тэмы былі абмеркаваныя, і таму ехалі моўчкі, кожная думала пра сваё.

Я ж мусіла не расслабляцца, трымацца напагатове, бо адказнасць за нашу бяспеку цяпер ляжала на мне як на кіроўцы. Кіламетраў за дваццаць да горада дарога была пустыннай, зрэдку цемру разразала святло фар сустрэчных машын. У нейкі момант я заўважыла наперадзе прамень цьмяна-чырвонага святла. Ён маячыў прыкладна ў тым месцы, адкуль вынырвалі аўто па сустрэчнай паласе. Таму я і чакала, што зараз адтуль нешта і з’явіцца з ярка-чырвоным дальнім святлом фар. Але яно не з’яўлялася, а прамень усё ярчэў і ярчэў. Хутка ён зрабіўся настолькі яркім, што стала ясна: гэта не сустрэчнае аўто. Але што тады? Нейкі водсвет? Водбліск электрычнага гарадскога марыва?

Калі я спынілася, каб выйсці паглядзець, што ж там такое, дзяўчаты папрачыналіся і таксама павыскоквалі. Нам адкрылася дзівоснае відовішча: усё неба перад намі было прарэзана ярка-чырвонымі промнямі, ад якіх стала даволі светла, ясна праглядалася поле абапал дарогі. Складвалася ўражанне, што высока, за некалькі тысяч метраў над зямлёй, завісла нешта накшталт лятаючай талеркі гіганцкіх памераў і з яе ілюмінатараў па перыметры ліецца вакол тое чырвонае святло. Праўда, самой талеркі разгледзець не ўдалося, быццам яе закрываў густы туман ці шчыльныя аблокі (якіх мы не ўгледзелі на ясным зорным небе перад самым ад’ездам з дачы). Карціна выглядала настолькі фантастычнай, што, пэўна, калі б зараз на дарозе перад намі матэрыялізаваліся прышэльцы ў скафандрах, мы б не здзівіліся болей, чым ужо былі здзіўлены. Неверагоднасць сітуацыі падкрэслівалася яшчэ і амаль поўнай адсутнасцю машын з абодвух бакоў. Адна, праўда, паказалася на сустрэчнай паласе і адразу ж знікла, прамчаўшыся міма нас на такой шалёнай хуткасці, быццам за ёй гнаўся іншапланетны танкавы ўзвод.

Так мы стаялі яшчэ доўга, у поўнай цішы ўзяўшыся за рукі, не ў змозе адарвацца ад таго нерэальнага відовішча. Не ўяўляю, што б мы рабілі, калі б зялёныя чалавечкі, якіх часта апісваюць так званыя кантакцёры, раптам выскачылі на дарогу. Але гэтага не адбылося, а чырвоныя промні між тым пачалі паступова блякнуць.

Час прыспешваў вяртацца ў горад. На пад’ездзе да яго чырвонае сяйва з ілюмінатараў нябачнай талеркі ўжо не праглядалася. Затое ў нас (і, напэўна, асабліва ў мяне) з’явілася нязнанае раней пачуццё далучанасці да нейкай незямной таямніцы. «Лепшага падарунка на мой дзень народзінаў і быць не магло, — думала я. — Як не прывід, дык хоць святло іншапланетнай цывілізацыі ўпала на маю дарогу».

Не ведаю, колькі б яшчэ падобныя мроі вярэдзілі маю свядомасць, калі б наступным вечарам я не пагартала свежую газету. У ёй на першай паласе апавядалася, што ўчора, у такім месцы, у такі час можна было назіраць рэдкасную для нашых шырот з’яву прыроды — водбліскі паўночнага ззяння. І месца, і час, згаданыя там, цалкам адпавядалі прасторавым і часавым каардынатам нашай начной прыгоды.

## Андрэй СІДАРЭЙКА

# Тайна

Аднойчы я зайшоў да знаёмага — Івана Іванавіча, які сядзеў за сталом з жонкай. Запрасілі і мяне.

— Мы аддаём перавагу вегетарыянскай ежы, — сказаў той. — Так што прабач, катлет няма.

— Вегетарыянства вельмі карыснае, — падтрымала мужа другая палавінка. — Мы выключылі з рацыёну прадукты жывёльнага паходжання. У выніку Іван Іванавіч скінуў вагу, а вось колькі здароўя набыў!

— Так-так, — кіўнуў знаёмы. — А ўжо як папрыгажэла мая ластаўка! Як яе шчочкі наліліся здаровым румянцам!

Гледзячы на абвіслы жывот аднаго і на здранцвелыя тлушчам бакі іншай, у гэта было цяжка паверыць. Але я змаўчаў.

На наступны дзень я сустрэў Івана Іванавіча ў горадзе. Ён кудысьці спяшаў. Але па шляху прапанаваў зайсці ў сталоўку. Да майго здзіўлення, на месцы знаёмы ўзяў зусім не салаты, а суп з фрыкадэлькамі і макарону з адбіўнымі.

— А як жа дыета?! — здзівіўся я.

— Ды ну яе! — махнуў рукой Іван Іванавіч. — Гэта ўсё жонка. Маўляў, хто клапоціцца пра сваё здароўе, прытрымліваецца дыеты. Прыйшлося пагадзіцца. І вось так паўгода мучыўся. Але потым вынайшаў спосаб. Стаў днём ездзіць у сталовую на супрацьлеглы канец горада. Тут і свініна, і адбіўныя... Ты толькі ёй нічога не кажы. А то будзе мне!

Івану Іванавічу я даў слова гонару: ні-ні. Перакусіўшы, мы абое выйшлі са сталовай у добрым настроі і накіраваліся па сваіх справах.

Праз некалькі дзён давялося бачыць жонку Івана Іванавіча ў кафэ. На яе спадачку ляжала піражнае ды іншыя прысмакі. Не змог прайсці міма. Слова за слова, разгаварыліся.

— А як жа дыета, Святлана Уладзіміраўна? Салодкае ж не спалучаецца са здаровым харчаваннем, — запытаўся між іншым я.

— Усё пачыналася добра, — пачала здалёк тая. — Я цалкам прытрымлівалася вегетарыянскай ежы. Але пасля... Ведаеце, салодкае — маё захапленне! Вы толькі мужу нічога не кажыце! — паглядзела жаласлівымі вачамі на мяне Святлана Уладзіміраўна.

— Вось маё слова, — паабяцаў я.

У нядзелю я абедаў у Івана Іванавіча. Як і ў першы раз, муж і жонка дзяліліся са мной тым, наколькі карысны вегетарыянскі лад харчавання і якіх вынікаў дзякуючы яму яны дасягнулі. І па чарзе крадком падміргвалі мне. Іх погляды я разумеў. Таму трымаў язык за зубамі.

## Мікола ПАДАБЕД

# Байкот

Сымон ледзь пераступіў парог свайго дома і, трымаючыся рукамі за сцяну, зрабіў некалькі крокаў, каб плюхнуцца ў крэсла. Убачыўшы п’янага ў сцельку мужа, Ганна загаласіла:

— Ой Божухна! Во да чаго дажыўся! Напіўся да свінячага піску. Сымон, дзе так нажраўся?

— Цыц, мая радасць! Цыц! Раскаркалася! Хто нажраўся? — пачаў апраўдвацца той. — Я га-га-лод-ны-ы. Дзень у роце нічога не было. Таму і аслабеў — ногі ўжо не трымаюць. Хістаюся, як былінка ад ветру.

— А хто ж табе ў горла заліў? І вунь уся морда ў салаце, — не ўнімалася жонка. — Няма ў цябе ні сораму, ні сумлення. Прапіў. Ты мне жыццё паламаў! Кідай свае дурыкі! Цярпенне ў мяне ўжо лопнула. Пакуль не позна, уключы мазгі. А то будуць праблемы. Вялікія праблемы.

— Ой, язык у цябе, Ганулька, як памяло, — агрызнуўся Сымон. — Задзяўбла ты мяне! Не лезь пад скуру! Ці хочаш на маіх нервах пайграць? Не атрымаецца! А калі ўвесь пар выпусціла, сядзь каля мяне. Абдымі і ўзнагародзь пацалункам. Чаго губы надзьмула і нос адвярнула? Зло затаіла, што набраўся, як дурань на памінках. Прабач, мая харошая, прабач. Сябры спакусілі. Маўляў, давай казу замочым. А я што — лысы! Не ўстояў… Мо ўладзім як-небудзь?

— Чакай, чакай, я нічога не разумею. Якую казу абмывалі? Няўжо сабе купіў? Дык у нас карова ёсць. Нясеш нейкую лухту. Ну і фокуснік! Табе толькі працаваць у цырку, а не ветурачом на жывёлагадоўчым комплексе.

— Ганулька, не крычы! Свае ж людзі. Не накручвай сабе нервы. Бярэч сэрца трэба. А чаго казу замачвалі? Ты, бухгалтарка, відаць, забыла, што сёлетні год — год Казы. Вось мы і набраліся да чорцікаў. Прабач, даражэнькая, што так атрымалася… А цяпер давай у лю-лю…

— У лю-лю? Не-е-е, галубчык, — запярэчыла Ганна. — З п’яным спаць — ніколі! Аб’яўляю байкот. Пакуль за розум не возьмешся.

— А-во-еч-кі! Зусім здурнела жонка. Ну, калі не хочаш, то пайшла ты… — забубніў Сымон і паклыпаў у спальню.

Назаўтра Сымон рана вярнуўся з работы. Дома нікога не было. Павячэраў, лёг на канапу і ўключыў тэлевізар. У гэты момант дзверы адчыніліся і на парозе з’явілася Ганна. Твар яе свяціўся, як сонейка.

— Ты дзе была? — насцярожана спытаў Сымон.

— Ой, мой любы, ты нават не паверыш. Я хадзіла, я хадзіла…

— А куды?

— Туды, туды, куды ты мяне на працягу дзесяці гадоў пасылаеш. Асабліва, калі «пад наркозам». Якой жа дурніцаю была, што цябе не слухалася. Шмат чаго згубіла. Вось сёння я збегала і самая шчаслівая на белым свеце!

— Пагадзі, пагадзі! — занерваваўся Сымон. — Ты, Ганна, на што намякаеш? Ад цябе такога не чакаў. Не думаў, што такая мая жонка.

— А якая? Пралупі вочы! Хіба ж Бог пакрыўдзіў мяне прыгажосцю? Маладзічка — кроў з малаком. Дык якога ражна табе трэба? А ты не бачыш маёй красы. Зальеш бельмы — і спаць, спаць, спаць… Хопіць! Нацярпелася! Свет клінам на табе не сышоўся.

Гэтыя словы як дубцом сцебанулі Сымона і падзейнічалі на яго, як халодны душ на галаву.

— Ганулька, родненькая, гэта ты сур’ёзна? — узмаліўся ён. — Пабойся Бога! Не рабі глупства! У нас жа трое дзетак. Сіроткамі застануцца. Ды мо давай памірымся? Га? Павер у апошні раз. Хочаш, на калені перад табою стану?

— Не трэба, Сымонка, не трэба, — дрыготкім голасам адказала яна. — Я табе веру. І адмяняю байкот. Толькі не падвядзі.

— Дзякуй, сонейка маё, дзякуй, ягадка мая… А куды ж ты, Ганулька, сёння хадзіла? Прызнайся, не мучай мяне. Няўжо?..

— Эх, Сымонка-Сымонка, — засмяялася Ганна. Гэта ж я пажартавала. Сёння ж 1 красавіка — Дзень смеху. А ты вушы развесіў і прыняў за чыстую манету.

Сымон абхапіў жонку рукамі і ўпіўся ў яе вусны.

# Рэальнасць і метафізіка

Сучасная беларуская драматургія — з'ява разнабаковая і шырокафарматная: тут і п'есы, зробленыя ў класічнай манеры, і дакументальныя матэрыялы, і так званыя “тэксты для тэатра”, якія эксперыментуюць з структурай і формай і нярэдка набліжаюцца да празаічных жанраў. Аб'ядноўвае ўсе гэтыя напрамкі адна асаблівасць, якая ўжо атрымала ў тэатральным асяродку назву «феномена беларускай драматургіі».

Паняцце гэтае азначае стан сучасных беларускіх п'ес, якія перамагаюць у міжнародных драматургічных конкурсах і актыўна ставяцца ў постсавецкіх і еўрапейскіх тэатрах. Пры гэтым у сябе на радзіме драматургі па-ранейшаму застаюцца малазаўважанымі, а з'яўленне сучаснай беларускай п'есы на сцэнах рэпертуарных тэатраў — рэдкае выключэнне з правіл. Тлумачыцца гэта як агульным недахопам разнафарматных тэатральных пляцовак у краіне, так і замкнутасцю існуючых структур.



Фота з сайта Цэнтра беларускай драматургіі

*Дзмітрый Багаслаўскі ў ролі Сцяпана (чытанне п'есы «Знешнія пабочныя» Дз. Багаслаўскага ў рамках фэсту «Тэарт» (2013), рэжысёр В. Урбаньскі).*

Маладыя беларускія аўтары пры гэтым пісаць не перастаюць, і кожны год на шматлікіх драматургічных конкурсах абавязкова сустракаюцца ўжо знаёмыя і адкрываюцца новыя імёны. Дзмітрый Багаслаўскі — аўтар, драматургія якога апошнія некалькі гадоў хваляй пракацілася па гарадах і краінах. П'есы яго перакладзены на польскую, італьянскую, іспанскую, украінскую мовы, а пастаноўкі па іх ідуць у Маскве, Варшаве, Абакане, Улан-Удэ, Навасібірску, Уфе, Кіеве, Краснаярску. Дарэчы, гэта адзін з нямногіх аўтараў, чыя драматургія дайшла і да мінскіх тэатраў: п'еса «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» пастаўленая ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі і ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Дзмітрый Багаслаўскі напісаў больш за 10 п'ес, і зараз гаворка пойдзе пра дзве.

П'еса Дзмітрыя Багаслаўскага «Знешнія пабочныя» — адзін з самых паэтычных твораў маладога драматурга. Тэкст пра цішыню, пра адчуванне абсалютнай бязгучнасці, якое існуе ўнутры чалавека.

Усё існаванне галоўнага героя Сцяпана акружана музыкай штодзённасці: шумамі рэальнага свету, дакучлівай балбатнёй, хаатычнасцю скрыгатання, ляскату і гудзення. У кароткіх зрэзах жыцця ад нараджэння да смерці мільгаюць вядомыя сцэны з сучаснай рэчаіснасці: ці гэта сямейны канфлікт, ці штодзённасць офіснага жыцця, ці тэрарыстычны акт. Лёгка прагортваючы старонкі біяграфіі, аўтар нанізвае паўсядзённасць героя з яе праблемамі, радасцямі і бедамі на стан цішыні, якім поўніцца ўся прастора п'есы.

Тэкст напісаны так, што чытач быццам бы зліваецца з унутраным станам галоўнага героя, гледзячы на свет вачыма Сцяпана. Прыцягальнасць свету персанажа настолькі моцная, што прымушае бачыць і чуць свет праз прызму яго адчуванняў. Карцінкі жыцця праплываюць і знікаюць. Кожны эпізод пакідае яркія ўражанні і мог бы стаць асобнай тэмай і нагодай для разважанняў драматурга, але п'еса падпарадкоўваецца закону, дзе цішыня патрабуе максімальнай канцэнтрацыі эмоцый і цэласнасці атмасферы.

Маўчанне ў п'есе «Знешнія пабочныя» гучыць нібы малітва, нібы гук мантры. Маўчанне ў Дзмітрыя Багаслаўскага сапраўды гучыць. Вобразныя і метафарычныя рэмаркі — славесная зона Сцяпана, які не прамаўляе ні слова. Злоўленая за хвост рэальнасць распадаецца ў гуках абсалютнай цішыні. П'еса беларускага драматурга роднасная паэтычнаму твору, у якім імгненная праўда застывае ў вобразах і метафарах і раствараецца ў іх жа рытмамі і рыфмамі.

У п'есе «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» Д. Багаслаўскага метафізічны пласт яшчэ больш моцны і адчувальны, чым у тэксце «Знешнія пабочныя», і выходзіць на ўзровень сюжэта. Гісторыя галоўнага героя Аляксандра насычаная жыццёвымі падрабязнасцямі і здаецца цалкам рэальнай. Пасля смерці таты Аляксандр звальняецца з ваеннай службы і вяртаецца ў бацькоўскі дом. Усе яго сёстры даўно разбегліся па гарадах і кантынентах, толькі Ганна жыве недалёка, і толькі з ёй яшчэ засталіся цёплыя адносіны. Жыццё галоўнага героя паступова ператвараецца ў пекла, бо ў свядомасці яго завязла пытанне: «Ці любіў яго бацька?».

Ні сеансы з медыумам, ні распытванні суседа, ні асабістыя ўспаміны не даюць яму адказу. Тата прыходзіць да яго ў снах, але і ён размаўляе з ім пра ўсё, акрамя галоўнага. Пераломным момантам становіцца прыезд усіх сясцёр, якія вырашаюць прадаць бацькоўскую хату. Гісторыя цягам п'есы рассыпаецца на кавалкі, бо паступова мы разам з галоўным героем перастаём разумець, дзе рэальнасць, а дзе гульні падсвядомасці. Сюжэтныя перапляценні раз за разам пераламляюцца, ява аказваецца сном, а рэальнасць становіцца вобразамі і карцінамі хваравітай псіхікі галоўнага героя. «Наша свядомасць заўсёды знойдзе замену таму, чаго не стае», — гэтая рэпліка медыума Альберта, існаванне якога таксама аказваецца кавалкам раздробленай асобы Аляксандра, ключ да разумення таго, што адбываецца ў п'есе.

Чытаючы любы твор, мы ведаем, што гэта выдумка аўтара, але несвядома верым у тое, што адбываецца. П'еса «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» робіць цікавую рэч са сваім чытачом, разбураючы гэту веру, бо ўрэшце атрымліваецца падвоенае прыняцце зададзенай аўтарам гульні. Безумоўна, гэта своеасаблівы выклік для свядомасці — ад чытача патрабуецца маментальная асабістая перазагрузка.

Моцная метафара закладзеная ў вобраз студні. З'яўляючыся ў снах, тата патрабуе, каб Аляксандр пачысціў калодзеж. Засмечаная вада — як каламутная свядомасць Аляксандра: трэба прыбраць непатрэбныя глей і смецце, ачысціць крыніцу жыцця. Акрамя таго, студня тут — сімвал сувязі з роднай зямлёй, са сваімі каранямі. Вада як аснова ўсяго жывога на зямлі простае, але незвычайна вялікае рэчыва па сваіх ужо адкрытых і яшчэ не даследаваных уласцівасцях.

П'еса «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» спалучае прыгожы сімвалізм вобразаў, глыбінную метафізічнасць атмасферы, рэалістычнасць сцэн, аўтарскую чуласць і ўважлівасць да ўнутранага свету персанажаў. Як і ўся драматургія Дзмітрыя Багаслаўскага, тэкст мае драматычнае гучанне, хоць пранізаны верай у крохкую, але асноватворную чалавечнасць і цеплыню ўзаемаадносін.

**Вікторыя БЕЛЯКОВА**

# Малая сцэна?

**Не сакрэт, што мастацкая творчасць для дзяцей вельмі складаная, і сінкрэтычныя віды мастацтва — у першую чаргу. Да такіх адносіцца і драматургія. Тым не менш за апошнюю чвэрць стагоддзя на Беларусі з'явілася не менш як дзве сотні п'ес дзясяткаў аўтараў. Такія колькасныя паказчыкі, несумненна, маюць і якасны стрыжань.**

Найперш варта сказаць пра плён у фармаце казачнай п'есы. Разнаволены падыход да яе стварэння абумовіў выхад у свет самых розных твораў: ад традыцыйных інсцэніровак да арыгінальных драм, ускладненых псіхалагізмам (вельмі смела пры арыентацыі на малодшы школьны ўзрост). Знайшла адбітак на дзіцячай драматургіі і эпоха постмадэрну. Адзін з яскравых прыкладаў — творчасць загадчыка літчасткі Брэсцкага лялечнага тэатра Ігара Сідарука. Драматург удала ўпісаўся ў трэнд: адштурхнуўшыся ад фальклорных традыцый (п'есы «Кветкі пад ліўнем», «Прыгоды Люстрынкі, або Ваша несусветнае зладзейства!..», «Салдат і Смерць»), творча апрацаваўшы матэрыялы з Біблii («Меч анёла», «Свята Раства радасць прынясло») і твораў айчынных класікаў («Юнак і Вядзьмар»), прыйшоў да нестандартнага творчага рашэння, падказанага сучаснымі рэаліямі як у плане зместу, так і формы («Віртуальнае зубраня»). А ў «камічных падзеях «Кірмашовага балагану» гэты аўтар пастмадэрнісцку прадставіў адразу дзве казкі: «Пра калабка» і «Пра бычка — смалянога бачка». Аўтар наноў знаёміць нас з нібыта вядомымі персанажамі. Але вобразы атрымаліся настолькі арыгінальнымі, што ні яны, ні разгортванне падзей не выглядаюць скапіраванымі, а, наадварот, уражваюць свежасцю.

Несумненна, як і ўсё мастацтва, п'есы для дзяцей у пэўнай ступені залежныя ад перамен у сацыяльным кантэксце (больш, чым дзіцячыя вершы і проза). Гэта звязана з тэатральным працэсам: тэатр, як прынята казаць, свайго роду кафедра, а з яе павінна гучаць актуальная інфармацыя. Асабліва прыкметна гэта было ў 1990-я гг. Менавіта тады загучала шмат новых імён: Сяргей Кавалёў, Пятро Васючэнка, Людміла Рублеўская, Зінаіда Дудзюк, Аляксей Якімовіч… Хоць і старыя здабыткі нашай казачнай драматургіі не дэактуалізаваліся (казка ў прынцыпе як жанр не старэе), паўстала патрэба гаварыць з рэцыпіентам на мове, набліжанай паняційным апаратам і праблемным полем да сучасніка. Таму многія аўтары будуюць свае казачныя п'есы на знаёмым цяперашняму падрастаючаму пакаленню матэрыяле. Так, Раіса Баравікова ўдала сумясціла рэчаісную рэальнасць з віртуальнай («Шкляныя горы, альбо Праграміст Чароўнай даліны»). Падзеі гісторыі і сучаснасці цесна перапляліся ў пасіянарных п'есах Сержука Вітушкі, які нечакана раскрыўся як драматург напрыканцы свайго жыцця. Вострыя экалагічныя праблемы спарадзілі шэраг адпаведных п'ес: Георгія Марчука «Начныя прыгоды Паўліка», Міколы Арахоўскага «Калі дракон прачнуўся», Галіны Каржанеўскай «Чарнабог» ды інш. Разам з тым вобразы многіх прыгодніцкіх п'ес створаны на міфалагічна-гістарычным матэрыяле. Яркі прыклад — «Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Забалоцкага» С. Кавалёва і П. Васючэнкі. Назіраецца таксама прадукаванне так званай рыцарскай п'есы з ідэаламі і высокімі кодэксамі рыцарства. Відавочна, існуе запатрабаванасць у навагодняй п'есе.

У цэлым тэматычнае кола дзіцячай драматургіі на сучасным этапе вельмі шырокае. Думаецца, яно адпавядае надзённасці. У той жа час пры заўважнай мадэрнізацыі сённяшніх п'ес, асучасніванні захоўваюцца традыцыйныя творчыя падыходы, перадусім у аксіялогіі і маралі. Што застаецца нязменным і ў сучаснай казцы, дык гэта вастрыня сутыкнення прадстаўнікоў антаганістычных сіл. Яна дазваляе аўтарам належным чынам раскрыць мастацкія характары герояў, захоўваючы пры гэтым тыповыя рысы і ў той жа час індывідуалізуючы іх.

Пры ўсім сказаным нельга прызнаць працэс развіцця драматургіі для дзяцей у нашай краіне поўнасцю задавальняючым патрэбы — як у мастацкім, так і выхаваўчым плане.

Першае, на што хацелася б звярнуць увагу, — перакос на карысць казачнага фармату. Рэалістычную п'есу для дзяцей драматургі абыходзяць. Асобныя (але не заўсёды ўдалыя з мастацкага гледзішча) творы можна знайсці ў Г. Марчука, З. Дудзюк, А. Федарэнкі.

Азначаны перакос таксама сведчыць пра тое, што мала хто з драматургаў арыентуецца на падлеткава-юнацкі ўзрост. Звычайна пад дзецьмі разумеюць малодшых школьнікаў. У выніку неахопленай аказваецца ладная ўзроставая катэгорыя. Пры ўсім пры тым, як даводзяць навукоўцы, найлепшае, найбольш адэкватнае ўспрыманне драматургіі (асабліва як роду літаратурнага) пачынаецца прыкладна з 14 гадоў.

Але самы сур'ёзны недахоп заключаецца ва ўзаемасувязях драматургіі і тэатра. Нават беглы агляд афіш сведчыць, што на айчынныя сцэны трапляюць адзінкавыя творы сучасных беларускіх пісьменнікаў для дзяцей. Збольшага пратораваюць сабе шлях да гледача некаторыя п'есы С. Кавалёва. У астатнім маюць шчасце інсцэнізавацца адзінкі. Няма ні тое што сістэмы: як ускосна адлюстроўваюць анонсы, адсутнічае (з боку рэжысёраў і загадчыкаў літаратурных частак) элементарнае назіранне за з'яўленнем п'ес для дзяцей, не кажучы пра мэтанакіраванае адсочванне лепшых твораў.

Калі азначаныя прагалы стануць выпраўляцца, можна будзе з аптымізмам глядзець на перспектывы далейшага развіцця беларускай драматургіі для дзяцей.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

# Такі распусны горад...




Малюнак Алесі Ісы

**«У гэтай кнізе пануе змрок...» — і разгляд новых твораў Анатоля Казлова складана пачаць неяк інакш. На старонках «Таго, хто абганяе сны» адлюстравана нямала значных праблем, таму гэта кніга цікавая найперш як сведчанне эпохі, як суровы дыягназ сучаснаму беларускаму грамадству.**

Новая кніга пісьменніка складаецца з чатырох аповесцей: «Абганяючы сны», «Паразумецца з ветрам», «Далонь на плячы», «Так і жывём». Месца дзеяння — Мінск, жыхары якога паўстаюць людзьмі ненадзейнымі, самазасяроджанымі і маюць нямала асабістых праблем. «Нямашка цеплыні, агеньчыку сардэчнасці ды лагоды сярод мільёнаў зацывілізаваных, ненажэрных у сваіх памкненнях і жаданнях гараджан. Ды ці толькі гараджан?» Герой твораў Анатоля Казлова — не толькі цяперашні жыхар беларускай сталіцы, але і чалавек наогул, універсальны і анталагічны. Ён задае сабе адвечныя пытанні, цяжка перажывае «класічныя» праблемы: адзінота, рэўнасць, здрада, непаразуменне з самім сабой. Гэты герой — зусім не «чалавек умелы» ці «чалавек разумны», а найперш «чалавек слабы», які знаходзіцца пад уладай юру — старога, як свет, граху.

Герой самакрытычны: ён добра разумее, што ахвота да «новага цела, разгулу асалоды, бяздумнасці ўчынкаў» нізкая і нядобрая. Няварта здраджваць спадарожніку жыцця, з якім маеш не толькі цёплыя адносіны, але і ўтульнае супольнае жытло. Тым не менш у сучасным свеце апраўданне распусце знаходзіцца хутка: кароткія інтымныя знаёмствы — гэта «душэўнае і фізічнае лекаванне», падстава для гонару: «дзень пражыты на ўсе сто пяцьдзясят»!

Герой Анатоля Казлова — мысляр і распуснік адначасова — заўсёды «сатканы з супрацьлегласцяў». Ён разважае пра вечнае, схільны да «самакапання» і, адпаведна, мае даволі развіты духоўны свет. Але ў сферы прыватных дачыненняў ён цалкам пазбаўлены самапавагі. Роздумы, якія пачынаюцца з філасофскіх пытанняў, здрадліва прыводзяць да высновы пра прывабнасць сексуальнай свабоды. Часам падаецца, што супрацьлегласці героя шытыя белымі ніткамі: пісьменнік накідвае як мага больш неспалучальных учынкаў і думак, але не аналізуе псіхалагічную сітуацыю. Чытач мае бязмежную свабоду ў ацэнцы персанажаў, у інтэрпрэтацыі прачытанай гісторыі. Нават стаўленне героя да былога партнёра можна ўяўляць на ўласны густ. Калі «відушчае сэрца» на першых старонках аповесці «Паразумецца з ветрам» называе каханку-здрадніцу Хаўронняй і лярвай, вельмі цяжка надалей верыць у моцнае пачуццё і скруху героя, а напрыканцы ўзрадавацца нечаканай сустрэчы колішняй пары.

Відавочная прычына праблем мужчыны-персанажа — спецыфічнае стаўленне да жанчыны. Спакуса атрымаць асалоду ад жаночага цела спалучаецца з нездольнасцю ці нежаданнем убачыць у сексуальнай партнёрцы душу. Як піша Таццяна Фіцнер, «адметнасць успрымання прадстаўніц супрацьлеглага полу героямі А. Казлова ў тым, што яны «свежае цела маладак» умоўна/візуальна «расчляняюць» на часткі. Яны бачаць перад сабой не ***асобу*** супрацьлеглага полу, а «камячкі ... пругкіх грудзей раскошных попак», «аголеныя лыткі, ладныя грудкі», «падатліва-шаўкавістую скуру» (курсіў наш. — **А. Л.**). Герой часцей за ўсё ставіцца да жанчыны з недаверам і пагардай — як да прылады д'ябла. Ён заклапочаны ўласнымі думкамі і настроем, але цалкам аддалены ад сваёй часовай спадарожніцы, не спрабуе зразумець яе ці, прынамсі, пашкадаваць. Не робіць гэтага і аўтар — ён, верагодна, імкнецца звярнуць увагу на «спажывецкае» стаўленне людзей адно да аднаго. Нават пасля некалькіх гадоў стабільных адносін жанчына ўхіляецца ад шлюбу, бо не жадае прапісваць магчымага сужэнца ў сваю кватэру. І, як высвятляецца, мае рацыю: колькі воўка ні кармі, усё адно ў лес глядзіць.

Акрамя самазасяроджанасці і духоўнай адчужанасці, А. Казлоў відавочна звяртае ўвагу на «разбуральную сілу некантралюемай, неабцяжаранай этычнымі нормамі сексуальнасці». Але неспатольная жада, на якую пакутуюць і якой здзіўляюцца героі пісьменніка, тлумачыцца вельмі проста. Фізічнае задавальненне ад кароткіх сустрэч з абсалютна чужымі духоўна жанчынамі хутка мінае. Застаюцца непрыемныя ўспаміны: «Мяне раптам агарнула абсалютная абыякавасць да Юлечкі. Перад вачыма прамільгнула няроўна-сінюшная радзімая пляма на яе ягадзіцы. Адвярнула. Адразу. Учора было абыякава, а сёння, цяпер — брыдка». Каб прыглушыць агіду, трэба альбо суняцца і супакоіцца, альбо шукаць новых уражанняў. І героі «Таго, хто абганяе сны» зноў і зноў абіраюць другі варыянт.

Сексуальнае памкненне дэманізуецца, яно варожае, цёмнае, дэструктыўнае. Нізкія жаданні лёгка падпарадкоўваюць чалавека, не надзеленага высокай духоўнасцю. Высакародства, самаахвярнасць, спагада — шукайце гэта дзе заўгодна, але не ў сучасным свеце! Але Юргон, ці Юджын, — хутчэй непрывабнае выключэнне, чым тыповы партрэт сучасніка. Характэрна, што ўсе героі А. Казлова — дарослыя людзі, якія не маюць сур'ёзных клопатаў, а таксама маленькіх дзяцей ці састарэлых бацькоў. Да сваёй працы яны ставяцца спакойна — выключна як да магчымасці зарабляць грошы. Калі ўявіць крыху іншыя жыццёвыя акалічнасці, аповесць проста рассыплецца: пасля начной гулянкі цяжка глядзець у вочы дачцэ ці хвораму цесцю і ў думках апантана апраўдваць самога сябе. Сучасныя беларускія пісьменнікі наогул значна часцей звяртаюць увагу на асабістыя праблемы адзінокага і адносна свабоднага чалавека, чым на праблемы сям'і.

Зрэшты, выяўленне сям'і прадугледжвае прынамсі наяўнасць разнастайных герояў — а да гэтага А. Казлоў зусім не імкнецца. Персанажы-мужчыны маюць практычна аднолькавы характар і тэмперамент, таму Юджын, Максім, Вірун і Пятрок успрымаюцца як адзіны Герой. Вядома, ёсць розніца ў жыццёвых абставінах, ва ўзросце персанажаў (так, паводле Т. Фіцнер, Юджын — гэта пасталелы Юргон). Але ў кожнай новай аповесці даводзіцца сустракацца з вельмі падобнымі праблемамі, роздумамі і тыпам паводзін.

> *Высакародства, самаахвярнасць, спагада — шукайце гэта дзе заўгодна, але не ў сучасным свеце! Але Юргон, ці Юджын, — хутчэй непрывабнае выключэнне, чым тыповы партрэт сучасніка.*

Жаночыя вобразы з твораў А. Казлова можна размеркаваць па розных катэгорыях. Гэта жанчыны сталыя і выпадковыя, вясковыя і гарадскія, «нямыя» другасныя персанажы і паўнавартасныя літаратурныя гераіні. Часцей за ўсё духоўны свет жанчыны застаецца нераскрытым: кароткая характарыстыка, у лепшым выпадку некалькі рэплік. Бясспрэчнае права пісьменніка — самастойна вызначаць ступень распрацоўкі таго ці іншага персанажа. Але многія жаночыя персанажы ў прозе А. Казлова проста ўражваюць сваёй неверагоднасцю. Калі жанчына ў думках параўноўвае сябе з «шалудзівай сучкай» ці дамаўляецца пра сустрэчу і кідае ў слухаўку сяброўцы: «Паспею. Падмалюю зенкі, свісток падвяду», — значыць, яна зусім не паважае сябе і знаходзіцца на апошняй прыступцы сацыяльнай лесвіцы. Беспардонныя жарты Каці Лабезнай (аповесць «Так і жывём»), яе грубае абыходжанне з сяброўкай ніяк не спалучаецца з аўтарскім апісаннем дзяўчыны — «з выгляду сціплай і памяркоўнай, часцей задуменнай і рамантычнай, малагаваркою». Жанчыны сваёй прывабнасцю нібыта ўводзяць у зман пісьменніка і героя, а сам-насам апынаюцца прымітыўнымі і пошлымі.

Аўтар зноў жа мае права на ўласнае выяўленне жанчыны, але жанчына як чытач падчас знаёмства з «Тым, хто абганяе сны» пачуваецца вельмі некамфортна. Гэта кніга дапамажа зразумець, у якой багне мы ўсе жывём, навучыць асцярожнаму стаўленню да мужчын, падкажа, калі своечасова прагнаць з кватэры выпадковага Юджына. Вопыт мужчынскага чытання аповесцей Анатоля Казлова рэдакцыя чакае з вялікай цікаўнасцю!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Слова пра форму

Анатоль Казлоў пачынае першую аповесць (і з тым — кнігу) з прадмовы быццам ад свайго імя, але прадмова не ўспрымаецца як зварот аўтара да чытача: у ёй няма належнай адстароненасці ад твора. Ужо тут аўтар займае пазіцыю, якую не зменіць да апошняй старонкі: пазіцыю чалавека, які ўзяў на сябе місію сказаць Праўду. Натуральна, непрыемную. Пры гэтым пісьменнік упэўнены, што гэтую праўду ўсе ад сябе хаваюць, і як толькі ён выведзе першы радок, «шэрыя мышкі» і «сінія панчошкі» пачнуць тупаць нагамі: збачэнец, распуснік і г. д.

Але наўрад ці нехта ўвогуле збіраўся тупаць нагамі. Пра выродлівыя бакі чалавечай прыроды пісаць можна і абавязкова трэба, але — і менавіта пра гэта мой тэкст — літаратура мусіць заставацца літаратурай. Мастацтва — вось што галоўнае. Яно і нясе святло, якое так патрэбна чалавеку. Калі гэтага святла няма ў змесце (паспрабуй параўдавацца пасля твораў Быкава, Камю, Сартра), застаецца хараство формы, слова, тая самая паэзія прозы.

У кнізе Анатоля Казлова «Той, хто абганяе сны» нязменна суседнічаюць глыбокае і відавочнае, прыгожае і неэстэтычнае, няўдалае з пункту гледжання мастацтва.

Час ад часу з'яўляюцца яркія вобразы, дэталі: багоўка на краі сметніцы — кропелька крыві; жыццё перакулілася з ног на галаву, як цыркавы клоўн; стаяла такая цёмная ноч, нібы нехта вывернуў сусвет на левы бок. Шкада, што здольнасцю бачыць свет паэтычна аўтар карыстаецца так рэдка. Пісьменнік неразборлівы ў сродках: ён піша, напрыклад, што здрада раз'ядае нутро, як серная кіслата. Тэкст перасыпаны грубавата-прастамоўнымі «туфта», «ніфіга», «адхадняк» і пад., а эўфемізмы, да якіх звяртаецца аўтар, нярэдка выглядаюць вульгарна.

Усё гэта можна патлумачыць жаданнем Анатоля Казлова стварыць менавіта такі эфект, выклікаць у чытача агіду да персанажа, яго развагаў, грэблівае стаўленне да пэўных праяў чалавечай пароды (перадусім — здрады, як фізічнай, так і духоўнай).

Варта сказаць колькі слоў пра «містычнае», якое абяцае нам анатацыя кнігі. У аповесцях яно мяжуе з рэальным, урываецца ў паўсядзённасць герояў: прывідная бабуля ў чырвоных галёшах, рапухі і ружовае воблака, нечаканая бура на грэчаскім востраве. Але ўсё гэта не іграе той вялікай ролі, якую магло б. Успрымаецца не як містыка, але як дапаўненне, ілюстрацыя да маналогаў, якія прамаўляюць героі і сам аўтар. Прычым ключ да алегорый пісьменнік адразу ж аддае чытачу.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Пішы, як класік

**Павел Мінкевіч, графічны дызайнер, прыйшоў у Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы з прапановай: давайце створым шрыфт, які б узнаўляў почырк Янкі Купалы. 19 сакавіка 2015 года шрыфт «piasniar» быў прэзентаваны — канечне ж, у музеі Янкі Купалы.**



*Павел Мінкевіч, аўтар праекта «Пясняр», таксама паўдзельнічаў у віктарыне.*

*Фота прадастаўлена Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы*

## ІДЭЯ!

Стварэнне шрыфту ператварылася ў вялікі праект, над якім працавала цэлая каманда: Павел Мінкевіч — распрацоўшчык шрыфту і вэб-дызайнер сайта, Юлія Халюкова — каардынатар праекта, Аляксандр Сорын — распрацоўшчык сайта, Вольга Пархімовіч — эксперт па творчасці Янкі Купалы, Тамара Захарэвіч — аўтар і распрацоўшчык відэароліка, якім сустракае нас сайт *piasniar.by*. За ўзор быў узяты почырк Янкі Купалы на час стварэння зборніка «Шляхам жыцця», рукапісны варыянт якога захоўваецца ў фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

Адна з галоўных мэтаў праекта — зрабіць унёсак у захаванне гістарычнай і культурнай спадчыны Беларусі, балазе, сучасныя тэхналогіі і неабмежаванасць сеціўных рэсурсаў даюць на тое вялікія магчымасці. Так павышаецца цікаўнасць людзей да асобы і творчасці Янкі Купалы — а з ім і беларускай культуры.

Каманда працавала над стварэннем «piasniar»а цягам некалькіх месяцаў, у вольны ад працы час. Графічны дызайнер Павел Мінкевіч правёў творчую апрацоўку алічбаваных рукапісаў Янкі Купалы, каб стварыць шрыфт, які адпавядае сучасным тэхнічным патрабаванням і максімальна ўзнаўляе почырк паэта.

— Мне заўжды хацелася зрабіць пэўны ўклад у дызайн, у беларускую культуру, зрабіць нешта, як я спадзяюся, значнае, сур'ёзнае. Нешта, што будзе сапраўды цікавіць людзей. Так прыйшла ідэя стварыць шрыфт паводле почырку аднаго з беларускіх класікаў, а Янка Купала заўжды быў мне бліжэй. У музеі да маёй ідэі паставіліся надзвычай прыязна, прадастаўлялі абсалютова любую дапамогу, усе патрэбныя дакументы, за што вялікі ўсім дзякуй. І вось — сёння маем сайт *piasniar.by*, дзе шрыфт можна спампаваць. Словам, якія мэты паставілі, такіх і дасягнулі.

## ЯК СТВАРАЎСЯ ШРЫФТ

Асноўнай задачай было стварыць не столькі камп'ютарны шрыфт, колькі почырк, максімальна набліжаны да почырку жывога чалавека. І першая складанасць, з якой сутыкнулася «творчая група», — уласна почырк Купалы. Розныя літары ён пісаў па-рознаму, так што агульнае даводзілася шукаць доўга. Пры гэтым Павел прыкмеціў цікавую асаблівасць: вялікія літары Купала пачынаў з шырокага рэзкага росчырку.




*Чарнавік верша, які напісаны рукой Янкі Купалы, і яго лічбавая копія, якая выканана шрыфтам "Пясняр"*

Натуральна, пры стварэнні шрыфту гэта ўлічвалася.

Пасля таго, як усе літары былі «састаўленыя», падабраныя, што само па сабе было працай клопатнай, пачаўся другі этап, яшчэ цяжэйшы, — спалучэнне літар. «Вялікай праблемай было знайсці такую адлегласць між літарамі, каб тэкст быў чытэльны і пры гэтым выглядаў як почырк, а не шаблонны набор знакаў».

Ёсць у почырку Купалы яшчэ адна асаблівасць: як бы неразборліва ён ні пісаў свае творы, падпісваў іх заўжды прыгожа, кожны раз — інакш. Шрыфт ствараўся ў трох варыянтах — для рускай мовы, беларускай і напісання лацінкай. «Купала пісаў польскай лацінкай, набліжанай да англійскай мовы. Тут было яшчэ цікавей і яшчэ клопатней, бо не заўжды ўдавалася адразу разабраць, што ж гэта за літара».

Па словах Паўла, эксперты палічылі шрыфт неблагім, але працаваць над ім яшчэ трэба. Стваральнікі атрымалі шмат водгукаў, сярод іх — нямала негатыўных, але па справе. Аднак станоўчых болей. Дарэчы, ужо ў час працы стала вядома пра існаванне падобнага праекта — шрыфту Кабзар, які ўзнаўляе почырк Шаўчэнкі.

Калі з'явіўся шрыфт, спатрэбілася пляцоўка для яго размяшчэння. Вёрсткай і распрацоўкай сайта займаўся Аляксандр Сорын. Напачатку вэбстаронку хацелі стварыць на базе сайта музея Янкі Купалы, але пазней стала зразумела, што шрыфт працуе не сам дзеля сябе, але і на пашырэнне нацыянальных традыцый у інтэрнэт-асяродку. Хутка на сайце з'явіцца анлайн-крама, дзе можна будзе набыць сувеніры з нацыянальнай беларускай атрыбутыкай і «piasniar»скімі надпісамі. Сайт, як і сам шрыфт, знаходзіцца ў распрацоўцы, і пры жаданні можна падпісацца на абнаўленні старонкі. Тут жа можна задаваць пытанні па тэхнічнай падтрымцы шрыфту.

— Шчыра кажучы, мы не чакалі такога ажыятажу, — прызнаецца Юлія Халюкова. — Пазней адбудзецца другая прэзентацыя шрыфту, абноўленага, дапрацаванага.

Не чакала такога поспеху і дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч:

— Можна доўга разважаць пра тое, што трэба любіць беларускую мову, але гэта толькі размовы. А вось гэтыя маладыя людзі ўсё сказалі сваёй працай. Сапраўднай нечаканасцю стала для нас прапанова Паўла, і такой жа нечаканасцю стаў поспех праекта і шырокі рэзананс.

По традыцыі людзі, якія зрабілі ўклад у справу захавання спадчыны Янкі Купалы, узнагароджваюцца дыпломам сябра музея. Падчас прэзентацыі з рук дырэктара музея дыпломы атрымалі Павел Мінкевіч,

> *Сайт, як і сам шрыфт, знаходзіцца ў распрацоўцы, і пры жаданні можна падпісацца на абнаўленні старонкі. Тут жа можна задаваць пытанні па тэхнічнай падтрымцы шрыфту.*

Тамара Захарэвіч, Юлія Халюкова, таксама ўзнагароджаны Аляксандр Сорын, а за ажыццяўленне графалагічнага аналізу почырку Янкі Купалы ў рамках праекта «Пясняр» дыплом сябра музея ўручаны Наталлі Быкоўскай.

## НЕЦЯРПЛІВЫ І ЦІКАЎНЫ

Вынікі графалагічнай экспертызы спадарыня Наталля агучыла на прэзентацыі шрыфту. Пачалі з почырку Купалы на 1931 год: «Аўтар дзейны, дынамічны і напорысты чалавек. Умее ацаніць сітуацыю і прыняць практычнае рашэнне. Добры арганізатар. Стараецца стварыць усе ўмовы для зладжанай работы. Здольны каардынаваць дзейнасць розных людзей і падраздзяленняў.

Часта дзейнічае на падставе ўнутранага хвіліннага парыву. Схільны працаваць адзін — ініцыятыўна, творча і імправізуючы. Дзейнічае хутка, каб дасягнуць выніκаў. Для дасягнення мэты кіруе іншымі, але самому цяжка прыстасавацца да арганізацыйных рамак. Адрозніваецца высокай працаздольнасцю — не ўсе могуць вытрымаць яго працоўны рэжым. Часам клопатаў аказваецца так шмат, што не можа ўсюды паспець.

Вельмі вынаходлівы. Азораны ідэямі. Здольны прымаць хуткія рашэнні, нават абмежаваны ў інфармацыі. Цікавіцца навінамі, якія можна ўжываць на практыцы. Добра разбіраецца ў пытаннях дзелавой актыўнасці. Плануе здаэння загадзя. Не любіць хітрасці і выкрутаў. Аддае перавагу дамовам на ўзаемавыгодных умовах. Валодае развітым пачуццём доўгу. Прыяўляе сябе як абаронца слабых, тых, хто мае ў гэтым патрэбу.

Можа жыць без камфорту, калі трэба. Нават калі будзе цяжка, не стане скардзіцца.

Нецярплівы па натуры. Можа дапускаць нядбайнасць у афармленні дзелавой дакументацыі. Кансерватыўны ў густах і звычках. Бывае рэзкі ў крытычных ацэнках. Любіць распавядаць і абмяркоўваць прачытанае, пачутае і ўбачанае. Яго выбіваюць з каляіны сітуацыі нявызначанасці, таму ён знаходзіўся ў напружаным стане.

Аўтару неабходна мець дачыненне да грамадства — у энергічным стылі. Залежыць ад меркавання людзей. Мае амбіцыі суперніцтва. Для яго важна быць пераможцам. Больш схільны да самаадукацыі, чым да арганізаванага навучання».

Як паказвае почырк 1942 года, Янка Купала стаў больш крытычным і практычным:

«Дынамічны, працавіты, але пакутуе ад перападаў настрою і матывацыі. Дрэнна арганізаваны ў прасторы і ў часе. Мысленне канкрэтнае, успрымае інфармацыю літаральна. У справах аддае перавагу правераным або традыцыйным метадам рашэння».

Падчас прэзентацыі прайшла віктарына «10 цікавых фактаў з жыцця і творчасці Песняра» з падарункамі ад «MAIKI.BY» і паэтычна-музычная вечарына, у якой узялі ўдзел Віка Трэнас, Вольга Паўлюкевіч, Аліса Мініна, музыка Сяргей Башлыкевіч і гурты «Знарок» і «Ляўданс».

**Наста ГРЫШЧУК**

# Цуды папяровыя

Мы рэдка задумваемся пра тое, што кнігі — вельмі далікатныя крыніцы ведаў. І тым больш каштоўнымі становяцца захаваныя да нашага часу адзінкавыя асобнікі, створаныя таленавітымі мініяцюрыстамі і друкарамі, гравёрамі і пераплётчыкамі. Менавіта ім прысвечана выстаўка «Крохкія захавальнікі Слова», якая адкрылася ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі.

У экспазіцыі прадстаўлена больш як 60 рэдкіх кніг з палацавай калекцыі. Кожную можна назваць сапраўдным шэдэўрам кніжнага мастацтва. Сярод іх — «Евангелле», выдадзенае Пятром Мсціслаўцам у Вільні ў 1575 г., кнігі з ілюстрацыямі Васіля Вашчанкі з Магілёва і Міхася Слезкі з Львова, выданні маскоўскіх і беларускіх друкарняў XVII — XVIII стагоддзяў, нешматлікія, але надзвычай каштоўныя ўзоры рукапісаў старавверскай Веткі, якія сведчаць пра багатую традыцыю рукапіснай кнігі, што існавала на тэрыторыі Гомельскай вобласці. Непадробны інтарэс у наведвальнікаў выклікаюць пакінутыя былымі ўладальнікамі запісы і пазнакі на старонках кніг: па іх можна прасачыць гісторыю кожнага выдання.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Унікальны праект*

# Прароцтва Драздовіча спраўджваецца


Фота Кастуся Дробава

**Напрыканцы мінулага года ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет кніга «Язэп Драздовіч. Праз церні да зорак». Важкі фаліянт аб'ёмам больш як 600 старонак, мноства мастацкіх работ Язэпа Драздовіча, яго літаратурныя творы, а таксама тэксты даследчыкаў, прысвечаныя вывучэнню спадчыны Язэпа Нарцызавіча… У якасці ўкладальніка грунтоўнага тома выступіў бібліяфіл і краязнаўца з Маладзечна Міхась Казлоўскі. Пра зацікаўленасць асобай Язэпа Драздовіча, выбар тэкстаў для кнігі, а таксама здольнасць выдання стаць брамай у свет Язэпа Нарцызавіча мы сёння гутарым з Міхасём Міхайлавічам.**

**— Спадар Міхась, думаецца, кніга «Язэп Драздовіч. Праз церні да зорак» — плён працы не толькі пэўнага прамежку часу. З чаго пачалося ваша захапленне творчасцю гэтага выдатнага мастака, пісьменніка?**

— Язэп Драздовіч — мая любоў яшчэ з таго часу, як з'явілася першая і самая цікавая, вартасная кніга пра яго — праца Арсеня Ліса «Вечны вандроўнік» (1984). З тых часоў я шмат падарожнічаў шляхамі Драздовіча, быў на Глыбоччыне, Шаркоўшчыне… Супала так, што мой швагер родам з Глыбоцкага раёна, у яго бацькоў Драздовіч неаднойчы спыняўся ў 1930-я гады, нават у хаце яны мелі маляваныя дываны Драздовіча. Ужо даўно няма бацькі майго швагра, дажывае свой век маці, невядома, дзе падзеліся і тыя дываны.

Больш за тое, графічныя работы Язэпа Нарцызавіча, якія я ўпершыню пабачыў, вельмі ўразілі. Таму і ішоў яго сцежкамі, стараўся нешта зрабіць, каб захаваць памяць пра выдатнага майстра і пісьменніка. Так, яшчэ ў пачатку 1980-х маладзечанскі мастак Юрый Герасіменка па маёй замове намаляваў вельмі арыгінальны графічны партрэт Драздовіча, з якога я пазней зрабіў паштоўку і значок. На жаль, Юрыя Паўлавіча ўжо няма на гэтым свеце, але яго малюнак у мяне захоўваецца. А крыху раней мы з сябрамі стварылі мастацкую гасцёўню Я. Драздовіча. Я ў той час яшчэ бародку насіў, і знаёмыя пры сустрэчы часам казалі: «Прывітанне, Язэп Драздовіч!». Я адказваў, што калі б у сваім жыцці зрабіў хоць палову таго, што зрабіў Драздовіч, то быў бы вельмі задаволены. Не ведаю, які плён зроблена за маё жыццё, але цешуся, што пра Драздовіча кнігу падрыхтаваў.

**— Як узнікла ідэя гэтага грунтоўнага выдання?**

— У 2013 годзе ў Маладзечне праходзіла навукова-краязнаўчая канферэнцыя, прысвечаная Язэпу Драздовічу. Да гэтага нашы штогадовыя чытанні, на якія прыязджаюць навукоўцы, пісьменнікі з розных куткоў краіны, прысвячаліся Янку Купалу, Генадзю Каханоўскаму, Вацлаву Ластоўскаму, Уладзіміру Караткевічу, Максіму Багдановічу, Максіму Танку, Пятру Бітэлю і Ядвігіну Ш. І вось, калі канферэнцыя памяці Язэпа Драздовіча ўжо скончылася, я пайшоў праводзіць гасцей на вакзал. Па дарозе галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура», паэт Віктар Шніп сказаў мне: «А ці можаш ты падрыхтаваць кнігу пра Драздовіча, дзе былі б сабраныя і тэксты пра яго, і яго ўласныя творы?». Я пагадзіўся сабраць творы, калі будзе магчымасць выдаць зборнік, і адразу ўзяўся за працу. Раней ужо выходзіў альбом з мастацкімі работамі Драздовіча, падрыхтаваны мастаком Міколам Купавам. Мне ж і самому вельмі хацелася ўкласці кнігу, якая змяшчала б уласныя літаратурныя творы Язэпа Нарцызавіча. Пра яго тэксты часта пішуць, што яны «не вытрымалі выпрабавання часам». Мне гэта вельмі не падабаецца. Як можна так казаць, калі іх няма магчымасці прачытаць? І таму я, адчуваючы падтрымку з боку выдавецтва, вырашыў, што трэба падрыхтаваць такую кнігу, у якой Драздовіч быў бы прадстаўлены ва ўсіх іпастасях.

**— А па якім прынцыпе складаўся зборнік?**

— У першы раздзел увайшлі мастацтвазнаўчыя, краязнаўчыя, літаратурныя працы пра Язэпа Драздовіча. Другую частку склалі паэтычныя прысвячэнні яму, трэцюю — уласныя літаратурныя творы Язэпа Нарцызавіча, яго мастацкія работы. І на завяршэнне публікуецца кніга «Нябесныя бегі» ў фармаце факсімільнага ўзнаўлення. З прадстаўленнем менавіта апошняга тэксту ўзніклі пытанні. Справа ў тым, што гэтая кніга змяшчае шмат малюнкаў, уласнаручных лінарытаў аўтара, якія адыгрываюць у выданні значную ролю. А самога тэксту не так і шмат. Калі выявы аднаўляць, сканаваць, то, магчыма, першапачатковыя ілюстрацыі не так удала выглядалі б побач з набраным наноў тэкстам. Таму мы пайшлі шляхам факсімільнага ўзнаўлення. Сама кніга выйшла ў Вільні ў 1931 годзе невялікім накладам, бо Драздовіч выдаваў яе за свой кошт.

**— На гэтае выданне звернуць увагу не толькі тыя, хто захоча ўпершыню пазнаёміцца з творчасцю Драздовіча, але і яго даўнія прыхільнікі, якія самі вывучаюць яго спадчыну. Ці будзе кніга цікавай даследчанаму чытачу? Што новае можна пабачыць на яе старонках?**

— Па-першае, у гэтай кнізе ўпершыню пад адной вокладкай сабраны тэксты пра Драздовіча і творы самога Язэпа Нарцызавіча. Раней гэтыя працы былі раскіданыя па зборніках, газетах, часопісах і шукаць іх вельмі нязручна. Пра Драздовіча, сапраўды, шмат пісалі, выступалі з дакладамі на канферэнцыях. Але сабраныя пад адну вокладку, гэтыя тэксты даюць магчымасць глядзець на Драздовіча ў розных ракурсах. Ён этнограф, мастацтвазнаўца, мовазнаўца, фалькларыст, педагог, пісьменнік, астраном… Па-другое, тут упершыню сабраны паэтычныя прысвячэнні Драздовічу.

**— Ці ўсе творы, прысвечаныя Язэпу Драздовічу, вы ўключылі ў кнігу?**

— Магчыма, нешта засталося па-за маёй увагай, і сапраўды, сабраць усё практычна немагчыма. Больш за тое, мне самому даводзілася ствараць бібліяграфію па Язэпу Драздовічу. Магчыма, яна ўжо ёсць у Нацыянальнай ці акадэмічнай бібліятэцы, можа, нехта складаў яе для сябе, але я такой бібліяграфіі не знайшоў. Пачаў з першай публікацыі Змітрака Бядулі ў часопісе «Беларускае жыццё» за 1920 год. У ліку тэкстаў, што ўвайшлі ў кнігу, ёсць вельмі вартыя ўвагі працы Віктара Шматава, Міхася Раманюка, Арсеня Ліса… Магчыма, мы нешта новае адкрылі пра Драздовіча цягам апошніх гадоў, але думаецца, што самае важкае слова сказаў пра яго Арсень Ліс. Увага да гэтых тэкстаў — мой запавет наступнікам: нам варта памятаць пра тое, што зрабілі папярэднікі.

Безумоўна, публікацыя твораў Язэпа Драздовіча прывабіць увагу прыхільнікаў яго творчасці, а таксама пашырыць чытацкую аўдыторыю. Думаецца, не ва ўсіх бібліятэках ёсць яго кнігі, а зараз з імі змогуць пазнаёміцца многія. У тым ліку стаў даступны дзённік Язэпа Нарцызавіча, упершыню апублікаваны ў 1991—1992 гадах у часопісе «Маладосць». Але тады ён быў надрукаваны не цалкам, выйшлі толькі раздзелы, напісаныя з 1933 па 1937 год. А запісаў 1938 года не было. Толькі цяпер Арсень Ліс, ведаючы, што я працую над новым выданнем, прадаставіў для публікацыі раздзел за 1938 год. Я не ведаю, якім чынам ён трапіў у архіў шаноўнага даследчыка, магчыма, яшчэ ў час вандровак навукоўца па Дзісеншчыне нехта са знаёмых Драздовіча перадаў гэтую частку.




Адметнасць запісаў за 1938 год у тым, што менавіта тут Драздовіч распавядае пра маладосць, часы «Нашай Нівы», службу ў войску.

**— Я ведаю, што не ўсе тэксты Язэпа Драздовіча публікаваліся, не ўсе яны апрацаваныя нашымі тэкстолагамі, некаторыя творы яшчэ захоўваюцца ў рукапісах. Чаму вы пакінулі без увагі гэты сегмент спадчыны майстра?**

— Так, я ведаю, што ў ЦНБ імя Якуба Коласа НАН Беларусі захоўваюцца рукапісы Драздовіча, але не магу на сябе браць смеласць іх вывучаць. Я падрыхтаваў да выдання толькі тыя творы, што ў той ці іншай форме ўжо былі апрацаваныя, надрукаваныя самім Драздовічам. Ведаю, што ў рукапісах яшчэ ёсць гістарычны раман «Гарадольская пушча», алегарычная казка «Сон Гераноса», навукова-фантастычныя аповесці пра космас… Але я лічу, што не маю права адкрываць гэтыя творы: яны могуць быць у некалькіх варыянтах, недапісаныя, недапрацаваныя. Трэба, каб гэтай справай займаліся спецыялісты, на навуковым узроўні.

**— А ці думаеце ў далейшым займацца даследаваннем творчасці Драздовіча?**

— У канцы жыцця Язэп Драздовіч неадназоава паўтараў: «Мяне яшчэ пашукаюць», — думаю, яго прадказанне спраўджваецца. Асабіста я бачыў яго малюнкі, жывапісныя работы ў прыватных архівах дзеячаў беларускай культуры. Дзе яны сёння, сказаць складана. Гэта сведчыць пра тое, што шмат якія работы Драздовіча яшчэ могуць быць знойдзеныя. Я ж буду распавядаць пра свае знаходкі, толькі калі мне ў рукі патрапіць нешта цікавае і сапраўды вартае ўвагі.

**— Колькі часу заняла непасрэдна праца над кнігай?**

— Як кажа мая былая настаўніца Яўгенія Чаплінская, мог яе збіраць, пісаць паўгода, а рыхтаваў усё жыццё. Гэтыя словы мне вельмі падабаюцца. І гэта сапраўды так. Я ж цягам вывучэння спадчыны Драздовіча чытаў усе публікацыі, якія з'яўляліся ў друку, занатоўваў для сябе... Сёння часам чую меркаванні, што ў гэтае выданне можна было б не ўключаць працы некаторых даследчыкаў. Я з гэтым не згодны. Асабліва калі гаворка ідзе пра раздзел успамінаў. Пра Драздовіча практычна не засталося добрых, грунтоўных мемуараў сучаснікаў. Ёсць невялікія часткі, да прыкладу, раздзел з успамінаў Бернарда Стаповіча, брата Казіміра Сваяка, ці ўспаміны Янкі Багдановіча, рэдактара-выдаўца часопіса «Шлях моладзі», які жыў у Вільні. Па маёй просьбе, яшчэ ў 1980-х гадах ён напісаў гэтыя мемуары. Магчыма, яны не самыя вартасныя, як і згадкі іншых сучаснікаў, якія толькі некалькі разоў сустракалі Драздовіча. Але ўключаць іх у навуковы ўжытак патрэбна, бо ў апошні час Драздовіч пацяху кананізуецца, робіцца забранзавелым. Мне ж хочацца бачыць яго жывога. І таму нават не зусім поўныя ўспаміны пра Язэпа Нарцызавіча маюць вялікую каштоўнасць.

**— Прайшло ўжо некалькі месяцаў з таго часу, як кніга пабачыла свет. Ці атрымлівалі водгукі ад чытачоў?**

— Так, ужо можна сцвярджаць, што кніга мае плён. Працы пра Драздовіча і яго літаратурныя творы прачыталі тыя, хто раней не цікавіўся яго спадчынай. І адзначалі, што ў кожным з тэкстаў знайшлі нешта сваё. І мне гэта падабаецца. Мы не настолькі багатыя, каб раскідваца здабыткамі, і не заўсёды трэба браць на сябе смеласць, каб вызначаць, тэкст выдатны ці кепскі. Час разбярэцца, усё расставіць на свае месцы. Больш за тое, беларусы не так шмат ведаюць пра Язэпа Драздовіча. Мы, бывае, перабольшваем свае веды, магчымасці, і, я ўпэўнены, гэтая кніга для многіх чытачоў стане сапраўдным адкрыццём.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Трылогія дыялогаў? Так!

**Дзесяць дыялогаў з вядомымі асобамі нацыянальнай творчай эліты прадстаўленыя ў кнізе слыннага пісьменніка, журналіста, навукоўца, кандыдата філасофскіх навук Зіновія Прыгодзіча «Постаці», што пабачыла свет у РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».**

Яна мае гэткую ж назву, як і папярэдняя, якая выйшла ў тагачаснай РВУ «Літаратура і Мастацтва» ў 2011 годзе. Тым разам З. Прыгодзіч у якасці сваіх субяседнікаў таксама выбраў знакамітых асоб.

Адкрываў кнігу дыялог з Валерыем Анісенкам «Тэатр пачынаецца... з Радзімы!». Марыя Захарэвіч сутнасць сваёй працы выказала надзіва афарыстычна: «Навошта той талент, калі няма сэрца...» За літаратуру, за Беларусь і яе народ балела сэрца і Янкі Сіпакова. Ягоныя развагі «Гэта ж якая радасць — стварацъ жыццё!» — споведзь даверлівай, адкрытай душы. У іх шмат цеплыні, сардэчнасці. Яно і нядзіўна: Я. Сіпакоў і З. Прыгодзіч сябравалі. Запамінальнымі паўсталі таксама Міхась Дрынеўскі («Несці народу ягоную ж спадчыну»), Леанід Захлеўны («Музыка — гэта тое, чым жыву»), Адам Мальдзіс («Беларуская цывілізацыя мае даўнія традыцыі»), Іван Міско («Космасу належыць будучыня»), Георгій Паплаўскі («Рэалізм — душа мастацтва»), Анатоль Сульянаў («Духоўнасць, маральнасць — аснова прафесіяналізму»), сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч («Шчасце — калі здзяйсняюцца мары»).

Прамежак паміж першай і другой кнігамі не такі і вялікі, усяго тры гады. Ды таму, хто працуе плённа (а Зіновій Кірылавіч да такіх пісьменнікаў ды журналістаў і належыць), гэтага часу дастаткова, каб назапасіць матэрыял, які можа загучаць. Тым больш што сярод дыялогаў ёсць і такія, што былі занатаваны раней, заставалася толькі давесці іх да ладу. У выніку атрымалася кніга, падзаголовак якой — «Сэрца мільёнаў падслухаць біяцця…» — сам гаворыць за сябе. З. Прыгодзіч імкнецца глыбока і ўсебакова расказаць пра тых, чыя творчасць на мастакоўскай ніве па-свойму знакавая, а набыткі сведчаць пра тое, што чалавек з задаткамі таленту пры настойлівай працы можа дасягнуць вельмі многага.

Дзесяць чарговых постацей у новай кнізе (дарэчы, гэта толькі частка гутарак З. Прыгодзіча, апрабаваных на старонках старэйшага літаратурнамастацкага часопіса краіны — «Полымя») — не проста дзесяць творчых партрэтаў, а і сяганне ў сферу прыгожага, узвышанага, прывабнага. Расказвае ж аўтар пра самых-самых. Дарэчы, гэта не традыцыйныя гутаркі, калі той, хто бярэ інтэрв'ю, задае пытанні з мэтай атрымаць адказ, а менавіта дыялогі, якія вядуцца на роўных.

Так гутаркі З. Прыгодзіча выходзяць за жанравыя межы. У кнізе напаткаеш дыялогі-партрэты, дыялогі-нарысы, дыялогі-эсэ. Але ў кожным выпадку ёсць тое абавязковае, што нязменна папярэднічае кожнаму дыялогу. Перад гаворкай З. Прыгодзіч абавязкова дае разгорнутую характарыстыку творчасці суразмоўцы. Ды не кароткую, а такую, што патрапляе пад вызначэнне «штрыхі да творчага партрэта». Часам ловіш сябе на думцы, што ўжо гэтага матэрыялу дастаткова, каб атрымаць уяўленне пра тое, хто ёсць хто.

Дыялогі дазваляюць адчуць, зразумець, як сам час праламляецца ў лёсах, наколькі тыя ці іншыя грамадскія зрухі ідуць на карысць пісьменніку, акцёру, спеваку ці, наадварот, уздзейнічаюць на яго негатыўна.




З кім бы З. Прыгодзіч ні гутарыў, ён абавязкова знаходзіць паварот, які дазваляе асобе раскрыцца па-новаму. І не толькі як прафесіяналу, а і як чалавеку. Асабліва гэта заўважна па дыялогах з Наталляй Гайда («Аперэта — мая любоў!») і Валянцінай Гаявой («Я замужам за «Харошкамі»). Субяседніцы З. Прыгодзіча — мілыя, абаяльныя жанчыны. Як было не пацікавіцца ў іх і пра асабістае жыццё. Робіцца гэта тактоўна. Дый, па сутнасці, не пытанні гэта, а шчырая, даверлівая размова. Тое ж тычыцца і дыялогу з Міхаілам Фінбергам «Мая сям'я — гэта мой аркестр», няцяжка заўважыць, што назва перакліkaецца са словамі В. Гаявой.

З нечаканага боку ўбачыўся, дзякуючы дыялогу «Дабро і зло плывуць у адной лодцы», Леанід Левін. Аказваецца, ён быў не толькі выдатным архітэктарам, але і пісаў вершы, прозу. Як сведчыць З. Прыгодзіч, «Леанід Мендэлевіч — аўтар двух «Хатыняў». Адна з іх — тая, што за Лагойскам — сусветна вядома. Мемарыяльны комплекс, які створаны на месцы спаленай фашыстамі вёскі, даўно стаў Надзвычайным Паўнамоцным Паслом Беларусі». Другая левінская «Хатынь» — аўтабіяграфічная аповесць з такой назвай. А вось Міхаіл Савіцкі («Свабода творчасці — гэта служэнне») не толькі ствараў цудоўныя мастацкія палотны, а яшчэ і садаводствам займаўся.

Духоўна ачышчаешся пасля дыялогу з Алесем Савіцкім «Толькі мужны дасягае мэты». Здавалася б, пра Алеся Ануфрыевіча ведаеш шмат, даводзілася з ім неаднойчы сустракацца, чытаць ягоныя кнігі, рэцэнзаваць іх. А тут таксама шмат у чым новы Алесь Савіцкі. Канечне, гэткі ж душэўна чысты, адкрыты, у многім даверлівы, але разам з тым куды больш відавочная ягоная жыццёвая мудрасць, разважлівасць, што дазваляе мець уласны погляд на падзеі, але ён настолькі ўсвядомлены, асэнсаваны і пераасэнсаваны, што з Алесем Ануфрыевічам нельга не пагадзіцца.

Змешчаныя ў кнізе і дыялогі з Барысам Сачанкам («Жыць інтарэсамі людзей»), Міхасём Казінцом («Музыка — душа народа»), Максімам Лужаніным («Сэрца паэтава біцца павінна дваццаць чатыры гадзіны»), Мікалаем Яроменкам («Я не ўмею жыць для сябе…»). Каторы з іх ні прачытаеш, застаецца пачуццё задавальнення: яны, як і згаданыя раней дыялогі, сведчаць пра глыбокую эрудыраванасць самога З. Прыгодзіча, ягонае ўменне раскрыць суразмоўцу. Зрэшты, героям кнігі сапраўды ёсць што сказаць, і яны ўмеюць гэта рабіць.

Думаецца, гэтыя новыя «Постаці» ў З. Прыгодзіча не стануць апошнімі. Хацелася б, каб з'явілася і трэцяя кніга дыялогаў. Балазе, творцаў, якія заслугоўваюць пільнай увагі, стае. Гэта будзе проста здорава: трылогія дыялогаў. Такога ў беларускай літаратуры яшчэ не было.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

***Прэзентацыя***

# Не па канонах

Трылогія Васіля Якавенкі «Пакутны век» у свой час выклікала нямала дыскусій. Твор упершыню выйшаў у Мінску ў 2006 годзе, а год таму пабачыў свет у перакладзе на рускую мову ў пецярбургскім выдавецтве «Нестор-История». На прэзентацыю кнігі «Надлом. Кручина вековая» ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы сабраліся сябры пісьменніка і аматары яго творчасці.

Ідэя выдання кнігі на рускай мове знайшла разуменне і падтрымку ў беларусаў Масквы і Санкт-Пецярбурга. Выданне пабачыла свет пры падтрымцы Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях. Па словах літаратуразнаўцы Лідзіі Савік, усходнім суседзям будзе цікава пазнаёміцца з версіяй беларускай гісторыі, напісанай не па канонах сацрэалізму.

Выступоўцы падзяліліся сваімі ўражаннямі ад кнігі «Пакутны век». Паводле прафесара Аляксея Рагулі, пісьменнік умее сцягнуць у адно сэнсы розных часоў ды эпох і ацаніць розныя канцэпцыі ад імя беларуса. «Стыль рамана рэалістычны і адначасова сімвалічны, сімволіка — гэта выхад і наперад, і ў мінулае. Васіль Якавенка паказвае патэнцыял народнага духу, які неаднойчы адраджаўся», — падкрэсліў літаратуразнаўца.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# У гонар Перамогі

**Чарговае пасяджэнне літаратурнага клуба «Спадчына», створанага па ініцыятыве старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ М. Пазнякова, адбылося ў гімназіі № 35 г. Мінска.**

Сустрэча спалучыла адборачны этап на гарадскі конкурс мастацкага чытання «Гэта — наша з табой Перамога!» сярод навучэнцаў 1—11 класаў і літаратурна-музычную гасцёўню «Лейся, песня...». У мерапрыемстве ўзялі ўдзел старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў і кампазітар ды музыкант-выканаўца шматлікіх песень на словы беларускіх аўтараў, член Саюза музычных дзеячаў Беларусі Аляксандр Якіменка. Члены журы уважліва слухалі выступленні вучняў, ацэньвалі вынікі.

Для выступлення 26 вучняў абралі вершы рускіх і беларускіх паэтаў, прысвечаныя тэме Вялікай Айчыннай вайны. Выступоўцы імкнуліся праявіць акцёрскае майстэрства, уменне трымацца перад аўдыторыяй.

Пераможцы атрымалі спецыяльныя прызы ад Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў. Памятныя падарункі ад гімназіі атрымалі ўсе ўдзельнікі.

Члены журы выказалі задаволенасць падрыхтоўкай, далі парады і рэкамендацыі, заклікалі вучняў на далейшыя поспехі ў гарадскім этапе, які адбудзецца 23 красавіка пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Наталля ЛОЙКА,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры**

***На паліцы***

# Часцей глядзець на неба...

*Рассталіся яны... У адну хвіліну*
*Усё закрэслілі, што дарагім было:*
*І песню жаўрука, і неба сіняе,*
*Што ім валошкамі цвіло.*

*Усё, здаецца, роўна падзялілі,*
*І раз'яднохая іх зло.*
*Падумаць жа ім не хапае сілы, —*
*А неба як, што на дваіх — адно?*

Гэтыя пранікнёныя радкі належаць украінскаму паэту і журналісту Дзмітру Пічкуру.

У свой час мне пашанцавала: у складзе дэлегацыі Гомельскай вобласці ўдзельнічаў у правядзенні Дзён культуры Беларусі ў Вінніцкай вобласці. Пашчасціла пазнаёміцца з многімі ўкраінскімі пісьменнікамі, дзеячамі культуры. Падчас адной з сустрэч абмяняліся кнігамі з Дзмітрыем Пічкуром. Ён падарыў мне свой зборнік паэзіі «Жураўліны бераг» з такім надпісам: «Беларускім сябрам на добрую згадку пра сустрэчы ў Вінніцы. Лістапад 2001 года».

> **Даведка «ЛіМа»**
>
> Дзмітро Пічкур — вядомы на Вінніччыне журналіст і літаратар. Нарадзіўся ў 1941 годзе ў сяле Расахаватка Кацярынапольскага раёна Чаркаскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Т. Р. Шаўчэнкі. Працаваў у рэдакцыі абласной газеты «Вінніччына». Вершы Дзмітра Пічкура характарызуе эмацыянальная і інтанацыйная цэльнасць.

У зборніку, які выйшаў з друку ў Вінніцы ў 1997 годзе, — паэтычная споведзь душы, адкрытай перад Богам і людзьмі. Вершы споўненыя сонечным настроем, любоўю да роднай зямлі, маці, жонкі. Аўтар апявае прыгажосць прыроды, дружбу і каханне.

«Жураўліны бераг» — другая па ліку кніга паэта. Першая, з назвай «Яшчэ так да восені далёка», пабачыла свет у 1994 годзе.

Я часта бяру ў рукі гэты зборнік-падарунак, перачытваю вершы, якія палюбіліся. І вось аднойчы захацелася, каб з творамі Дзмітра Пічкура пазнаёміліся і іншыя, адчулі магію лірычных радкоў гэтага ўлюбёнага ў жыццё і людзей паэта, даведаліся пра яго думкі і пачуцці. Яму можна па-добраму пазайздросціць: на нялёгкіх і няпростых жыццёвых шляхах не растраціў непасрэднасці, дабрыні, шчымлівай даверлівасці да людзей. Хоць, як ён сам прызнаецца, «І мяне, як танюсенькі сноп, б'е па рэбрах жыцця малатарка».

**Міхась СЛІВА**

# Навінкі кнігавыдання

### Гісторыя Беларусі

**Могилевская губерния:** государственные, религиозные и общественные учреждения: (1772—1917) / [Е. К. Анищенко и др.; составители: Ю. Н. Снапковский, Д. Л. Яцкевич; редколлегия: Д. В. Яцевич (главный редактор)]; Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь, Национальный исторический архив Беларуси. — Минск: Беларусь, 2014. — 814 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-01-1088-6 (в пер.).

**Назовем поименно:** [сведения о партизанах, подпольщиках, мирных жителях Крупского района Минской области, погибших в годы фашистской оккупации в 1941—1944 гг. / автор предисловия, составитель Д. Н. Хромченко]. — Минск: БГАТУ, 2014. — 187 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-519-658-8.

**Освобождение Беларуси:** хроника, события, герои: 1943—1944 гг. / Министерство культуры Республики Беларусь, Белорусский государственный музей истории Великой Отечественной войны; [составители: Н. Д. Шевченко, В. П. Фалецкий; редакционный совет: А. В. Галинская и др.]. — Минск: Конфидо, 2014. — 335 с.. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-6777-43-4 (в пер.). — ISBN 978-985-6877-43-4 (ошибоч.).

**Прыпяцкае Палессе: ад старажытнасці да сучаснасці:** гісторыя рэгіёна Нацыянальнага парка «Прыпяцкі» / [Ю. М. Бохан і інш.; рэдкалегія: А. А. Каваленя (галоўны рэдактар) і інш.]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі, Упраўленне справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны парк «Прыпяцкі». — Брэст: Альтернатива, 2013. — 261 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-521-416-9.

**Страницы подвига:** студенты размышляют, пишут о Великой Отечественной войне: (к 70-летию освобождения Беларуси): [сбрник научных статей] / Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет; [под редакцией В. А. Божанова, Д. Н. Хромченко]. — Минск: Донарит, 2014. — 167 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-90244-5-0 (в пер.).

**Тарас, А. Е.** Краткий курс истории Беларуси IX—XXI вв. / А. Е. Тарас. — Минск: Харвест, 2014. — 542 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-18-2214-6 (в пер.).

**Тарас, А. Е.** Орша, 8 сентября 1514 года / А. Е. Тарас. — Минск: Харвест, 2014. — 158 с. — Часть текста на белорусском языке. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-2947-3 (в пер.).

### Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура

**Александров, И.** Большая иллюстрированная энциклопедия дошкольника / Игорь Александров. — Москва: АСТ, 2014. — 239 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-083885-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3102-5 (Харвест) (в пер.).

**Бабич, В.** Книга для каждого мальчика: [все, что ты хотел знать, но стеснялся спросить: для старшего школьного возраста] / Виолета Бабич; иллюстрации Аны Григорьев; [перевод с сербского Вячеслава Чарского]. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 141 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-075047-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3068-4 (Харвест).

**Бабич, В.** Книга для каждой девочки: [все, что ты хотела знать, но стеснялась спросить: для среднего школьного возраста] / Виолета Бабич; иллюстрации Аны Григорьев; [перевод с сербского Анны Немовой]. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 157 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-075043-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3069-1 (Харвест).

**Быстрицкая, Э.** Великие изобретения и открытия: Что?! Как?! И почему?! / Элена Быстрицкая. — Москва: АСТ, 2014. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-084562-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3181-0 (Харвест) (в пер.).

**Вышивка крестом:** практическое руководство: пошаговые инструкции, схемы, варианты исполнения, список материалов / [составитель Барковская Наталья Францевна]. — Минск: Кузьма, 2014. — 31 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-453-825-9.

**Гусев, И. Е.** Земля: [для младшего и среднего школьного возраста] / И. Е. Гусев. — Минск: Харвест, 2014. — 63 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-3159-9 (в пер.).

**Закон Божий:** руководство для семьи и школы / составил протоиерей Серафим Слободской. — 4-е изд. — Минск: Издательство Белорусского Экзархата Московского Патриархата, 2014. — 791 с. — 20000 экз. — ISBN 978-985-511-722-4 (в пер.).

**Игрушки из бисера:** практическое руководство: пошаговые инструкции, схемы, варианты исполнения, список материалов / [составитель Барковская Наталья Францевна]. — Минск: Кузьма, 2014. — 31 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-453-824-2.

**История Великих географических открытий в картинках:** [для младшего и среднего школьного возраста] / текст Мабел Джордж; иллюстрации Кларка Хаттона; [перевод с английского С. Муравьева]. — Москва: АСТ, 2014. — 57 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-085000-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3083-7 (Харвест) (в пер.).

**Кун, Н. А.** Легенды и мифы Древней Греции: [для младшего и среднего школьного возраста] / Н. А. Кун. — Москва: АСТ, 2014. — 190 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-054020-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3185-8 (Харвест) (в пер.).

**Лукашевич, И. Г.** Биология для любознательных: растения и животные / И. Г. Лукашевич. — Минск: Белорусская ассоциация «Конкурс», 2014. — 127 с. — 35800 экз. — ISBN 978-985-557-067-8.

**Мягкие игрушки:** практическое руководство: пошаговые инструкции, выкройки, варианты исполнения, список материалов / [составитель Чемодурова Татьяна Ивановна]. — Минск: Кузьма, 2014. — 31 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-453-823-5.

**Никитин, М. Г.** Дорогами Победы: к 70-летию операции «Багратион»: [для среднего и старшего школьного возраста] / Михаил Никитин. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 48 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0793-9.

**О крещении царя Константина:** (фрагмент Лицевого летописного свода XVI века): детская книжка-раскраска / [Благотворительный фонд содействия развитию культуры «Общество любителей древней письменности»; перевод на современный русский язык: Герман и Сергий Стерлиговы]. — Минск: Попурри; Москва, 7523. — 34 с. — Текст параллельно на русском и старославянском языках. — 20000 экз. — ISBN 978-985-15-2229-9.

**Спектор, А. А.** Животные: [для младшего и среднего школьного возраста] / А. А. Спектор. — Минск: Харвест, 2014. — 63 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-3057-8 (в пер.).

**Спектор, А. А.** Птицы: [для младшего и среднего школьного возраста] / А. А. Спектор. — Минск: Харвест, 2014. — 63 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-3058-5 (в пер.).

### Літаратура. Літаратуразнаўства

**Капцев, В. А.** Трансформация образа современного писателя: от общественного статуса к медийному имиджу / В. А. Капцев; Белорусский государственный университет. — Минск: БГУ, 2014. — 119 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-990-0.

### Мастацкая літаратура на асобных мовах

**Коути, Е.** Заговор призраков: [роман] / Екатерина Коути, Елена Клемм. — Москва: АСТ, 2014. — 413 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-079082-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3226-8 (Харвест) (в пер.).

### Англійская літаратура

**Баркли, Л.** Поверь своим глазам / Линвуд Баркли; [перевод с английского И. Л. Моничева]. — Москва: АСТ, 2014. — 541 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-081674-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3220-6 (Харвест) (в пер.).

**Бронте, Ш.** Найденыш: повесть из наших времен, написанная капитаном Древом / Шарлотта Бронте; [перевод с английского Е. Доброхотовой-Майковой]. — Москва: АСТ, 2014. — 186 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-085593-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3304-3 (Харвест) (в пер.).

**Джеймс, Ф. Д.** Изощренное убийство: [роман] / Ф. Д. Джеймс; [перевод с английского Е. И. Филипповой]. — Москва: АСТ, 2014. — 319 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-083913-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3145-2 (Харвест) (в пер.).

**Лейн, Г.** Элис. Навсегда / Гарриэт Лейн; [перевод с английского И. Л. Моничева]. — Москва: АСТ, 2014. — 287 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079506-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3010-3 (Харвест) (в пер.).

### Літаратура ЗША на англійскай мове

**Александер, В.** Список женихов: роман / Виктория Александер; [перевод с английского Л. И. Лебедевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-083834-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2971-8 (Харвест) (в пер.).

**Бартон, А.** Во власти обольстителя: роман / Анна Бартон; [перевод с английского И. П. Родина]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081389-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3219-0 (Харвест) (в пер.).

**Бассо, А.** Как соблазнить грешника: роман / Адриенна Бассо; [перевод с английского А. Е. Мосейченко]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-080663-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3218-3 (Харвест) (в пер.).

**Грант, С.** В сетях любви: роман / Сесилия Грант; [перевод с английского М. Л. Павлычевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082150-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3141-4 (Харвест) (в пер.).

**Грей, Д.** Наука страсти: роман / Джулиана Грей; [перевод с английского Е. Максимовой]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-080458-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3310-4 (Харвест) (в пер.).

**Деверо, Д.** Золотые дни: [роман] / Джуд Деверо; [перевод с английского Я. Е. Царьковой]. — Москва: АСТ, 2014. — 349 с. — Перед выпускными данными: 16+. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-085611-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3260-2 (Харвест) (в пер.).

**Джеффрис, С.** Страсть по завещанию: роман / Сабрина Джеффрис; [перевод с английского А. В. Дубровского]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079415-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3042-4 (Харвест) (в пер.).

**Касслер, К.** Шпион: [роман] / Клайв Касслер, Джастин Скотт; [перевод с английского Д. Арсеньева]. — Москва: АСТ, 2014. — 382 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079482-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3139-1 (Харвест) (в пер.).

**Кэмп, К.** Невеста джентльмена: роман / Кэндис Кэмп; [перевод с английского В. Ю. Сокова]. — Москва: АСТ, 2014. — 349 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081916-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3305-0 (Харвест) (в пер.).

**Спотсвуд, Д.** Проклятая звезда = Star cursed: [захватывающая история о ведьмах, семейных ценностях и безответной любви] / Джессика Спотсвуд; [перевод с английского: Ольга Кидвати]. — Москва: АСТ, 2014. — 412 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-084420-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3232-9 (Харвест) (в пер.).

### Нямецкая літаратура

**Ремарк, Э. М.** Возвращение с Западного фронта: [сборник романов] / Эрих Мария Ремарк; [перевод с немецкого Ю. Афонькина, И. Горкиной, И. Шрайбера]. — Москва: АСТ, 2014. — 1054 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-084676-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3131-5 (Харвест) (в пер.).

**Фейхтвангер, Л.** Лисы в винограднике: [роман] / Лион Фейхтвангер; [перевод с немецкого С. Апта и Б. Арона]. — Москва: АСТ, 2014. — 765 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-085705-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3140-7 (Харвест) (в пер.).

### Руская літаратура

**Битов, А. Г.** Преподаватель симметрии: роман-эхо / перевод с иностранного без словаря Андрея Битова. — Москва: АСТ, 2014. — 429 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-084194-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3284-8 (Харвест) (в пер.).

**Борисова, В.** Ключи от рая / Виктория Борисова. — Минск: Букмастер, 2014. — 284 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-549-823-1 (в пер.).

**Борисова, В.** Рабство по контракту / Виктория Борисова. — Минск: Букмастер, 2014. — 285 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-549-826-2 (в пер.).

**Вигдорова, Ф. А.** Девочки: дневник матери / Фрида Вигдорова. — Москва: АСТ, 2014. — 347 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-085496-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3236-7 (Харвест) (в пер.).

**Владимирова, Э.** Безнадежная любовь / Эльвира Владимирова. — Минск: Букмастер, 2014. — 253 с. — 2250 экз. — ISBN 978-985-549-893-4 (в пер.).

**Джейн, А.** Мой идеальный смерч: роман / Анна Джейн. — Москва: АСТ, 2014— — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск).

Ч. 1. — 2014. — 509 с. — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-085304-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3187-2 (Харвест) (в пер.).

**Ефремов, И. А.** Лезвие бритвы: [роман] / Иван Антонович Ефремов. — Москва: АСТ, 2014. — 603 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-085573-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3264-0 (Харвест) (в пер.).

**Иванов, В. Д.** Русь изначальная: [исторический роман] / В. Д. Иванов. — Москва: АСТ, 2014. — 797 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-086077-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3265-7 (Харвест) (в пер.).

**Панаева, А.** Мой любовник — Николай Некрасов / Авдотья Панаева. — Москва: АСТ, 2014. — 382 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-086075-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3271-8 (Харвест) (в пер.).

**Плетнев, П. А.** Полное собрание стихотворений / Петр Плетнев. — Минск: Лимариус, 2014. — 288 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6968-38-2.

**Тармашев, С. С.** Тьма. Конец тьмы: [фантастический роман] / Сергей Тармашев. — Москва: АСТ, 2014. — 445 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 12500 экз. — ISBN 978-5-17-086250-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3280-0 (Харвест) (в пер.).

**Толстой, Л. Н.** Анна Каренина: [роман] / Лев Толстой. — Москва: АСТ, 2014. — 797 с.. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-063243-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3138-4 (Харвест) (в пер.).




**Масягіна, М. Упакоўка шукае сяброў / [Марыя Масягіна; ілюстратар Воля Кузьміч]. — Мінск: МГА «Экапартнёрства», 2014. — 14 с. — 1000 экз.**

*Выхаванне экалагічнай культуры з'яўляецца сёння адной з найбольш актуальных мэтаў дашкольнай і школьнай адукацыі. Але, пагадзіцеся, дзеткам вельмі сумна і нават нецікава слухаць расповеды настаўніка пра тое, што варта беражліва ставіцца да навакольнага асяроддзя, смецце збіраць у асобныя кантэйнеры, выбіраць тавары ў адмысловай экалагічнай упакоўцы… А калі пра гэта распавядзе герой казкі? Вядома, будзе іншы вынік! Такім меркаваннем кіравалася і Марыя Масягіна пры распрацоўцы сюжэта пра Бутэльку, якая з крамы трапляе ў халадзільнік, дзе знаходзіць шмат сяброў. Гераіня казкі шукае адказы на пытанні пра стварэнне смецця, яго сартаванне і далейшы цыкл перапрацоўкі.*

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Азгирь, Е.** Фавновы угодья: стихотворения / Евгений Азгирь. — Брест: Брестская типография, 2014. — 82 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-524-178-3.

**Анцен, Э. П.** В боях под Тукумсом: повесть / Эдуард Анцен. — Полоцк: Полоцкое книжное издательство, 2014. — 77 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-6936-65-7.

**Аронов, С. Л.** Белая ворона: стихи, сказки, басни / Семен Аронов. — Минск: Ковчег, 2014. — 78 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7086-38-2.

**Аронов, С. Л.** Талый воск: стихи / Семен Аронов. — Минск: Ковчег, 2014. — 78 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7086-37-5.

**Гавриленко, Т. А.** Сердце в огне: [поэзия] / Татьяна Гавриленко. — Минск: Белпринт, 2014. — 167 с. — 85 экз. — ISBN 978-985-459-323-4.

**Гаврилов, В. И.** Бриллианты человеческой души: [роман: в 2 т.] / Вадим Гаврилов. — Минск: Белпринт, 2013. — 55 экз. — ISBN 978-985-459-304-3.

Т. 1. — 214 с. — ISBN 978-985-459-305-0.

Т. 2. — 225 с. — ISBN 978-985-459-306-7.

**Гаврилов, В. И.** Энергия жизни: [роман] / Вадим Гаврилов. — Минск: Белпринт, 2014. — 458 с. — 56 экз. — ISBN 978-985-459-322-7 (в пер.).

**Гапиенко, В. М.** Рассветы над Припятью / Владимир Гапиенко. — Минск: Ковчег, 2014. — 235 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-09-2 (в пер.).

**Гузенкова, Г. И.** Подари мне, мама, радугу...: стихи / Галина Гузенкова; [автор предисловия Анна Атрощенко]. — Минск: Ковчег, 2013. — 47 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-02-3. — ISBN 978-985-7086-01-6 (ошибоч.).

**Дашковец, О.** В. Вечернее платье: стихи / Оксана Дашковец. — Минск: Ковчег, 2014. — 56 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7086-22-1.

**Дашковец, О. В.** Осенняя вольность: стихи / Оксана Дашковец. — Минск: Ковчег, 2014. — 50 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7086-23-8.

**Джад, А. Л.** Регистратор: повесть в новеллах / Александр Джад. — Гомель: Полеспечать, 2014. — 264 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7012-44-2 (в пер.).

**Земша, В. В.** На переломе эпох: роман: в 2 т. / Владимир Земша. — Минск: ПрестижИздатРеклама, 2014. — 100 экз. — ISBN 978-985-90252-4-2 (в пер.).

Т. 1. — 758 с. — ISBN 978-985-90252-2-8.

Т. 2. — 576 с. — ISBN 978-985-90252-3-5.

**Золотой колос:** литературный альманах творчества студентов, учащихся, выпускников, работников вузов и колледжей АПК / Белорусский государственный аграрный технический университет, Отдел воспитательной работы с молодежью, [Творческое литературно-художественное объединение «Першапачаткоўцы»]. — Минск: БГАТУ, 2012—

Вып. 4 / [составитель Т. Н. Ващаева; под общей редакцией И. Н. Шило]. — 2014. — 55 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-519-657-1.

**Квилория, В. Т.** Осенний паразит: [только для взрослых / Валерий Квилория; художник Мирослава Костина]. — Минск: В. Т. Квилория, 2014. — 16 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-42-3.

**Кеник, А. А.** Исповедь: сборник стихов / Андрей Кеник; [предисловие В. П. Супрунчука]. — Минск: Книгосбор, 2014. — 271 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7089-67-3.

**Кикель, П. В.** Судьбы счастливая дорога / П. В. Кикель. — Минск: Право и экономика, 2014. — 317 с. — Часть текста на белорусском языке. — 90 экз. — ISBN 978-985-552-297-4.

**Малевич, И. А.** Умники, или Музыка музея глухих: городской роман / Игорь Малевич. — Минск: Харвест, 2014. — 575 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3059-2 (в пер.).

**Масолов, А. И.** Чужой рай: поэзия / Анатолий Масолов. — Минск: Белпринт, 2014. — 159 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-459-312-8.

**Михальчук, Н. А.** Коралловый ветер: стихи, поэмы, эссе / Наталья Михальчук. — Могилев: Информационное агентство «Могилевские ведомости», 2014. — 106 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-90326-5-3.

**Монолог. Свободное творчество** / [руководитель проекта Татьяна Орлова; составление и общая редакция: Алексей Андреев]. — Минск, 1997— — Основан в 1997 г.

Вып. 18 / редколлегия: Адам Глобус и др.; переводы с белорусского — Алексея Андреева и др.; переводы с литовского — Сюзанны Павкштелы]. — 2014. — 322 с. — Переводы с белорусского также: Ляхнович Э., Маркович Е., Харевский С. — 299 экз. — ISBN 978-985-7021-42-0.

**Орлова, Л. Н.** Тринадцатый...: книга стихов / Любовь Орлова. — Мозырь: КПУП «Колор», 2014. — 63 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6830-56-6.

**Павлов, И. А.** Жизнь — как полет: 70 лет Победы: автобиографическо-документальная повесть / И. А. Павлов. — Витебск: Витебская областная типография, 2014. — 127 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-534-056-1 (в пер.).

**Перун, Г. С.** Прости...: роман / Галина Перун. — Минск: ЛарХо, 2014. — 415 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-90200-7-0 (в пер.).

**Признание в любви:** сборник творческих работ учащихся учреждений образования, посвященных 45-летию Первомайского района г. Минска / Управление образования, спорта и туризма Администрации Первомайского района г. Минска. — Минск, 2014. — 55 с. — Часть текста на белорусском языке. — 500 экз.

**Проказов, Б. Б.** Записки многодетного: [рассказы] / Борис Проказов. — Минск: Братство в честь Святого Архистратига Михаила в г. Минске Минской епархии Белорусской Православной Церкви, 2014. — 127 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6978-97-8.

**Рогачев, А. Г.** Крещение дождем: сборник стихов / Александр Рогачев. — Минск: Печенко А. Г., 2014. — 91 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7053-57-5.

**Савинов, Б. Ф.** Как сердцу высказать себя: сборник стихов / Борис Савинов; [автор введения Виктор Соболевский]. — Минск: Печенко А. Г., 2014. — 147 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7053-59-9.

**Сафроненко, В. И.** Заре навстречу, или Превратности судьбы: [документальное повествование] / Владимир Сафроненко. — Минск: Книгосбор, 2014. — 371 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7089-60-4.

**Советная, Н. В.** Увидеть ветер: книга лирики / Наталья Советная; [автор предисловия Михаил Поздняков]. — Минск: Четыре четверти, 2014. — 132 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-7058-89-1 (в пер.).

**Страшной, С.** Генетики тоже шутят / С. Страшной. — Минск, 2014. — 31 с. — 50 экз.

**Тихонова, А. А.** Дорогая находка: стихотворения / Анна Тихонова. — Минск: Книгосбор, 2014. — 27 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7089-62-8.

**Томильчик, Л. М.** Квазипоэтические поделки: опыты рифмоидного эквилибра / Лев Томильчик. — Минск: Альтиора — Живые Краски, 2014. — 76 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-7073-51-1.

**Умрейко, А. Я.** Крест Евфросинии: повесть / Александр Умрейко. — Несвиж: Несвижская типография, 2014. — 349 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7078-03-5 (в пер.).

**Хадосевич, В. А.** Эхо времени: [сборник стихов] / Вацлав Хадосевич. — Минск: Белпринт, 2014. — 67 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-459-313-5.

**Чергинец, Н. И.** Последний герой: [роман] / Чергинец Н. И. — Минск: Харвест, 2014. — 319 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3108-7 (в пер.).

**Чергинец, Н. И.** Упреждающий удар: [роман] / Чергинец Н. И. — Минск: Харвест, 2014. — 319 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3107-0 (в пер.).

**Шкирманков, Ф. В.** Смотрю, слушаю, размышляю...: стихами о прозе жизни / Феликс Шкирманков. — Минск: Четыре четверти, 2014. — 207 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7103-03-4 (в пер.).




**Мартинович, А. Жаркое солнце Эфиопии: историко-приключенческий роман: в 2 кн. / Алесь Мартинович. — Минск: Звязда, 2014 — — ISBN 978-985-7083-38-1.**

**Кн. 1. — 2014. — 268 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7083-36-7 (в пер.).**

**Кн. 2. — 2014. — 301 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7083-37-4.**

*Гэты чалавек яшчэ пры жыцці стаў легендай. Моцнае каханне, адмова любай жанчыны, адкрыццё новай краіны, мноства прыгод і выпрабаванняў. Такім было жыццё рускага афіцэра і падарожніка Аляксандра Булатовіча. Менавіта рэальная гісторыя яго лёсу стала асновай новага рамана беларускага пісьменніка Алеся Марціновіча. Мастацкі твор (у дзвюх кнігах) заснаваны на падзеях з жыцця адкрывальніка загадкавай Эфіопіі, але гэта не робіць расповед менш цікавым і захапляльным. Наадварот, уражвае, што на лёс аднаго чалавека выпада столькі значных, лёсавырашальных падзей, нават адкрыццё цэлай краіны, магчымасць пазнаёміць з ёй цэлы свет!*

### Беларуская літаратура

**Абламейка, С.** Настальгія: падарожная проза / Сяргей Абламейка. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 410 с. — 600 экз. — ISBN 978-985-7021-47-5.

**Ахроменка, У. І.** Музы і свінні: [навелы] / Уладзіслаў Ахроменка. — Мінск: Ковчег, 2014. — 214 с. — 350 экз. — ISBN 978-985-7086-05-4 (памылк.).

**Богдан, У. С.** Бацькоўскі парог: зборнік паэзіі і прозы / Уладзімір Богдан; [укладальнік Л. І. Богдан]. — Нясвіж: Нясвіжская друкарня, 2014. — 50 с. — 15 экз. — ISBN 978-985-7078-07-3 (у пер.).

**Богдан, У. С.** Роднымі сцежкамі: зборнік вершаў / Уладзімір Богдан; [аўтар прадмовы В. В. Шчарбакова]. — Нясвіж: Нясвіжская друкарня, 2014. — 42 с. — 15 экз. — ISBN 978-985-7078-06-6 (у пер.).

**Быкаў, В.** Поўны збор твораў: у 14 т. / Васіль Быкаў; [укладанне і каментары Сяргея Шапрана]; рэдкалегія: Быкава І. М. [і інш.]. — Мінск: Кнігазбор, 2012—

Т. 10, кн. 1: Маладыя гады (1985, 2001). Артыкулы, эсэ, прадмовы, інтэрв'ю, гутаркі, аўтабіяграфіі, выступленні (1975—1980). — 2014. — 542 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 500 экз. — ISBN 978-985-7089-59-8 (у пер.).

**Гніламёдаў, У. В.** Вайна: раман / Уладзімір Гніламёдаў. — Мінск: Беларуская навука, 2014. — 626 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-08-1708-2 (у пер.).

## Нататкі рамантычнага маркетолага



**Кацярына СІМАН**

# Горад нашых фантазій

Вясна… Яна капрызлівая, але пры гэтым арыстакратычна вытанчаная. Крохкая, як крышталь, але поўная жыцця і чароўных прадчуванняў. Зусім як Парыж. Нават калі мы там не былі, гэты горад падаецца менавіта такім. У кожнага ёсць Парыж сваіх фантазій, але ён заўсёды паэтычны і бязважкі, як вясновае сонца.

Магчыма, менавіта таму на дзень вясновага раўнадзенства прыпадаюць і Міжнародны дзень паэзіі, і Міжнародны дзень франкафоніі. Летась мы з вамі разважалі пра тых, хто служыць Эўтэрпе, музе лірычнай паэзіі. А сёння я хачу прызнацца ў любові да французскай кнігі.

Упэўнена, практычна ўсе мы ў дзяцінстве разам з мушкецёрамі ратавалі гонар каралевы Ганны Аўстрыйскай ці, ідучы за прафесарам Аранаксам і яго сябрамі, апускаліся пад ваду на глыбіню 20 тысяч лье. Думаю, няма сэнсу распавядаць пра класічную французскую літаратуру. Яе прывабная вытанчанасць і захапляльны авантурызм відавочныя.

Іншая справа — французскія раманы нашых сучаснікаў. Пагадзіцеся, наўрад ці нехта з нас адразу назаве больш за 2-3 прозвішчы сучасных пісьменнікаў з Францыі. Таму ў свой час я ацаніла «Французскую лінію», што выпускаецца ў выдавецкім доме «Флюід». Яны першымі ў пачатку XXI стагоддзя падарылі нам «Укусы ўсходу» Бенаквісты. А шукаць шчасце мы выпраўляліся ўслед за Маркам Ляві, задаючыся пытаннем «Дзе ты?». Усяго было выдадзена каля 50 раманаў, а нашы веды французскай літаратуры ўзбагаціліся такімі імёнамі, як Жаклін Арпман, Надзін Бісмют, Гіём Віньё, Дзідзье Кавеларт, Жан Эшноз…

Але маім батыскафам для пагружэння ў глыбіні французскай літаратуры было іншае выдавецтва. У далёкія студэнцкія гады раманы Даніеля Пенака я зачытала амаль да дзірак. Мне настолькі падабалася яго серыя, прысвечаная сям'і Малясенаў, што, калі не магла знайсці ў Мінску новы раман, упрошвала сяброў прывезці з Масквы. А «вінаватае» ва ўсім выдавецтва «Макбел»: менавіта іх «Бібліятэка французскай літаратуры» пазбавіла мяне спакою і зрабіла маніякальным аматарам творчасці не толькі спадара Пенака, але і Бенаквісты.

Можна бясконца захапляцца французскім стылем, яго тонкай недавыказанасцю і духмянай маляўнічасцю. Таму можна смела сцвярджаць, што не толькі Эйфелева вежа і Эдзіт Піяф сімвалізуюць гальскія землі. Францыя была адной з першых еўрапейскіх краін, дзе кнігавыданне з'явілася як галіна, адзначыўшы канец XVIII стагоддзя. Сёння гэты аспект культуры не атрымлівае ніякай непасрэднай падтрымкі ад дзяржавы, але пры гэтым існуе вялікая колькасць арганізацый, якія так ці інакш дапамагаюць наладзіць эфектыўную «жыццядзейнасць» кніжнага механізма. І самае галоўнае, што адрознівае не толькі французскае, але і цэлы шэраг іншых еўрапейскіх рынкаў кнігі, — зніжаны падатак на дадатковы кошт і фіксаваная цана. Таму ў выдаўцоў няма іншага выйсця, — акрамя як павышаць якасць сваёй працы і ўвесь час быць «на сувязі» з пакупніком.

Думаю, мы яшчэ не раз вернемся да кніжнага свету Францыі, непаўторнага ў сваёй грацыёзнасці. Але галоўнае, што мудрасць друкаванага слова перадаецца з пакалення ў пакаленне не толькі ўнутры сям'і, але і ад творцы да творцы. І, адкрыўшы, напрыклад, раман Ганны Гавальды «Проста разам», вы знойдзеце простую ісціну: «Няма такога суму, які не магла б спатоліць кніга, казаў Мантэнь, а Мантэнь ніколі не памыляўся».

## За падзеяй

# Паэт з фронту

Вечарына «Мы свет нанова адкрывалі…», прысвечаная 95-годдзю з дня нараджэння паэта Аляксея Пысіна, прайшла ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Каб падзяліцца ўспамінамі пра сябра, настаўніка і калегу, прачытаць яго вершы, на вечарыну прыйшлі творцы, якія былі асабіста знаёмыя з Аляксеем Васільевічам, а даследчыкі паэзіі майстра прадставілі прысутным свае здабыткі ў вывучэнні яго спадчыны.

Вучаніца і калега Аляксея Пысіна, вядомая пісьменніца Раіса Баравікова распавяла:

— Аляксей Васільевіч быў вельмі глыбінным паэтам, ён паэт-філосаф, ад вершаў якога — дрыжыкі па скуры. Яго радкі адразу бяруць за сэрца. Магчыма, без яго клопату, парадаў я і не стала б пісьменніцай. Менавіта Аляксей Пысін калісьці даваў мне рэкамендацыю паступаць у Маскоўскі літаратурны інстытут, дзе з'явілася група перакладчыкаў з беларускай на рускую мову. Калі я ад'язджала ў Маскву, Аляксей Васільевіч папрасіў дасылаць вершы ў Магілёў, дзе ён у той час працаваў у газеце, і ўсе пяць гадоў навучання я выконвала абяцанне, а за публікацыі атрымлівала ганарары, якія мне вельмі дапамагалі. Аляксей Пысін быў вельмі добрым настаўнікам, і ў сваю паэзію я многае ўзяла з яго творчых набыткаў.



*Віктар Карамазаў.*

Аляксей Пысін належыць да франтавога пакалення пісьменнікаў, і па ўзроўні адлюстравання вайны ў паэзіі яго часта параўноўваюць з Васілём Быкавым, які пісаў пра тыя складаныя гады ў празаічным жанры. За сваё жыццё Аляксей Пысін выдаў больш як 20 зборнікаў, і з гэтымі кнігамі наведвальнікі імпрэзы маглі пазнаёміцца на адмысловай выстаўцы з фонду ЦНБ імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

— Мы былі знаёмыя з Аляксеем Пысіным з 1958 года, — распавёў пісьменнік Віктар Карамазаў. — Ён быў вельмі шчырым і сціплым чалавекам, не баяўся казаць праўду ў вочы, не цярпеў хлусні і несправядлівасці. Калі ў 1983 годзе я апынуўся ў Парыжы і праз некаторы час засумаваў па Радзіме, то пачаў пісаць эсэ пра Аляксея Васільевіча, чыя творчасць мне стала напамінам пра родныя мясціны.

**Чэслава ПАЛУЯН,**
**фота аўтара**



*Выстаўка кніг Аляксея Пысіна з фондаў ЦНБ імя Якуба Коласа НАН Беларусі.*

# Зорны парад, або Галерэя творцаў

Ці шмат вы ведаеце пра нацыянальных «творцаў мастацкай рэальнасці» — пісьменнікаў, рэжысёраў, публіцыстаў, крытыкаў? Імёны — знаёмыя, творы — таксама. Чым жа яны кіраваліся, вымалёўваючы ва ўяўленні свае фільмы, раманы, вершы? Кніга «Святло блізкіх зорак», якую ўклала загадчык кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук Людміла Саянкова, дазваляе «зазірнуць» у вочы, адчуць эмоцыі і зразумець думкі вядомых дзеячаў беларускай літаратуры і мастацтва. Зразумела, не дзякуючы машыне часу, а праз шматгранны «парад» эсэ, творчых партрэтаў, літаратуразнаўчых нарысаў, крытычных аглядаў, успамінаў — ад журналістаў, публіцыстаў, сяброў і дзяцей герояў.




Аб'яднальная сіла дваццаці трох асоб, якім прысвечана кніга, бярэ свой пачатак у адукацыі журналіста. Але яны не замкнуліся ў адной прафесіі, а выйшлі за рамкі рэдакцый — у свет мастацтва.

«Святло блізкіх зорак» цяжка назваць шэрагам дыфірамбаў ці сярэднестатыстычных біяграфій, бо перш за ўсё кніга вучыць — на добрых прыкладах адданых працы і радзіме людзей. Яны стварылі сябе самі, прайшлі праз вайну, пакуты, савецкую цэнзуру, нападкі крытыкаў, але талент не пакінулі, не згубілі.

Выхад кнігі ў «Выдавецкім доме «Звязда» прымеркаваны да 70-годдзя факультэта журналістыкі БДУ, таму натуральна, што многія разважанні прысвечаныя прафесіі, у якой спалучаюцца творчасць і мастацтва, навука і логіка.

З тэкстаў, што ўвайшлі ў зборнік, можна даведацца пра канкрэтныя факты біяграфій герояў. А ўдалыя цытаты паказваюць светапогляд, філасофію, прынцыпы майстэрства творцаў.

«З ранняга дзяцінства згадваецца, якія забаўныя і разнастайныя цені ён умеў паказваць рукамі на сцяне. Выразаў, не адрываючы ножанак, з паперы нейкія неверагодныя канструкцыі. Паказваў з-за спінкі крэсла лялечны тэатр: і бульбіны з моркаўкамі размаўлялі, і рукавічкі, і лялечныя галовы на пальцах, і проста рукі», — так пачынаецца кранальны ўспамін пра пісьменніка Паўла Місько. А вось «жаночы твар» беларускай літаратуры, Святлана Алексіевіч, прадстаўляецца чытачам праз больш структурны партрэт у прозе. Аўтар распавядае пра станаўленне пісьменніцы і журналісткі, ролю першага настаўніка, пошукі свайго жанру, вострае імкненне адлюстроўваць рэальнасць праз чалавечыя галасы, споведзі, пасведчанні.

Паўстае на старонках кнігі і Анатолій Алай — таксама з розных ракурсаў. Людміла Саянкова справядліва адзначае, што ён адзін з нешматлікіх рамантыкаў у кіно, а героі яго — асобы неардынарныя, буйныя, здольныя на ўчынкі, але адкінутыя грамадствам. Згадваецца, як журналістыка паўплывала на характар Анатолія Алая, яго кінематаграфічны почырк і прафесійнае станаўленне ўвогуле. Гэтая рыса прасочваецца і ў іншых аглядах кнігі. Глыбокія мастацкія паралелі ў апісанні асобы праводзіць аўтар: «ён, хутчэй, «піша» шырокімі мазкамі, аддаючы належнае эпічным інтанацыям, выхопліваючы з рухомай, неспакойнай рэальнасці толькі тое, што з'яўляецца падзейнай і фактaлагічнай сутнасцю…».

Арыгінальна выглядае аповед пра Пятра Васючэнку, пісьменніка, педагога, літаратуразнаўцу, крытыка і драматурга, ад паэта і журналіста Арцёма Кавалеўскага, які зараз таксама выкладае на журфаку. Гэтае «нелітаратуразнаўчае эсэ» нагадвае па форме дзённік студэнта, але ў змесце хаваецца пранікнёнасць, дасканаласць, лёгкасць і адначасова — глыбокая думка пра тое, што не бывае ў жыцці выпадковых людзей і нязначных сустрэч.

У кнізе «Святло блізкіх зорак» — таксама. Акрамя пералічаных асоб, зборнік змяшчае аповеды пра легендарнага беларускага кінакрытыка і педагога Еўфрасінню Бондараву, «патрыярха беларускай анімацыі» Алега Белавусава, класіка нацыянальнага кіно, аўтара стужкі «Белыя росы» Ігара Дабралюбава. Аднак больш за ўсё ўвагі — пісьменнікам і паэтам: Міколу Аўрамчыку і Леаніду Дайнеку, Барысу Сачанку і Міхасю Стральцову, Генадзю Бураўкіну і Васілю Зуёнку.

Дарчы, адзін з урокаў пісьменніка і журналіста Барыса Сачанкі гучыць так: калі не хапае аргументаў з жыцця, трэба шукаць іх у мудрых кнігах. Чаму б не пачаць са «Святла блізкіх зорак»?

**Марыя ВОЙЦІК**

# Праз абвостранае адчуванне часу

**Сярод абазнанай публікі існуе меркаванне, што малая сцэна — нешта выключнае альбо спецыфічнае. У вялікім горадзе з тэатральнымі традыцыямі — выключнае з плюсам, маўляў, пошукі, эксперыменты, развіццё. Пастаўце пытальнік пасля кожнага з трох апошніх назоўнікаў — і атрымаеце думку з правінцыі. Гомельскія тэатралы змянялі яе цягам дваццаці гадоў — дзякуючы Гомельскаму гарадскому маладзёжнаму тэатру.**


Фота Алега Белавусава
Юры Вута.


Фота Аляксея Сіроткі
Сцэнка са спектакля «Жанчына чакае… альбо Споведзь эгаісткі».

Ягоны фармат — проста мініяцюрны: у трупе каля дваццаці артыстаў і адзінкі тэхнічнага персаналу. Арандаваную сцэну з квадратным выступам-«языком» атуляюць дзвесце месцаў, за кулісамі — службовыя пакойчыкі і дзве грымёрныя каморы.

З 2010 года на чале тэатра — рэжысёр Юры Вута, дырэктар і мастацкі кіраўнік у адной асобе. Ягоны пераезд у Гомель стаў паваротнай падзеяй у жыцці Маладзёжнага тэатра, змяніўшы стаўленне калектыву да горада і да жыцця, можна сказаць, калектыўную тэатральную філасофію. Тэатр канчаткова вызначыўся як рэпертуарны, але бясконцыя камедыі саступілі месца добрым п'есам: і класічным, і сучасным, і замежным, і айчынным. Спектаклі набылі размаітасці (паводле тэматыкі і жанраў) і пэўнага сталічнага глянцу: Юры Вута папрацаваў рэжысёрам і дырэктарам Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача і мастацкім кіраўніком Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне. З шасці артыстаў, якіх у 1997 годзе прызначылі кіраваць тэатрамі ў якасці дырэктараў, ён адзіны застаўся дзейным тэатральным ачольнікам па сёння. Свой дэвіз — «Другой смены не будзе!» — Юры Вута тлумачыць проста: «Калі разумееш, што ніхто іншы не прыйдзе і за цябе нічога не зробіць — тады іначай усё асэнсоўваеш, і ўжо не засмучае недахап рэсурсаў жывых і матэрыяльных. Бо толькі мы гэта можам зрабіць і толькі зараз! Паказаць, прадказаць, папярэдзіць. Час трэба адчуваць: менавіта мы адкажам за белыя плямы ў гісторыі».

Праз абвостранае адчуванне часу ў 2012 годзе з'явіўся спектакль «Маркітантка Ганна Фірлінг» паводле п'есы Бертольта Брэхта «Матухна Кураж і яе дзеці» з Галінай Анчышкінай у галоўнай ролі. Матэрыял, разлічаны на вялікую сцэну і вялікую трупу, рэжысёр вырашыў перапрацаваць для абмежаванага акцёрскага складу і суаднесці са сціплымі фінансава-тэхнічнымі магчымасцямі. Ідэю падтрымаў пластычны і спеўны акцёрскі ансамбль. Сцэнаграфія на некалькі ўзроўняў, адметна стылізаваныя касцюмы. Здавалася, незацяганая эстэтыка, атмасфера, удалыя акцёрскія работы абяцалі спектаклю заўважнае сцэнічнае жыццё. Але па-за сцэнічнае існаванне падкідала то нечаканыя перамены ў трупе, то барукамне за творчае прызнанне, і, як вынік, расчараванне, калі праз папяровыя фармальнасці спектакль «Маркітантка Ганна Фірлінг» не трапіў на конкурс Нацыянальнай тэатральнай прэміі...

Папярэджаннем вайны гучаў і спектакль 2013 года «Крыштальная ноч — KRISTALLNACHT — Апошняя ноч», пеwдрама Інгмара Вілквіста, дзе два акцёры, апавядаючы пра яўрэйскія пагромы Трэцяга рэйху ўвосень 1938 года, трымалі залу ў напружанні цягам дзвюх гадзін.

Здавалася, поспех гэтых спектакляў абумоўлены тым, што Юры Вута, як запатрабаваны артыст кіно, даўно і якасна ўвасабляе на сцэне вайскоўцаў, камандзіраў, абаронцаў. Тым больш здзівіла ягонае абыходжанне з камедыяй «На другі дзень» паводле «Прымакоў» Янкі Купалы. Дзве старонкі аўтарскага тэксту Ю. Вута павялічыў да пацешнага, яскравага і вельмі сучаснага анекдота... на тры акты!

Прэм'ера сёлетняга сезона — спектакль «Жанчына чакае… альбо Споведзь эгаісткі» паводле п'есы Майкла Крыстофера «Ты ведаеш, чым ёсць каханне?». І хоць за ўсё жыццё ў розных тэатрах рэжысёр паставіў больш як пяцьдзясят спектакляў, гэтая пастаноўка зрабілася і эксперыментам, і прадметам сціплага гонару Юрыя Леанідавіча. Перадусім таму, што прыватная гісторыя амерыканскай кабеты стасавалася з жыццём нашых жанчын. І не так пошукамі героя свайго рамана, як пошукамі сябе... Галоўную ролю ў спектаклі выконвае Наталля Голубева.

Юры Вута рэалізаваўся і як драматург: у 2014 годзе разам з Васілём Ткачовым ён напісаў п'есу «Букет для ўнука», паставіў аднайменны спектакль, і... тэатр займеў абсалютна нечаканую публіку: пенсіянераў, якія раяць паглядзець пастаноўку сваім сябрам. Тэма непаразумення пакаленняў і дачыненні бабуль з унукамі хвалюе не жартам.

Дзяржаўныя грошы на пастаноўкі кіраўніку Гарадскога маладзёжнага тэатра хацелася б атрымліваць не пад замову, а для свабоднага выбару п'ес. І прыняць дзяржаўныя патрабаванні да пастаноўшчыкаў ён гатовы па самым вялікім рахунку, у тым ліку і за матэрыяльную акупнасць спектакляў: буйны адсотак гледачоў набывае квіткі праз касу і не прапускае прэм'еры. Прыклад — спектакль «Мой легіянер» К. Драгунскай у пастаноўцы Якава Натапава, дзе вядомая спявачка Зоя Гарына выконвае песні Эдзіт Піяф, акупіўся за адзін сезон і мае нязменны аншлаг. Нядрэнна было б забяспечыць тэатру і іншую свабоду: прыцягваць да супрацоўніцтва так званых вузкіх адмыслоўцаў, як у выпадку са спектаклем «Мой легіянер».

Гомель не сталіца з мноствам тэатральных прапаноў. І каб не супакойвацца, Гарадскі маладзёжны тэатр просіць крытыкі і навучання, майстар-класаў і абмену вопытам, каб ствараліся нагоды для параўнання і пераймання. Каб адчуваць час.

Здаецца, не так ужо і шмат просіць...

**Алена ПАРФІЯНОВІЧ**

# Бясконцы красавік



«Як ты без мяне там, як я без цябе тут? Пачуццём чалавека цягне сэрца ў родны кут», — ведаеце песню, што спявае дзяўчына з мілагучным, прыемна хрыплаватым, але такім мяккім голасам? Завуць яе Паліна Паланейчык, для слухачоў — Рэспубліка Паліна. Спявачка і яе калектыў (тут ёсць і гітары, і віяланчэль з барабанамі) існуе з восені 2011 года. Усё пачалося з Гран-пры на фестывалі «Бардаўская восень», а сёння гурт ладзіць каля сямідзесяці выступаў на год! Хуткім часам, пятага красавіка, Рэспубліку Паліну можна будзе пачуць у Наваполацку.

У свае дваццаць гадоў спявачка разважае вельмі сур'ёзна, лічыць, што кожная песня — жывы арганізм, які нельга падзяліць на тэксты і ноты. Паліна распавяла пра тое, да чаго гурт пільна рыхтуецца ўжо некалькі гадоў, патлумачыла, як музыка здолела пацясніць з яе сэрца рэжысуру і чаму хваляванне на выступах — гэта добрая з'ява.

**— Паліна, як здарылася, што музыка, прычым уласнага сачынення, стала тваім сур'ёзным захапленнем?**

— Песні я пачала пісаць яшчэ ў 15 год, досыць нечакана нават для самой сябе, — і лічу гэта адным з найвялікшых цудаў у жыцці. Зусім маленькай дзяўчынкай любіла весці дзённікі, падсумоўваць уласныя назіранні ў прозе. Мабыць, гэта падштурхнула. Скончыла школу па класе фартэпіяна. Не спынілася і трошкі асвоіла гітару. Ды і сям'я ў мяне музычная: бабуля і дзядуля спявалі ў маладосці.

**— Чым верш, напісаны паэтам, адрозніваецца ад лірыкі музыканта?**

— У тэкстах песень, акрамя рыфмы і сэнсу, вялікую ролю іграе эмацыянальны складнік. Трэба ўлічваць, у якім месцы рабіць удых, павышаць ці паніжаць тон голасу, цягнуць ноту доўга ці адрывіста. У мяне нараджаецца ўсё цалкам: і словы, і ноты. Не ведаю, як песня можа існаваць па кавалачках.

**— Памятаеш свой дэбют на сцэне?**

— Самы першы выступ памятаю даволі цьмяна. Мне было шэсць гадоў, і ў той час мне здавалася, што нічога страшнейшага за тое, каб выйсці на сцэну, не існуе ва ўсім свеце! Адчувала сябе натуральным помнікам з каменю! Але потым, праз частыя выступы на школьных канцэртах, у эстраднай студыі, прызвычаілася да пільных вачэй публікі.

**— Што адчуваеш на сцэне зараз?**

— Вялікае жаданне спяваць, дзяліцца сваімі пачуццямі і, нарэшце, шчасце! Вельмі цікавае і прыгожае пачуццё, калі нешта цягне цябе выказаць уласныя эмоцыі ў творчасці. І нічога з гэтым не зробіш. Але я лепш сябе адчуваю на ўтульных акустычных канцэртах, чым у вялізных залах.

**— Хваляванне замінае?**

— Не люблю, калі хвалявання наогул няма. Выступы атрымліваюцца не надта ўдалымі, калі я вясёлая і бестурботная. Хваляванне для мяне — гэта сур'ёзнае абдумванне дэталей, знікае яно, калі бярэш першыя акорды, адкрыўшы дарогу эмоцыям.

**— Пасля чаго табе звычайна хочацца схапіць лісток паперы, гітару — і выказацца?**

— Натхненне з'яўляецца падсвядома — яно нібы паветра. Але падштурхнуць да стварэння песень можа самае рознае: пабытавыя сітуацыі, кінастужка, шыкоўная карціна з выстаўкі ці вострасюжэтны раман. Энергетыка ўражанняў ад добрых твораў выліваецца ва ўласную творчасць.

**— Чаму твае песні збольшага беларускамоўныя?**

— Мова — не брэнд, не мода, не жыццёвая пазіцыя. Я нарадзілася на Беларусі, і гэтым усё сказана.

**— Над чым Рэспубліка Паліна працуе зараз?**

— У хуткім часе, напэўна, у траўні, прэзентуем новы альбом. Чакаю яго ўжо тры гады! Гэта вялікая справа і немалыя выдаткі — часавыя і фінансавыя. Але расцягваць нельга, хочацца рухацца далей. У альбом увойдуць 12 добра вядомых песень, якія мы спяваем на ўсіх канцэртах. Думаю, назва будзе «Бясконцы красавік». Чаму? Сама не памятаю — ды і няўжо гэта так важна? Наогул, я не люблю тлумачыць уласную творчасць: няхай кожны разумее па-свойму.

**— А як з творчасцю спалучаецца вучоба ў Акадэміі мастацтваў?**

— Ведаеце, калі я паступала, мне падавалася, што спецыяльнасць «Рэжысура тэлебачання» — гэта так цікава! На жаль, у 17 гадоў я яшчэ не бачыла сябе ў музыцы. А зараз не ўяўляю ў прафесіі, якую атрымала. Танцоры робяць гімнастыку, каб заставацца ў добрай фізічнай форме, прыгожа выглядаць, аднак гэта не сам танец. Вучоба ў акадэміі — такая ж гімнастыка. Я вучуся кінамове, аднак не магу ствараць штосьці такое, што магла б назваць творам мастацтва. Не хапае здольнасцей. Але ёсць кірунак, які мне цікавы, — дакументальны фільм-партрэт.

**— Можа дадатковая адукацыя паправіць сітуацыю?**

— Не ведаю. Медыкам, напрыклад, я ўсё роўна не стану. Можна атрымаць веды і ў інтэрнэце ці на курсах за два месяцы. Неабавязкова хадзіць на пары. Галоўнае — проста атрымліваць веды, прычым тыя, што цябе цікавяць, не спыняць гэты працэс.

**— Як ты ўсё паспяваеш?**

— Магу, канечне, прыдумаць, як цяжка мне размяркоўваць свае дні, наплесці пра папулярны зараз тайм-менеджмент, але скажу шчыра: вольнага часу ў мяне шмат, таму ўсё, што трэба, я паспяваю. Часам працую ўначы, сплю па дзве гадзіны, але гэта нармальна, з усімі такое бывае.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Шамякін ці Рэмарк?

**Рэйтынгі лепшых беларускіх пісьменнікаў любяць складаць крытыкі і літаратары. Але самых папулярных аўтараў могуць вызначыць толькі чытачы. Спісы найбольш запатрабаваных класікаў сусветнай літаратуры, беларускіх і расійскіх пісьменнікаў прапануе Надзея Варанцова — загадчыца аддзела па абслугоўванні карыстальнікаў Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна. Вядома, для адэкватнай інтэрпрэтацыі гэтых дадзеных патрэбны пэўныя ўдакладненні: у якім аб'ёме прадстаўлена (альбо зусім не прадстаўлена) творчасць розных беларускіх аўтараў, які працэнт узятых кніг складаюць праграмныя творы... Але разгляд нюансаў заняў бы не адну старонку, тым часам як самі рэйтынгі — цікавая інфармацыя для пісьменнікаў і чытачоў.**

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

Існуе меркаванне, што запатрабаванасць бібліятэк зніжаецца, але насуперак усім прагнозам сюды прыходзяць чытачы, якіх цікавіць не толькі віртуальная, але і друкаваная кніга. Які пэўстае сучасны чытач і што прываблівае яго ў кніжніцы? Каб адказаць на гэтыя пытанні, у нашай бібліятэцы штогод праводзіцца аналіз складу чытачоў і запатрабаваных выданняў.

У выніку даследавання за 2014 год атрыманы наступныя звесткі.

Чытачамі абанемента з'яўляюцца каля 8,5 тысячы чалавек. Яны наведваюць бібліятэку ў сярэднім 5 — 6 разоў на год.

Больш актыўнымі чытачамі з'яўляюцца жанчыны — 76%, мужчыны — 24%.

Аддаюць перавагу чытачы мастацкай літаратуры — 82,4%.

*З сучаснай беларускай літаратуры ў нашай бібліятэцы запатрабаваныя наступныя аўтары:*

**1. Наталля Батракова.**
**2. Тамара Лісіцкая.**
**3. Анатоль Драздоў.**
**4. Мікалай Чаргінец.**
**5. Васіль Ткачоў.**
**6. Леанід Дранько-Майсюк.**
**7. Андрэй Федарэнка.**
**8. Алесь Марціновіч.**
**9. Кастусь Цвірка.**
**10. Славамір Антановіч, Пётр Васючэнка.**

*З беларускай класікі:*

**1. Іван Шамякін.**
**2. Іван Мележ.**
**3. Уладзімір Караткевіч.**
**4. Максім Танк.**
**5. Ніл Гілевіч.**
**6. Іван Чыгрынаў.**
**7. Раіса Баравікова.**
**8. Рыгор Барадулін.**
**9. Максім Багдановіч.**
**10. Віктар Казько.**

*Рэйтынг запатрабаванасці беларускіх сучасных аўтараў па Гомельскай вобласці:*

**1. Наталля Батракова.**
**2. Мікалай Чаргінец.**
**3. Тамара Лісіцкая.**
**4. Уладзімір Ліпскі.**
**5. Алесь Жук.**
**6. Уладзімір Гаўрыловіч.**
**7. Анатоль Сульянаў.**
**8. Віктар Праўдзін, Андрэй Федарэнка.**
**9. Васіль Ткачоў.**
**10. Людміла Рублеўская.**

*З замежных аўтараў у дзясятку найбольш запатрабаваных уваходзяць:*

**1. Эрых Марыя Рэмарк.**
**2. Аляксандр Дзюма.**
**3. Уільям Шэкспір.**
**4. Міларад Павіч.**
**5. Джэром Сэлінджэр.**
**6. Джон Фаўлз.**
**7. Бернард Шоу.**
**8. Эрнэст Хэмінгуэй.**
**9. Чарльз Дзікенс.**
**10. Шарлота Брантэ.**

*Рэйтынг запатрабаванасці сучасных расійскіх аўтараў:*

**1. Андрэй Варонін.**
**2. Фрыдрых Нязнанскі.**
**3. Аляксандра Марыніна.**
**4. Наталля Несцерава.**
**5. Уладзімір Колычаў.**
**6. Вікторыя Платава.**
**7. Аляксандр Зорыч.**
**8. Марына Дзьячэнка.**
**9. Алена Арсеннева.**
**10. Іосіф Гольман.**

Цікавасць чытачоў выклікаюць найперш раманы — гістарычныя, псіхалагічныя, любоўныя, філасофскія, фантастычныя.

Галоўная група чытачоў бібліятэкі — студэнты ВНУ і вучні сярэднеадукацыйных школ — 52,5%.

Моладзь, якая наведвае кніжніцу дзеля адукацыі і самаадукацыі, выдатна карыстаецца найноўшымі тэхналогіямі (web-серверы, электронныя каталогі і г. д.). Сваімі запытамі і зацікаўленасцямі чытачы прыкметна ўплываюць на фарміраванне фонду бібліятэкі.

**Надзея ВАРАНЦОВА**

# Храм з… макароны

**У Лунінецкай цэнтральнай раённай бібліятэцы шмат літаратуры пра вытокі хрысціянскай рэлігіі, асновы праваслаўнага вучэння, сямейнага жыцця і выхавання дзяцей з праваслаўнага пункту гледжання, зборнікі біблейскіх гісторый, вершаў і апавяданняў.**



Спярша гэтая частка фонду размяшчалася ў мастацкім салоне кніжніцы. Але паколькі такіх выданняў большае і яны карыстаюцца папулярнасцю сярод чытачоў, было вырашана размясціць іх у асобнай зале, якую назвалі «Астравок духоўнасці» і ўрачыста адкрылі напярэдадні Дня праваслаўнай кнігі.

Зала афармлена маляўніча, у чым заслуга Вольгі Каспяровіч. Неўзабаве з'явяцца новыя кампазіцыі, прысвечаныя праваслаўным святам і падзеям. А яшчэ «Астравок духоўнасці» стане месцам, дзе мясцовыя мастакі і народныя майстры змогуць прадстаўляць свае карціны і іншыя творы на духоўныя тэмы. Сёння ж ганаровае месца заняў тут макет храма ў гонар іконы Божай Маці «Спагнанне загінулых», створаны дырэктарам раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Надзеяй Радзіяновіч з... макароны. Наведвальнікі таксама могуць пазнаёміцца з выстаўкай дзіцячага малюнка «Прыгажосць Божага свету».

**Таццяна КАРПУКОВІЧ,**
**загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Лунінецкай цэнтральнай раённай бібліятэкі**

# Відушчы дотык

Навуковая бібліятэка БНТУ, праграмы «Мівія» і «ЗаЧытанне» распачалі ўнікальны дабрачынны праект — «Тактыльныя кнігі». Яго ўдзельнікі ствараюць копіі сучасных дзіцячых выданняў для дзяцей-інвалідаў па зроку і ўжо працуюць над кнігай «Гісторыя пра маленькае трусяня» Кацярыны Талстой, якая пабачыла свет у расійскім выдавецтве «КомпасГид».

Малюнкі ў такіх выданнях не менш важныя за тэкст, таму супрацоўнікі адабралі фактурныя тканіны, каб паўтарыць ілюстрацыі ў выглядзе тактыльных аплікацый. У кніжніцы рэгулярна праходзяць майстар-класы, якія тэстуюць зробленыя кнігі, даюць парады, праводзяць заняткі па напісанні шрыфтам Брайля. Паўдзельнічаць у праекце можа кожны ахвочы.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# На радзіме помняць Пісьмянкова

**Вечарыну, прысвечаную памяці паэта-земляка Алеся Пісьмянкова, правялі члены народнага аматарскага аб'яднання «Літаратурная гасцёўня «Крынічка»», якое працуе пры Касцюковіцкай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя І. Чыгрынава. Завіталі сюды літаратары Аляксандр Бардоўскі і Васіль Ткачоў.**

Пачалася імпрэза са знаёмага многім голасу Алеся Пісьмянкова, які сёлета мог бы адзначыць 58-годдзе. У выкананні навучэнцаў Бялынкавіцкай школы, дзе вучыўся творца, гучалі вершы «Нядзеля ў Бялынкавічах», «І вёдры поўныя вады». Аляксандр Бардоўскі — аднавяскоавец і сябар Алеся Пісьмянкова, часты госць мерапрыемстваў, якія ладзіць цэнтральная бібліятэка. Мастак, кампазітар, інжынер, вынаходнік, паэт, яго вершы друкаваліся ў расійскіх, беларускіх, украінскіх газетах і часопісах.

У падарунак кніжніцы госці прывезлі свае новыя кнігі і партрэт Алеся Пісьмянкова, створаны Аляксандрам Бардоўскім. А новыя кнігі А. Бардоўскага «Выспы часу» і В. Ткачова «Варона» папоўнілі фонд краязнаўчай літаратуры.

Прысутныя з цікавасцю слухалі ўспаміны пра А. Пісьмянкова.

Часты госць літаратурных імпрэз і Васіль Ткачоў, які таксама асабіста ведаў А. Пісьмянкова. Творца падзяліўся ўспамінамі пра сустрэчы з ім, пазнаёміў прысутных з новымі творамі, якія ўвайшлі ў кнігу прозы «Варона».

Верш, прысвечаны А. Пісьмянкову, прадставіла член Саюза пісьменнікаў Беларусі, член народнага аматарскага аб'яднання "Літаратурная гасцёўня "Крынічка"" Наталля Азаранка.

**Тамара КОРШУНАВА,**
**загадчык аддзела маркетынгу цэнтральнай бібліятэкі імя І. Чыгрынава**

# Адвакацкая паэзія

Выстаўка «Францішак Багушэвіч. Адвакацкая і пісьменніцкая дзейнасць» адкрылася ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыя прымеркавана да 175-годдзя з дня нараджэння грамадскага дзеяча, паэта, празаіка, публіцыста.

У экспазіцыі прадстаўленыя матэрыялы, якія распавядаюць пра жыццёвы і творчы шлях паэта. У свой час Ф. Багушэвіч вучыўся ў Віленскай гімназіі, пасля ўдзелу ў паўстанні 1863 года зведаў лёс выгнанніка, скончыў Нежынскі юрыдычны ліцэй (Украіна), працаваў судовым следчым у гарадах Расіі і Украіны. У 1884 г. пераехаў у Вільню, дзе быў адвакатам пры акруговым судзе.

Захаваліся звесткі пра дабрачынную адвакацкую дзейнасць, калі Ф. Багушэвіч абараняў сялян у судзе бясплатна. Браўся за самыя складаныя і цяжкія судовыя справы, меў славу адваката-абаронцы простага люду. Уплыў прафесійнай дзейнасці на творчасць можна прасачыць па кнігах аўтара. «Песні Мацея Бурачка і Сымона Рэўкі з-пад Барысава» — гэта выяўленне далёка не ўсяго жыццёвага вопыту і лёсу Ф. Багушэвіча — вопыт следчага, адваката шырока адбіўся тут, падказаўшы сюжэты вершаў «У судзе», «Як праўду шукаюць», «У астрозе», «Скацінная апека», «Кепска будзе!», — зазначае літаратуразнаўца Алег Лойка.

На выстаўцы можна ўбачыць прыжыццёвы зборнік «Дудка беларуская» (Кракаў, 1896) — сапраўдную бібліяграфічную рэдкасць, а таксама пазнейшыя перавыданні твораў пісьменніка, якія ўбачылі свет у XX стагоддзі.

Частка жыцця творцы звязаная з Украінай. Прыцягвае ўвагу кніга твораў у перакладзе ўкраінскіх пісьменнікаў — Ф. Багушэвіч «Выбраныя творы» (Кіеў) пад рэдакцыяй Паўла Тычыны, якая выйшла ў сярэдзіне мінулага стагоддзя.

Можна пазнаёміцца з працамі С. Александровіча, А. Лойкі, А. Мальдзіса, Г. Кісялёва, К. Цвіркі, В. Рагойшы, У. Содаля, І. Багдановіч і іншых вядомых літаратуразнаўцаў і даследчыкаў, якія памагаюць больш поўна зразумець адметнасць Францішка Багушэвіча як асобы і творцы для свайго часу і асэнсаваць значэнне яго спадчыны для будучых пакаленняў.




**Святлана ПАЎЛАВІЦКАЯ, супрацоўнік аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі, фота аўтара**

# Натхненне за «манюкі»

Свята паэзіі «Малінаўскія галасы» ў Мінскай дзіцячай бібліятэцы № 15 правялі ўдзельнікі аднайменнай літаратурнай студыі разам з сябрамі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Свята праходзіла ў форме гульні-размовы паміж выступоўцамі і гледачамі. Кожны госць атрымаў папяровы «манюк», а выступоўцы прынеслі з сабой розныя непатрэбныя рэчы, якія гледачы і маглі набыць за «манюкі». У выніку атрымаўся сапраўдны аўкцыён.

Чаго толькі не прыносілі паэты! «Прадавалі» і старыя літаратурныя публікацыі ў часопісах, і завушніцы, і прыгожыя паштоўкі, і дамавічка, і нават цукеркі з гарбатай. Найбольш запомніўся маленькі мяшэчак, перавязаны яркай стужкай. Адна з удзельніц «Малінаўскіх галасоў» паклала туды жменю зямлі і сказала: той, хто атрымае гэты мяшэчак, ніколі не павінны развітвацца з роднымі мясцінамі.

Але чаму менавіта паэтычнае свята? Адказ просты: кожны выступоўца «суправаджаў» прынесеную рэч вершам. Аўкцыён праводзіла кіраўнік студыі Іна Фралова.

**Ксенія ВЯДЗМЕДЗЬ**

# Чараўнік роднага слова

Пад такою назваю ў Віцебскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна прайшла літаратурная вечарына, прысвечаная Рыгору Барадуліну. У аддзел краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі завіталі прыхільнікі творчасці паэта, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі горада, студэнты і вучні.

З цікавасцю слухалі прысутныя расповеды людзей, якія былі асабіста знаёмыя з народным паэтам. Пра дапамогу Барадуліна ў спасціжэнні пісьменніцкай справы і свае першыя крокі ў літаратуры распавёў паэт, перакладчык Уладзімір Папковіч. Зінаіда Комбар, якая ведала Рыгора Іванавіча са студэнцкіх гадоў, згадала іх сумесныя выступленні ў БДУ, а пісьменнік Сяргей Рублеўскі — вандроўку на радзіму паэта.

Загадчык аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі Ларыса Рагачова прэзентавала выданні твораў паэта, якія знаходзяцца ў фондзе аддзела. Асаблівую ўвагу надалі апошняй прыжыццёвай літаратурна-мастацкай кнізе «Лепей» (уключае рукапісы 1952 — 2013 гадоў) і двум зборнікам, што пабачылі свет пасля смерці пісьменніка: «У неба пехатою: апошнія вершы» і «Сны сасны». Не абмінулі і дзейнасць Віцебскай абласной кніжніцы па папулярызацыі творчасці Рыгора Барадуліна на старонках сайта.

Завяршыўся літаратурны вечар праглядам відэафільма пра народнага паэта Беларусі і песняй, пакладзенай на верш Рыгора Барадуліна «Босая зорка» ў выкананні А. Камоцкага.

**Наталля ФЕНЧАНКА, вядучы бібліёграф Віцебскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**

# Тут быў Барадулін

Юбілейны барадулінскі тыдзень, прымеркаваны да 80-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі, прайшоў у Мётчанскай школе Барысаўскага раёна і мясцовай бібліятэцы. Рыгор Барадулін тройчы наведваў тутэйшую навучальную ўстанову, напісаў некалькі вершаў, прысвечаных гэтым мясцінам: «Мядоцкі край», «Для шчырадушных — рай…», «Мова беларуская…». А ў школьным музеі «Літаратурны космас Мётчы» захоўваецца каля 100 барадулінскіх кніг, 70 з іх пазначаны аўтографамі паэта.

Тыдзень адкрыўся з мерапрыемства «Трэба ў Мётчы бываць часцей»: школьнікі дэкламавалі вершы паэта. У наступныя дні тыдня былі праведзеныя экскурсія «Пехатою ў неба…», гутарка пра кнігі паэта «Шляхам зерня». Але самай цікавай падзеяй сталіся ўспаміны настаўнікаў і былых вучняў школы пра незвычайны дзень 11 сакавіка 1995 года, калі тут святкавалі 60-годдзе з дня нараджэння Рыгора Барадуліна. Завітаў на свята і сам паэт. Дарэчы, у школьнай музейнай фанатэцы захоўваецца трохгадзінны дакументальны фільм з гэтай нагоды.

Завяршыўся барадулінскі тыдзень мерапрыемствам «Верш «Мядоцкі край» — гімн Мётчы», які правялі бібліятэкары Валянціна Безручонак і Любоў Лайкова.

**Уладзімір ЛАЙКОЎ.**



*Аляксандр Грышанаў «Мора».*

# Любоў да класікаў і кветак

Персанальная выстаўка маладога віцебскага мастака Аляксандра Грышанава «Душой напісаны пейзаж» працуе ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 14 імя Францішка Багушэвіча.

Аляксандр Грышанаў яскрава заявіў пра сябе яшчэ ў 2011 годзе, падчас першай персанальнай выстаўкі ў філіяле Віцебскага абласнога краязнаўчага музея — музеі-сядзібе Ільі Рэпіна «Здраўнёва». Выстаўляліся напісаныя алеем копіі работ класікаў рускага жывапісу — мастакоў-перасоўнікаў XIX стагоддзя Фёдара Васільева, Івана Шышкіна, Аляксея Саўрасава і г. д. Цяпер у Віцебскім абласным краязнаўчым музеі паспяхова экспануецца выстаўка «Кветкавы акорд», прысвечаная Міжнароднаму жаночаму дню. Аляксандра Грышанава ведаюць не толькі на малой радзіме, але і ў Польшчы: у Варшаве, Гданьску, Сувалках. Карціны знаходзяцца ў прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Польшчы, Германіі, Італіі.

А. Грышанаў захапіўся маляваннем яшчэ ў пачатковых класах, затым скончыў віцебскую мастацкую школу № 1. Падзеяй у жыцці 12-гадовага хлапчука стала наведанне майстэрні народнай мастачкі Беларусі Нінэль Шчаснай.

Убачыўшы карціны Аляксандра, польскі прадпрымальнік і аматар жывапісу з г. Сувалкі Беластоцкага ваяводства Ежы Медушэўскі даслаў яму ліст з просьбай напісаць копію адной з карцін знакамітага польскага мастака Альфрэда Кавальскага, ураджэнца таго ж горада. Наступныя паўгода А. Грышанаў вывучаў творчасць А. Кавальскага і пісаў копіі з яго работ, якія сёння дэманструюцца на выстаўцы ў музеі Альфрэда Кавальскага на яго радзіме. Далейшай арганізацыі персанальных выставак Аляксандра Грышанава ў Польшчы паспрыялі Расійскі цэнтр навукі і культуры ў Гданьску і Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве.

Перад пачаткам працы мастак доўга абдумвае колеравае і кампазіцыйнае рашэнне, але піша на дзіва хутка. Цяпер ён займаецца падрыхтоўкай чарговай персанальнай выстаўкі, гэтым разам — папулярнай сёння абстракцыі.

У экспазіцыі бібліятэкі імя Ф. Багушэвіча — больш як 30 карцін. Творчая энергія і патэнцыял аўтара ўражваюць. Акрамя копій палотнаў Фёдара Васільева, Ісака Левітана, Васіля Паленава ды інш., тут выстаўляюцца выявы кветак («Півоні», «Макі», «Сланечнікі») ды іншыя творы («Зубр», «Залатыя рыбкі», «Рэлакс»). Загадчык кніжніцы Наталля Стрыгельская зазначыла: у работах Аляксандра Грышанава не знойдзеш прыкмет урбанізацыі, яны раскрываюць прыгажосць прыроды, дэманструюць не кранутую тэхнічным прагрэсам пейзаж.

На адкрыццё выстаўкі завіталі член Беларускага саюза мастакоў Андрусь Равякоў, мастакі Аляксей Аліханаў і Мікалай Хомчык, якія далі важную для маладога мастака ацэнку яго творчасці, а таксама кіраўнік Народнага літаратурнага тэатра пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка Алеся Сівохіна і ўдзельніца гэтага калектыву Карына Пацко, паэтэса і бард, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ганна Чумакова. Гасцямі імпрэзы былі старшакласнікі сталічных сярэдніх школ № 125, 136 і 140. Пад мелодыю паланэза Агінскага «Развітанне з радзімай» у сценах кніжніцы гучалі вершы айчынных аўтараў. Новы вернісаж стаўся сінтэзам паэзіі, музыкі і выяўленчага мастацтва.

**Яна ЯВІЧ**

# Усе на марафон!

Гатаўская сельская бібліятэка-клуб працягвае рэалізацыю праекта «Марафон цікавых падзей» і ладзіць новыя сустрэчы з дзіцячымі пісьменнікамі і прадстаўнікамі выдавецтваў.

Нядаўна ў кніжніцу завітаў Уладзімір Ягоўдзік. Арганізатары мерапрыемства прадставілі юным чытачам агляд творчасці госця і выстаўку яго кніг. Хлопчыкі і дзяўчынкі дэкламавалі вершы і падрыхтавалі малюнкі па творах пісьменніка. Лепшыя творца паабяцаў змясціць у часопісе «Качели».

Сустрэча спадабалася ўсім. Бацькі з задавальненнем набывалі кнігі з аўтографам пісьменніка, папоўніўся бібліятэчны фонд.

* * *

Што лепш за ўсё абуджае фантазію маленькага чытача? Вядома, казка! Задача супрацоўнікаў бібліятэкі — адкрыць чытачам змястоўную шматмернасць, мастацкую невычэрпнасць жанру. Нядаўна юныя чытачы бралі ўдзел у мерапрыемстве, прысвечаным творчасці Якаба Грыма. Да ўдзелу ў конкурсе «Адгадай казку» хлопчыкі і дзяўчынкі падрыхтаваліся грунтоўна, пераможцы атрымалі прызы.

**Іна УРБАН**

# «Чайка»

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Але самае галоўнае — адказ на пытанне, пра што напісаў сваю п'есу герой Канстанцін Траплёў. Вядомае «Людзі, ільвы, арлы і курапаткі...» — гэта прадчуванне апакаліпсіса.

Сёння нам кожны дзень паказваюць фільмы-катастрофы і распавядаюць, што Зямля існуе мільёны гадоў, а цывілізацыі на планеце змяняюць адна адну. Антон Паўлавіч напісаў пра гэта больш як 100 гадоў таму.

Усе п'есы Чэхава — камедыі, і «Чайка» ў тым ліку. Сутнасць гэтага жанру пісьменнік разумеў пасвойму. Яго назіранні за людзьмі вельмі дакладныя, і камедыйнасць заключаецца ў адхіленым поглядзе на чалавека, як бы зверху.

Па задумцы рэжысёра купалаўскай «Чайкі», на фоне прадчування глабальнай сусветнай катастрофы ўсе жарсці герояў п'есы выглядаюць дробязнымі. Каханне, рэўнасць, выпрабаванні творчасці і нерэалізаванасць жыцця смешныя ў параўнанні з перспектывай гібелі ўсяго існага. І вартыя таго, каб з іх пасмяяцца.

Сцэнаграфію і касцюмы для прэм'ернага спектакля Купалаўскага тэатра распрацаваў Марыус Яцоўскіс, які паспяхова супрацоўнічае з большасцю літоўскіх тэатраў, з маскоўскім «Современником», Вахтангаўскім тэатрам, працуе ў тэатрах Еўропы. Беларусам ён вядомы як мастак-пастаноўшчык спектакля «Дзяды» «Тэатра Ч». Пазачасавыя, мінімалістычныя дэкарацыі, касцюмы ў спакойнай, бела-шэрай гаме. Паводле рэжысёра «Чайкі» Мікалая Пінігіна, задача любой класікі — данесці людзям актуальнасць п'есы, хай і напісанай два стагоддзі таму.

Менавіта таму касцюмы толькі нагадваюць вопратку канца XIX стагоддзя. Калі зрабіць іх цалкам адпаведнымі эпосе, увага гледача будзе толькі адцягвацца, і ён падумае, што сцэнічнае дзейства яго не тычыцца. Важна знайсці меру, каб дзеянне адбывалася адначасова сёння, і ўчора, і два стагоддзі таму.

У цэлым «Чайка» М. Пінігіна выдатная, але мае і невялікія агрэхі. Варта адзначыць, што зусім пазачасавым спектакль не атрымаўся. Некалькі апошніх пастановак Купалаўскага тэатра адрозніваюцца выкарыстаннем праекцыйнай тэхнікі, што цалкам апраўдана. Але ў «Чайцы» атрымаўся перабор так званых новых форм.

Калі знакаміты маналог «Людзі, ільвы, арлы і курапаткі...» галоўная гераіня п'есы прамаўляе на фоне відэашпалеры сусветнай катастрофы і гэта стасуецца з агульнай задумай перадачы сэнсу твора, то выкарыстанне Зарэчнай відэакамеры, а Траплёвым ноўтбука выглядае недарэчным. Фінал спектакля шакуе, і жудасна выглядае алегорыя пачарговых стрэлаў Аркадзінай і Трыгорына ў Траплёва.

Прыемным стала гучанне «Чайкі» на беларускай мове. Акрамя таго, прадстаўлена новая для Купалаўскага тэатра паслуга: сінхронны пераклад на англійскую мову. На ўваходзе ў залу гледачы могуць атрымаць радыёпрыёмнік з навушнікам: падчас пастаноўкі перакладчык чытае тэкст ужывую. Паслуга бясплатная.

— Мы не сталі чакаць наступлення новага сезона і вырашылі выкарыстаць такую магчымасць ужо сёння. «Чайка» стала першым спектаклем, які гледачы змаглі пачуць у перакладзе з беларускай мовы на англійскую. На ўсе апошнія пастаноўкі Купалаўскага, а гэта пяць спектакляў, ужо падрыхтаваны тэксты перакладаў на замежную мову. Увогуле, сістэма дазваляе выкарыстоўваць адначасова тры каналы і тры мовы адпаведна, — адзначыў генеральны дырэктар Купалаўскага тэатра Павел Палякоў.

У прэм'ернай пастаноўцы занятыя Зоя Белахвосцік, Аляксандр Казела, Валянціна Гарцуева, Раман Падаляка, Аляксандр Падабед, Сяргей Рудзеня, Вікторыя Чаўлытка і іншыя. Музыку для спектакля напісаў кампазітар Андрэй Зубрыч. Пераклала на беларускую Марына Казлоўская.

**Таццяна ШЫМУК**

# ...ці «Царская нявеста»?

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Спектакль-роздум пра адметнасці ўзаемаадносін чалавека і ўлады, пра адмысловае адчуванне гісторыі прадставілі дырыжор заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Мікалай Калядка, рэжысёр Міхаіл Панджавідзэ, хормайстар народная артыстка Беларусі Ніна Ламановіч, мастакі Аляксандр Касцючэнка (сцэнаграфія) і Ніна Гурло (касцюмы).

Трупе тэатра спатрэбілася больш як дзесяць месяцаў, каб узнавіць сюжэт драмы Льва Мея пра трагічную гісторыю жаніцьбы цара Івана Грознага. Характэрная рыса беларускай опернай пастаноўкі — адсутнасць баярскага чаявання, што мае месца ў спектаклях іншых тэатраў. Традыцыя чаявання прыйшла на рускую зямлю нашмат пазней за час, што апісваецца ў «Царскай нявесце»: тады пілі толькі квас і мёд. Спектакль унікальны тым, што ўпершыню на сцэне задзейнічаныя тры акустычныя ракавіны. Галасы артыстаў гучаць узрушана, раскрываюцца ўсе вакальныя магчымасці спевакоў.

— «Царская нявеста» — опера, цікавая новым пакаленням слухачоў перш за ўсё праўдай пачуццяў. Душэўныя пакуты Любашы, бацькоўская любоў Сабакіна, чысціня і ахвярнасць Марфы… Такія вечныя тэмы, як здрада, каханне ўзаемнае, каханне непадзеленае, лёс, улада, раскрытыя шчыра і зразумелыя кожнаму. А калі адысці ад бытавога разумення сюжэту, убачыўшы сапраўды трагедыйны размах, можна разгадаць містычную таямніцу гэтай оперы, схаваную ў выдатнай музыцы, цудоўных тэмбравых і дынамічных характарыстыках аркестра, дзейсным і невераготна меладычным вакале, драматычнай гульні, — адзначыў дырыжор-пастаноўшчык спектакля Мікалай Калядка.

Уражваюць велічнынёй і кінематаграфічнасцю дэкарацыі пастаноўкі. Але, нягледзячы на важкі выгляд, канструкцыя выканана з лёгкіх матэрыялаў і збіраецца ўсяго за 4-5 гадзін.

Як пастлумачыў мастак-пастаноўшчык Аляксандр Касцючэнка, эпоха, паказаная ў «Царскай нявесце», — перыяд станаўлення рускай дзяржавы і ўмацавання царскай улады. Для таго каб перадаць на сцэне дух і каларыт эпохі, ён паспрабаваў стварыць такі сцэнічны вобраз спектакля, які дапоўніў бы музыку візуальна і адкрыў новы пласт зместу. Фактура матэрыялаў, з якіх выраблены дэкарацыі, энергетычна павінна «працаваць» на набліжэнне гледача да адчування часу, у якім адбываецца гэтая гісторыя.

З пункту гледжання стылістыкі, у параўнанні з іншымі пастаноўкамі «Царскай нявесты» гэты спектакль не мае намёкаў на постмадэрнізм. Сюжэт адбываецца ў той час і ў тым месцы, якія вызначаюцца арыгіналам. Не цалкам ацэненая сучаснікамі, але безумоўна прынятая нашчадкамі, «Царская нявеста» сёння — чыстая крыніца чыстага харaства.

**Таццяна ШЫМУК**

# Ноч. Вуліца. Стрыт-арт. Мастацтва



Фота з сайта citydog.by

**У сталічным Цэнтры сучасных мастацтваў упершыню ў нашай краіне быў прадстаўлены выставачны інтэрактыўны праект вулічнага мастацтва Расіі «TIME FOR ART»: у ноч з 20 на 21 сакавіка ў залах ЦСМ экспанаваліся постары, палотны, ілюстрацыі, графіці, арт-аб'екты, стыкеры ды інсталяцыі сучасных мастакоў з Масквы, Санкт-Пецярбурга ды іншых расійскіх гарадоў.**

У працэсе плённага супрацоўніцтва са стрыт-арт кам'юніці SIGNAL і яго кіраўніком Алегам Ларычавым Цэнтр сучасных мастацтваў і Музей сучаснага выяўленчага мастацтва ўжо чацвёрты год запар ладзяць лекцыі ды воркшопы, прысвечаныя вулічнаму мастацтву. Летась у кастрычніку сумесна з Пасольствам Бразіліі ў Беларусі быў рэалізаваны ўнікальны міжнародны праект «Vulica Brasil».

Інтэрактыўная выстаўка «TIME FOR ART», якая ўжо праходзіла ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Растове-на-Доне, Краснадары, а пасля Мінска ўзяла курс на Мурманск, — прыступка на шляху падрыхтоўкі да чарговага маштабнага эксперыментальнага міжнароднага фестывалю URBAN MYTHS.

Загадчык навукова-экспазіцыйнага аддзела Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Каміла Янушкевіч распавяла: паколькі вулічныя мастакі малююць ноччу, на выстаўцы стварылі атмасферу начной вуліцы. Акрамя таго, гасцей чакалі розныя цікавосткі: фільмы пра графіці, майстар-класы ад мастакоў, скетч батл (конкурс на лепшы малюнак для ўсіх жадаючых).

Мэта праекта — правесці эксперымент і паказаць творчасць майстроў расійскага стрыт-арту шырокай публіцы.

На думку кіраўніка дызайн-студыі OBLAKOV (Масква) Дзмітрыя Аблакова, ствараць можна і па начах, і днём — калі прыходзіць натхненне, а час для мастацтва знойдзецца заўсёды.

**Яна ЯВІЧ**


ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

**Заснавальнікі:**
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. С. Мастоўскі

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 26.03.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2263.

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1464 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

ISSN 0024-4686